27 студзеня 2017 | № 3 (517)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Споведзь ЦРУ
Стар. 20



# Марш-марш левай!

## Ці атрымаецца ў апазіцыі «гарачая вясна»?



Сяргей ПУЛЬША

Узрушаныя актыўным незадавальненнем грамадзян наконт «дармаедскага дэкрэту», апазіцыя плануе маштабныя акцыі пратэсту.

Ужо запланавана, прынамсі, дзве з іх. На акцыю, якая павінна прайсці 17 лютага ў цэнтры Мінска, заклікае Нацыянальны кангрэс Уладзіміра Някляева і Мікалая Статкевіча.

Структурныя палітычныя партыі і рухі стварылі аргкамітэт па правядзенні «маршу недармаедаў» 15 сакавіка. У яго ўвайшлі дзевяць арганізацый: Беларуская партыя левых «Справядлівы свет», Аб'яднаная грамадзянская партыя, рух «За Свабоду», аргкамітэты па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», Партыі працоўных і партыі «Надзея», Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), Беларуская партыя «Зялёныя» і грамадзянская кампанія «Наш дом». Кіраўнік АГП Анатоль Лябедзька з гэтай нагоды сказаў, што «рэпетыцыя» сакавіцкай акцыі можа прайсці ў лютым у нейкім рэгіёне.

Бачна, што ў шэрагах арганізатараў няма Партыі БНФ. І гэта зразумела: яе свята — Дзень Волі 25 сакавіка, і яна будзе рыхтаваць шэсце да ўгодкаў БНР. Але і без сацыяльных пытанняў на святкаванні, напэўна, не абыдзецца.

Зразумела, узнікае пытанне, ці не запозна ачомаліся? «Дармаедскі падатак» паўстаў не сёння. Варта ўзгадаць толькі эпатажнага дармаеда Юрыя Шульгана, які ў 2015-м імкнуўся не толькі ў прэзідэнты краіны, але і планаваў стварыць шырокі рух «лайдакоў». Але астатнія апаненты ўлады гэтаму пытанню надавалі ўвагу хіба што эпізадычна.

Справа ў тым, што народ прыціснула менавіта зараз. Тэрмін аплаты падатку на дармаедства выходзіць 20 лютага. Патрабаванні заплаціць падатак дасылаюцца і жуку, і жабе: тым, хто не жыве ў Беларусі, студэнтам, пенсіянерам і нават памерлым. Пры гэтым грамадзяне задаюцца лагічным пытаннем: «А за што плаціць?» Улады ў адказ няўцямна кажуць пра «кампенсацыю дзяржаўных выдаткаў», але канкрэтнага каштарысу прадставіць не могуць.

Дый сама сістэма спагнання гэтага падатку дзіўная: доказ таго, што чалавек — не дармаед, павінна прадстаўляць сама асоба, у гэтым абвінавачаная. Нібыта ў краіне ўжо адмянілі прэзумпцыю невінаватасці. Па розуме, менавіта падатковыя павінны тлумачыць, чаму чалавека запісваюць у дармаеды. А паколькі яны «тлумачыць нічога не абавязаныя», то і ідуць «лісты шчасця» студэнтам ды нябожчыкам.

Больш за тое, улада нават не імкнецца патлумачыць і эканамічную мэтазгоднасць падатку. Паводле ж альтэрнатыўных падлікаў, грошы, затрачаныя на «лісты шчасця», у дзясяткі разоў перавышаюць імаверна атрыманыя плацяжы ў бюджэт. Не кажучы ўжо пра ўскосныя страты — псаванне людзям нерваў і страчанага працоўнага часу на тое, каб даказаць, што ты «не вярблюд».

Народ гэтым, зразумела, раз'юшаны. І небеспадстаўна.

А вось ці ўдасца ператварыць гэтую незадаволенасць у масавы пратэст, які б прымусіў уладу адмяніць дзіўны падатак, — вялікае пытанне.

Найперш, у народа існуе шмат адтулінаў для «выпускання пары», якія стварылі самі ж незадаволеныя. Гэта збор подпісаў за адмену дармаедскага падатку — як ужывую, так і ў інтэрнэце. Чалавек, які такім чынам ужо выказаўся па гэтым пытанні, на акцыю пратэсту можа і не пайсці. Другую адтуліну могуць разрэкламаваць улады, якія аддалі права змякчыць альбо адмяніць падатак мясцовым органам улады — маўляў, напішыце заяву ў ваш выканкам, і з вас гэты падатак здымуць з-за «цяжкага матэрыяльнага становішча». Можа, канешне, і не здымуць, але паспрабуйце і дачакайцеся вынікаў, а потым пратэстуйце.



Фота Уладзіміра Сапагова

Што тычыцца «маршу недармаедаў», дык супраць спрацуе яшчэ і фактар часу. Калі падатак трэба заплаціць да 20 лютага, ці ёсць сэнс выходзіць з пратэстам 15 сакавіка, хоць гэта і Дзень Канстытуцыі?

Ну і, канешне, значна перабольшаная роля інтэрнэту ў мабілізацыі грамадства на пратэст. Як паказвае практыка, актыўнасць інтэрнэтам і абмяжоўваецца.

> **Ці ператворыцца народная незадаволенасць у масавы пратэст?**

Відавочна, каб зрабіць пратэст масавым, апазіцыі трэба шукаць новыя формы ўзаемадзеяння з насельніцтвам. Напрыклад, наладзіць не мітынг, а цэнтралізаваны збор подпісаў супраць падатку на дармаедства — у адзін дзень у адным месцы. Туды хаця б прыйдуць тыя, хто не бачыў зборшчыкаў подпісаў на свае вочы, але жадаў бы падпісацца за адмену падатку. А ў мітынг яно перарасце само...

Варта і зрабіць высновы з акцый пратэстаў прадпрымальнікаў, якія адбываліся менавіта ў гэтыя дні, але год таму. І якія вынікаў не далі — з-за іх нешматлікасці па колькасці ўдзельнікаў і шматлікасці па колькасці мерапрыемстваў. Бо мы ж, найперш, хочам дамагчыся вынікаў, а не проста прадэманстраваць сваю незадаволенасць?

Пытанняў, як зavaбіць народ, заняты зараз найперш выжываннем, на акцыі пратэсту, канешне, багата. Але гэта не значыць, што не трэба нічога рабіць. Проста варта памятаць, што сапраўдны вынік гэтай працы будзе нечаканым. Ну хто мог чакаць, што ў 1991 годзе ў «Вандэі перабудовы» на мітынг выйдуць 100 тысяч працоўных і будзе арганізаваны агульнарэспубліканскі страйк?

# Андрэй Бандарэнка выйшаў на сувязь

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Нарэшце прыйшоў ліст ад праваабаронцы і вязня сумлення Андрэя Бандарэнкі. Ён нейкім цудам здолеў прабіцца скрозь цэнзурнае сіта турмы №4. Тры папярэднія лісты «згубіліся» ў дарозе.**

Як піша Бандарэнка, лісты ад яго не прапускаюць, спасылаючыся на іх «цынічны характар». На думку турэмных цэнзараў, «цынізмам» з'яўляецца тое, што ён піша пра свой побыт і новы крымінальны пераслед. Пры гэтым у парадку рэчаў тое, што яму збіраюцца дадаць два гады турмы літаральна ні за што.

Табу накладзена, па сутнасці, на ўсю выходную карэспандэнцыю. Да гэтага часу Бандарэнка не ведае, хто з адрасатаў атрымаў яго лісты. Варта зазначыць, што гэтую вестку ад вязня я атрымаў пасля паўзы, якая цягнулася аж з лістапада 2016 года. Напэўна, газета — адзіны сродак паведаміць праваабаронцу пра атрыманне альбо неатрыманне ліста. (Між іншым, Бандарэнка паведамляе, што атрымаў ліст ад «Новага Часу» і адразу адказаў. Але гэтага адказу ў рэдакцыі пакуль не дачакаліся. — НЧ).

Цяпер мы ведаем, што рыхтуецца (дакладней, фабрыкуецца) судовы працэс па абвінавачванні Андрэя Бандарэнкі ў злосным непадпарадкаванні патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы. Верагодна, ён пройдзе ў канцы лютага. Суд павінен быць адкрытым, але для абмежавання наведвання месцам правядзення працэсу можа быць прызначаная турма №4. Бандарэнка запрашае ўсіх праваабаронцаў, журналістаў, сваіх знаёмых, а таксама міжнародных экспертаў прыняць удзел у працэсе.

За той жа перыяд я атрымаў аж тры лісты ад Міхаіла Жамчужнага, які называе сябе «змоўшчыкам» Андрэя Бандарэнкі. Ён звяртаецца да мяне як да адзінага легітымнага суддзі Беларусі і прасіць узяць «пад кантроль» яго крымінальную справу ў звязку са справай Бандарэнкі. Свае вялізныя лісты Жамчужны называе «наглядными скаргамі» і пазначае іх нумары.

Жамчужны тлумачыць вытокі яго крымінальнага праследу. Ён звязвае іх з эканамічнымі махінацыямі, якія здзяйсняліся вядомымі яму людзьмі на тэрыторыі Віцебскай вобласці. Праваабаронца паспрабаваў у свой час даводзіць гэтыя махінацыі да агульнага ведама, за што пацярпеў ад праваахоўных органаў.

Мне ўяўляецца, што яго інфармацыя заслугоўвае грамадскай увагі, як і абставіны сфабрыкаванай супраць яго крымінальнай справы.

Я пагадзіўся быць «суддзёй» у справе Жамчужнага і Бандарэнкі незалежна ад тэрмінаў даўнасці. Ісціна і справядлівасць павінны быць аднолькавымі.

# Супраць штрафаў за грамадскую актыўнасць

Арцём ЛЯВА

**Ініцыятыва «Крок да закону» распачала збор подпісаў з патрабаваннем спыніць практыку накладання вялізных штрафаў за ўдзел у несанкцыянаваных акцыях.**

У сядзібе Партыі БНФ 23 студзеня з 17 да 20 гадзін праходзіў актыўны збор подпісаў пад адпаведнай заявай.

У дакуменце, які плануецца даслаць у Адміністрацыю прэзідэнта, Палату прадстаўнікоў, Вярхоўны і Канстытуцыйны суды, у пракуратуру і Міністэрства ўнутраных спраў, прадстаўніцтва ААН і Еўрапейскага саюза, а таксама ў палітычныя партыі і арганізацыі, гаворыцца:

«У апошнія гады беларускія ўлады імітуюць змякчэнне карнай палітыкі, прымяняючы пераважна штрафныя санкцыі ў адносінах да ўдзельнікаў акцый пратэсту. Пры гэтым велічыні штрафаў нярэдка перавышаюць памеры сярэднестатыстычнага заробку па краіне (300–350 долараў). У выніку яны складаюць астранамічныя сумы, якія невыносным цяжарам кладуцца на актывістаў і іх сем'і. Сумы штрафаў актывістаў грамадзянскай супольнасці дасягнулі летась 150 тысяч долараў. За год выдадзена каля 600 пастаноў пра накладанне адміністратыўных штрафаў. У выпадку няўплаты штрафаў накладаецца арышт на маёмасць, у тым ліку на жылыя памяшканні».

Складальнікі заявы патрабуюць спыніць практыку прымянення штрафных санкцый за рэалізацыю грамадзянамі сваіх палітычных правоў і свабод, а таксама прызнаць недапушчальным накладанне арышту на маёмасць пры наяўнасці нявыплачаных штрафаў.

Сваю згоду падпісаць дакумент, паводле арганізатараў, на вечар 23 студзеня далі Наталля Радзіна, Павел Севярынец, Віктар Карняенка, Людміла Мірзаянава, Аляксандр Мех, Мікалай Аўтуховіч, Аляксей Янукевіч, Мечыслаў Грыб, Вадзім Казначэеў ды іншыя вядомыя асобы.

«Наша ініцыятыва «Крок да закону» базуецца не толькі на тэарэтычнай працы. Практычная частка нашай працы — тактычныя крокі па палягчэнні ўмоў зняволеных, кампанія па адмене 411 і 328 артыкулаў Крымінальнага кодэксу. Народ запалоханы і баіцца звяртацца да ўладаў. Мы пратэстуем супраць неадэкватна вялікіх штрафаў за несанкцыянаваныя акцыі, якія падаўляюць любую грамадскую актыўнасць. Сёння мы збіраем подпісы пад зваротамі ў нашы дзяржаўныя органы і міжнародныя структуры з заклікам адмяніць заганную практыку накладання велічэзных штрафаў за грамадскую актыўнасць і арышт маёмасці за неаплачаныя штрафы, як зараз шырока практыкуецца. Калі мы зможам гэтага дамагчыся, атмасфера ў грамадстве палепшыцца, у іншых сферах людзі змогуць бараніць свае правы больш рашуча і выніковa», — патлумачыла журналісту НЧ сэнс калектыўнай заявы Вольга Маёрава.

**Даведка:**

Ініцыятыва «Крок да закону», у якую ўваходзяць Міхаіл Пастухоў, Мечыслаў Грыб, Мікалай Казлоў, Аляксандр Дабравольскі, Алег Волчак, Юры Валчок, Ганна Шапуцька, Вольга Маёрава, Вольга Мікалайчык, распрацоўвае праект рэформы судовай і праваахоўнай сістэмаў, які прадугледжвае ўзмацненне грамадзянскага кантролю за іх дзейнасцю і паляпшэнне сітуацыі з правамі зняволеных і пакараных іншым чынам.

Ініцыятыва таксама займаецца абагульненнем досведу тых краін, якія падобныя рэформы правялі ці праводзяць (у першую чаргу, гэта Украіна, Грузія і краіны Балтыі), а таксама адаптацыяй да нашых умоў крымінальных заканадаўстваў развітых дэмакратычных краін.

# «Круглы стол» па Слуцкаму паўстанню?

Зінаіда ЦІМОШАК

**Кіраўніцтву Слуцка не даюць забыць пра адсутнасць помніка ўдзельнікам Слуцкага збройнага чыну.**

Спачатку грамадскія актывісты Слуцка ініцыявалі зварот па перайменаванні вуліцы Камсамольскай у вуліцу Слуцкіх паўстанцаў, а з зараз сябры Рады Руху "За Свабоду" Аліна Нагорная і Алесь Лагвінец разам з актывістамі ініцыятыўнай групы «Дзея» збіраюць подпісы за ўсталяванне помніка ўдзельнікам Слуцкага збройнага чыну.

Аліна Нагорная 25 студзеня накіравала зварот у Слуцкі райвыканкам з просьбай правесці «круглы стол», прысвечаны Слуцкаму збройнаму чыну. Таксама яна звярнулася ў слуцкую раённую бібліятэку з просьбай даць памяшканне для гэтага мерапрыемства.

Плануецца запрасіць на «круглы стол» кіраўніцтва райвыканкаму, вядомых грамадскіх дзеячаў, гісторыкаў.

Зараз Нагорная чакае адказу на свой зварот і разам з сябрамі ініцыятыўнай групы «Дзея», Руху "За Свабоду" і Алесем Лагвінцом працягвае збіраць подпісы пад калектыўным зваротам наконт усталявання ў Слуцку помніка паўстанцам.

Праз 3 гады будзе адзначацца 100-годдзе гэтай гістарычнай падзеі, а ў Слуцку да гэтага часу пра яе няма ніводнага памятнага знаку.

Алесь Лагвінец паведаміў, што ў самім Слуцку ўжо сабрана каля 1000 подпісаў за помнік і ствараецца грамадскі камітэт з вядомых беларусаў, каб разам паспрыяць станоўчаму рашэнню ўладаў.

«Культурная і палітычная спадчына гэтай велічнай акцыі — моцны гістарычны і ідэалагічны падмурак сучаснай незалежнай Беларусі. Сёння, ва ўмовах сур'ёзных знешніх выклікаў, гісторыя Слуцкага збройнага чыну — важкі аргумент на карысць суверэнітэту і дзяржаўніцкай традыцыі нашай краіны. Даўно надышоў час для перагляду нашай гістарычнай спадчыны, удзячных і справядлівых ацэнак мінулага. Вельмі спадзяемся, што ўлады ўрэшце гэта зразумеюць і пойдуць насустрач патрыятычнай прапанове грамадзян», — падкрэсліў Алесь Лагвінец.

# Рэжыму патрэбна запалохаць грамадства

Арцём ЛЯВА

**На форуме «Свабоду палітвязням» абмеркавалі сітуацыю з рэпрэсаванымі і разгледзелі шляхі іх падтрымкі.**

У мерапрыемстве прынялі ўдзел прадстаўнікі БХД, АГП, установы «Тайм-акт», ініцыятывы «Крок да закону», праваабарончай групы «За Волю», камітэта бацькоў беларускіх добраахвотнікаў, што ваююць за Украіну. Прысутнічалі і выступалі Мікола Статкевіч, Ганна Шапуцька, Павел Севярынец, Вольга Маёрава, Мікола Дзядок, Мікалай Аўтуховіч, Міхаіл Пастухоў, Аляксей Туровіч, Васіль Завадскі, Вольга Мікалайчык, Віктар Мельнікаў, маці вязня Тараса Аватарава

«Рэжыму патрэбна запалохаць грамадства напярэдадні сацыяльных акцый, бо расце сацыяльнае напружанне. Праўладныя аналітыкі ўжо зараз увязваюць магчымыя сацыяльныя пратэсты з дзеяннямі расійскіх спецслужбаў. Такім чынам, Захаду дасылаецца сігнал, што, нейтралізуючы завадатараў гэтых акцый, улада нейтралізуе агентаў Масквы. Мы павінны на такія захады ўладаў рэагаваць хутка і своечасова», — адзначыў Мікола Статкевіч.

Ганна Шапуцька адзначыла важнасць неадкладнай адмены артыкула 411 КК, які прадугледжвае крымінальнае пакаранне за дысцыплінарныя парушэнні вязняў: «Гэта жахлівая з'ява, калі прадугледжана і ўжываецца дадатковае крымінальнае пакаранне за дысцыплінарныя парушэнні вязняў».

Прычым, ступень цяжкасці парушэння зазвычай вызначаецца адвольна кантралёрамі, якія гэтым правам вельмі часта злоўжываюць. Актывістка падкрэсліла, што за малазначныя парушэнні, за якія нельга караць у крымінальным парадку, урэшце заводзяць крымінальную справу паводле артыкула 411 КК.

Былы палітвязень Мікола Дзядок распавёў, што, хаця па артыкуле 411 КК дадаюць 1–2 гады, ён не абмежаваны ў прымяненні. Паводле яго слоў, ёсць выпадкі, калі людзі, асуджаныя на 3 гады, сядзелі па 7 гадоў. Зразумела, што лёс вязня пры наяўнасці артыкула 411 КК аказваецца ў поўнай залежнасці ад стаўлення адміністрацыі калоніі. Таксама экс-вязень звярнуў увагу на артыкул 410 КК (дэзарганізацыя працы папраўчай установы), трактоўка якога дазваляе яго скарыстаць супраць любога вязня.

На думку Міхаіла Пастухова, патрэбная радыкальная рэформа пенітэнцыярнай сістэмы. Але ў першую чаргу трэба патрабаваць адмены артыкула 411 КК.

Удзельнікі форуму падпісалі сумесны зварот Генеральнаму пракурору з просьбай праверыць, наколькі законна ўжыты да Бандарэнкі артыкул 411, а таксама паспрыяць выключэнню артыкула 411 з Крымінальнага кодэкса. Плануецца таксама кампанія супраць артыкула 411 у незалежных СМІ.

Удзельнікі форума актуалізавалі спіс палітзняволеных. Цяпер, паводле форума, у яго ўваходзяць дзевяць чалавек: Алесь Юркойць, Вадзім Бойка, Ілля Валовік, Тарас Аватараў, Ірына Моцная, Аляксей Жалноў, Міхаіл Жамчужны, Андрэй Бандарэнка, Аляксандр Лапіцкі.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Папера ўсё вытрывае

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Як будуць выконваць патрабаванне Лукашэнкі ўзняць заробак да 500 долараў у эквіваленце? Як заўсёды — на паперы. І першыя крокі ў гэтым напрамку ўжо робяцца.**



Фота www.pp.vk.me

На тыдні родны Белстат паведаміў, што налічаны сярэдні заробак работнікаў Беларусі ў снежні склаў 801,6 рубля (у лістападзе ён быў роўны 717,6 рубля). Налічаная сярэдняя заработная плата рабочых і служачых склала ў снежні мінулага года 802 рублі (у лістападзе — 718,9 рубля).

У пераліку на долары па сярэднеўзважанаму курсу Нацбанка сярэдні заробак беларусаў у снежні быў роўны 408 долараў. У лістападзе — 370 долараў.

Ці верыць гэтым лічбам? Варта толькі пачытаць каментары пад гэтай навіной. Людзі пішуць, напрыклад: «У Воршы і да 450 рублёў не дацягвае! Сярэдняя 280!». Альбо: «Настаўнік у школе, стаж 25 гадоў, стаўка — за снежань налічана 490 рублёў (з прэміяй). Сястра, загадчык гаспадаркі ў школе — 200». «А ў мяне ўпала за снежань на 40%, БелЖД, мінскі вагонны ўчастак, праваднік». «Сын атрымлівае ў ЦУМе 350 рублёў, прадавец-касір».

Ці вось такі каментар: «Калі гэта хлусня, то зусім невялікая. Ну напісалі, што 400 долараў, а не рублёў. Дык можа і не наўмысна, проста памыліліся...»

Сапраўды, методыка Белстата часам проста ўражвае. Мы ўжо пісалі пра афіцыйную інфляцыю ў 10,6% гадавых і падлікі людзей, якія захавалі мінулагодні чэкі з крамаў. Усё вырасла ў кошце ў сярэднім працэнтаў на 20, а інфляцыя — усё роўна 10%!

Прычым гэтая казка пра 500 долараў заробку шырока распаўсюджваецца. Нібыта, такое ў нас ужо было, але ці было гэта насамрэч? Хто атрымліваў заробак у 10 мільёнаў, калі курс быў 20 тысяч за долар? Хіба толькі айцішнікі, дэпутаты і шахцёры «Беларуськалія». Міліцыянты, і тое ў большасці столькі не зараблялі. Але міф прыжыўся, і чамусьці мы ўпэўненыя, што 500 долараў — так, атрымлівалі.

Дарэчы, пра міліцыянтаў. Грошы ў дзяржавы скончыліся зусім. Лукашэнка ў час рабочай сустрэчы з міністрам унутраных спраў Ігарам Шуневічамі прапанаваў «разумна аптымізаваць» ведамства.

«Мы ад гэтага нікуды не сыдзем. Вы ўвесь час мне дакладваеце, што крыміналгенная сітуацыя паляпшаецца, значыць, нам паступова трэба ісці да скарачэння, але не да бяздумнага, а да аптымізацыі структур», — сказаў Лукашэнка.

Колькасць міліцыянтаў у Беларусі падлічыць цяжка, таму што па факце да іх належаць розныя ўнутраныя войскі, розныя спецпадраздзяленні, студэнты-курсанты Акадэміі МУС і гэтак далей. Паводле дадзеных ААН, якія беларускі МУС не аспрэчваў, на 100 тысяч насельніцтва Беларусі прыпадае 1442 супрацоўнікі МУС. Сярэднесусветны паказчык складае 300 паліцыянтаў на 100 тысяч чалавек. То бок, міліцыянтаў у нас — каля 130 тысяч чалавек. У БССР, як распавёў генерал-лейтэнант міліцыі ў адстаўцы Мечыслаў Грыб, было 40–45 тысяч міліцыянтаў. Так што гэтую структуру спакойна можна скарачаць у тры-чатыры разы.

Але такое скарачэнне вельмі небяспечнае для ўлады.Ператварыць у дармаедаў (пры сённяшняй нястачы працы) нават 20% былых міліцыянтаў, якія звыклі да ўсёдазволенасці і вялікіх заробкаў, — гэта наўпроставы падкоп пад беларускую стабільнасць. Але і грошай на ўтрыманне такой колькасці сілавікоў ужо няма. Таму і называецца гэта «аптымізацыяй». Хутчэй за ўсё, яна ператворыцца ў «ратацыю крэслаў», а не ў скарачэнне МУС.

Адначасна з'явілася і прыемная навіна для турыстычнага бізнесу краіны. Раней узнік праект указа, паводле якога аграсядзібам маглі забараніць правядзенне вяселляў і юбілеяў, а таксама прымаць адначасова больш за 20 турыстаў. Але ў аўторак міністр спорту і турызму Аляксандр Шамко паведаміў, што вырашана, наадварот, пашырыць пералік паслуг, якія могуць аказваць аграсядзібы. У гэты спіс плануецца ўключыць правядзенне прэзентацый, юбілеяў, банкетаў; аказанне паслуг лазняў, саўны і душавых; катанне на жывёлах і гужавым транспарце; прадастаўленне інвентару для спорту і адпачынку. За прэзентацыі і банкеты ўладальнікі аграэкасядзібаў будуць выплачваць збор за кожны месяц, у які ім аказвалася паслуга. Велічыня збору будзе залежаць ад месца размяшчэння суб'екта аграэкатурызму: плануецца, што збор будзе большым для аграсядзіб, размешчаных недалёка ад Мінска або абласных цэнтраў.

У дакуменце дакладна прапісана, што цяпер будзе лічыцца аграэкасядзібай. Напрыклад, здымаецца норма, якая дазваляла займацца аграэкатурызмам у кватэры ў жылым доме, што цалкам лагічна.

Увогуле, калі б не статыстыка, блок эканамічных навін уражвае. Так, урад зацвердзіў комплекс мер па рэалізацыі праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2016–2020 гады, дзе сярод распісаных мерапрыемстваў ёсць даўно чаканыя і цалкам рэвалюцыйныя.

Напрыклад, чыноўнікі плануюць дазволіць беларусам адкрываць рахункі ў замежных банках (тэрмін выканання — 2017–2019 гады) і адмяніць абавязковы продаж валютнай выручкі (цалкам — у 2018 годзе). Урад мае намер заканадаўча замацаваць незваротнасць прыватызацыі, скарацўшы тэрмін іскавай даўнасці па прыватызацыйных здзелках да трох гадоў (2017 год).

Асобныя блокі заха даў тычацца разняволення дзелавой ініцыятывы і фарміравання спрыяльных умоў для вядзення бізнесу, у тым ліку — малога. Гаворка ідзе, да прыкладу, пра аптымізацыю санкцый, якія ўжываюцца за нязначныя парушэнні, пашырэнне практыкі вынясення папярэджанняў замест накладання штрафаў. Анансаваная «выпрацоўка механізмаў дыферэнцыяванага прымянення штрафных санкцый у залежнасці ад ступені віны і ўзроўню даходу суб'ектаў гаспадарання».

Гэта амаль тое, чаго доўгі час патрабавалі беларускія прадпрымальнікі. Таксама ў планах — аптымізацыя падатковай нагрузкі, мараторый на павышэнне падатковых ставак і ўвядзенне новых падаткаў, збораў і пошлін, «за выключэннем выпадкаў, калі адпаведныя абавязкі Рэспублікі Беларусь прадугледжаны міжнароднымі дамовамі».

Галоўнае толькі, каб гэтыя планы ўвасобіліся ў жыццё, а не былі рэалізаваныя на паперы, як казка пра 500 долараў заробку.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Генадзь Фядыніч

**Прафсаюз РЭП і зарэгістраваная ва Украіне «Прававая дапамога насельніцтву» стварылі адну з самых папулярных беларускіх петыцый.**

За тыдзень, з 18 па 25 студзеня, пад ёй падпісалася больш за 16 000 чалавек.

Збор подпісаў пад петыцыяй на сайце zvarot.by працягнуты да 1 лютага. З дапамогай петыцыі незалежныя прафсаюзы хочуць прымусіць беларускіх чыноўнікаў адмяніць скандальны дэкрэт пра падатак на дармаедства, які выклікаў хвалю абурэння ў грамадстве.

«Для пачатку паўсюдна збяром подпісы і накіруем іх у адрас Лукашэнкі. Калі гэта не дапаможа і галасы людзей не будуць пачутыя, тады застаецца толькі адно — будзем рыхтаваць масавую акцыю пратэсту за адмену дэкрэта», — распавёў лідар РЭП Генадзь Фядыніч.

Адзначым, што арганізатары праводзяць збор подпісаў не толькі ў інтэрнэце, але і на вуліцах, і ў прафсаюзных офісах, якія знаходзяцца ў розных гарадах Беларусі.

## Уладзімір Макей

**Знешнепалітычнае ведамства Беларусі, якім кіруе спадар Макей, знайшло яшчэ адзін спосаб эканоміі дзяржаўных сродкаў.**



Беларусь адкрыла ў Іспаніі «віртуальнае пасольства».

Раней паведамлялася, што Беларусь 16 снежня ўрачыста адкрыла дыпламатычнае прадстаўніцтва ў Іспаніі. Ад імя пасла Паўла Латушкі быў праведзены прыём, на які прыйшлі больш за сто гасцей: дыпламаты, акрэдытаваныя ў Мадрыдзе, іспанскія палітыкі і бізнесмены, прадстаўнікі беларускай дыяспары.

Аднак на сайце беларускага МЗС Іспанія дагэтуль застаецца шэрай плямай. Ні адраса, ні тэлефона пасольства на сайце МЗС альбо яшчэ дзе-небудзь «Еўрарадыё» не знайшло. Як высветлілася, для пасольства яшчэ не знайшлі будынак, «таму кантактных звестак у нас пакуль няма», — патлумачылі радыё на гарачай лініі МЗС. І дадалі, што пакуль што ў пасольстве (атрымліваецца, віртуальным) працуе толькі адзін чалавек.

Такім чынам можна адкрыць дыппрадстаўніцтвы дзе заўгодна...

## Анатоль Котаў

**Генеральны сакратар нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі святкуе перамогу.**



Спартыўны арбітражны суд (CAS) у Лазане адмяніў гадавую дыскваліфікацыю мужчынскай зборнай Беларусі па весляванні на байдарках і каноэ, накладзеную Міжнароднай федэрацыяй каноэ (ICF) з-за падазрэнняў у парушэнні антыдопінгавых правілаў.

«На падставе доказаў і аргументаў, прадстаўленых бакамі, калегія Спартыўнага арбітражнага суда прыйшла да высновы, што не мелася дастатковых доказаў парушэння антыдопінгавых правілаў. [...] Калегія пастанавіла, што не было падстаў для адхілення мужчынскіх каманд Беларусі па весляванні на байдарках і каноэ», — гаворыцца на сайце суду.

Беларускія ўлады ўжо заявілі, што будуць патрабаваць кампенсацыі ўрону за адхіленне мужчынскай зборнай весляроў ад удзелу ў Алімпіядзе ў Рыа-дэ-Жанэйра. «У нас ёсць план далейшых дзеянняў. Мы будзем рыхтаваць пазоў у суд у Швейцарыі аб кампенсацыі маральнай шкоды, якую панесла наша каманда ў сувязі з нядопускам на Алімпійскія гульні і беспадстаўным зняццем фактычна на паўгода ад трэніровачнага працэсу і міжнародных стартаў», — заявіў генеральны сакратар нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі Анатоль Котаў.

Беларускі бок мае намер таксама дамагацца кампенсацыі выдаткаў на падрыхтоўку каманды да Алімпіяды на працягу чатырох гадоў, якія папярэднічалі Алімпійскім гульням у Рыа. Па сцвярджэнні Мінска, з-за адхілення каманды весляроў ад удзелу ў Гульнях, беларуская зборная недалічылася 2–4 алімпійскіх медалёў.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# «Сімфонія» і нацыянальнае адзінства

**Сіла, вера і закон — тры фактары, з дапамогай якіх дзяржава можа кансалідаваць грамадства.**

### Паводле рэцэпту Шарля Перо

Сучасныя беларусы жывуць адначасова ў двух сусветах. Першы ў паліталогіі прынята называць «блізкім колам». У кожнага з нас яно сваё і складаецца з асабіста знаёмых нам людзей. Адносіны ў блізкім коле мы выбудоўваем, грунтуючыся пераважна на нефармальных правілах.

У адрозненне ад блізкага кола, у далёкім коле няма месца для нефармальных (асабістых) адносін. Пстрыкаючы выключальнікам, мы ўступаем у дагаворныя адносіны з мільёнамі людзей. Зразумела, не наўпрост, а праз ланцужок пасярэднікаў. І першым у гэтым ланцужку стаіць «Энергазбыт».

Нават калі ў далёкім коле мы з кімсьці кантактуем асабіста, напрыклад, з касірам у краме, нашы адносіны гранічна фармалізаваныя. Мы выкладваем тавар. Касір з дапамогай касавага апарата счытвае штрых-коды, вызначае кошт пакупак. Мы расплачваемся. Нічога асабістага.

Біёлагі адносяць прадстаўнікоў Homo sapiens да сацыяльных жывёл. Але ў нашай прыроднай сацыяльнасці кароткі радыус даверу. Мы здольныя самастойна наладжваць супрацоўніцтва ў малых групах з людзьмі, з якімі асабіста знаёмыя. Аднак, як толькі мы спрабуем выйсці за ўмоўную ваколіцу, арганізацыя сумесных дзеянняў ператвараецца ў праблему.

Як прымусіць незнаёмых людзей супрацоўнічаць, г.зн. працаваць сумесна над выкананнем задач, маштаб якіхператварае кожнага асобнага выканаўцу ў спецыялізаваны вінцік?

Самы просты адказ на гэта фундаментальнае пытанне можна знайсці ў Шарля Перо ў казцы «Кот у ботах». Думаю, што ўвесь сюжэт пераказваць не варта, таму пачну з моманту, калі кароль запрасіў сына млынара сесці ў карэту і прыняць удзел у прагулцы. Далей прамая цытата:

«Кот быў у захапленні ад таго, што ўсё ідзе згодна з яго задумай, і весела пабег перад карэтай.

Па дарозе ён убачыў сялян, што касілі на лузе сена.

— Гэй, людзі добрыя, — крыкнуў ён, — калі вы не скажаце каралю, што гэты луг належыць маркізу дэ Карабасу, вас усіх *пасякуць на дробныя кавалкі* (выдзелена. — С.Н.), нібы начынне для пірага! Так і ведайце!»

Такім чынам, галоўнымі сродкам, які прымусіў сялян каардынаваць свае намаганні на карысць невядомага маркіза дэ Карабаса, выступіла пагроза прымянення сілы.

### Пара сышла ў свісток

Дзеля справядлівасці варта адзначыць, што сіла ў якасці сродку каардынацыі сумесных дзеянняў, актыўна выкарыстоўвалася і да фармавання далёкага кола. У прыватнасці, з яе дапамогай галава патрыярхальнай сям'і актыўна падтрымліваў сваё манапольнае права распараджацца сямейнікамі.

Але ўжо ў першых усходнеславянскіх дзяржавах, у адрозненне ад сям'і, само права на выкарыстанне сілы запатрабавала санкцыянавання з боку ідэалогіі. Зразумела, што на мяжы першага і другога тысячагоддзяў ідэалогія магла прыйсці толькі ў вопратцы сусветных рэлігій.

Рурыкавічы спынілі свой выбар на хрысціянстве ў яго візантыйскай інтэрпрэтацыі. Маркую, што не апошнюю ролю пры гэтым адыграла ідэя чароўнага паходжання дзяржаўнай улады. Але, ажыццяўляючы свой цывілізацыйны выбар, запазычваючы інстытут царквы, князі не перанеслі на родную глебу інстытут самастойнай судовай улады з прафесійнымі суддзямі (у Кіеўскай Русі судовыя функцыі ажыццяўляліся самімі князямі).

Такая выбіральнасць пры запазычанні чужых дасягненняў паступова стала нормай, якую эліты пранеслі праз стагоддзі. Адкрыем даклад адзінага палітыка (АП) на пятым Усебеларускім народным сходзе: «У супрацоўніцтве з Захадам нас цікавяць перш за ўсё інвестыцыі, трансфер тэхналогій, стварэнне перадавых сумесных вытворчасцяў, удзел беларускіх кампаній у міжнародных вытворчых ланцужках і, вядома, пастаўкі нашай прадукцыі».

Што тычыцца заходніх інстытутаў і заходніх каштоўнасцяў, дзякуючы якім ствараюцца перадавыя тэхналогіі, дык іх прышчэпліванне да беларускай мадэлі калі і адбываецца, дык выключна ў імітацыйным рэжыме. Каб у гэтым пераканацца, дастаткова паглядзець на беларускі парламент, які гэтак жа, як і яго расійскі адпаведнік, не з'яўляецца месцам для дыскусій.

Бальшавікі ўспрымалі царкву ў якасці канкурэнтаў, але, натуральна, кансалідаваць грамадства, абапіраючыся выключна на сілу, яны не маглі. Таму на змену рэлігійнай веры прыйшла інтэрпрэтацыя марксізму-ленінізму як «адзінага правільнага і ўсёперамагальнага вучэння». Дзеля гэтага спатрэбілася ператварыць веды, надзеленыя статусам навуковай ісціны, у свецкую рэлігію.

Чым скончыўся бальшавіцкі эксперымент — добра вядома. Новая гістарычная супольнасць — «савецкі народ» — распалася ў ходзе «найвялікшай геапалітычнай катастрофы XX стагоддзя». Кіраўнікам постсавецкіх рэспублік давялося тэрмінова шукаць напаўняльнік для ліквідацыі вакууму веры.

АП сутыкнуўся са стандартнай праблемай. Але ўсе яго спробы сфармаваць новую веру апынуліся беспаспяховымі. «Дзяржаўную ідэалогію, якая б лягла на душу», вынайсці так і не атрымалася. Пара сацыяльных інавацый сышла ў свісток, у будаўніцтва чарговай бюракратычнай структуры ў выглядзе ідэалагічнай вертыкалі.

Новае, як вядома, — гэта добра забытае старое. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што галоўны архітэктар беларускай мадэлі звярнуўся да праверанага стагоддзямі досведу і стаў выбудоўваць адносіны паміж дзяржавай і царквой «па прынцыпе сімфоніі, — гэта значыць, гарманічнага саюза і сумеснай працы на карысць Айчыны».

**АП сутыкнуўся са стандартнай праблемай. Але ўсе яго спробы сфармаваць новую веру апынуліся беспаспяховымі. «Дзяржаўную ідэалогію, якая б лягла на душу», вынайсці так і не атрымалася. Пара сацыяльных інавацый сышла ў свісток**

У адной з «азбук паліталогіі» ў 2013 годзе мне ўжо даводзілася адзначаць, што ў ідэі падобнай сімфоніі (ад грэчаскага «συμφωνία» — «сугучча», «згода») ёсць аўтар — імператар Візантыі Юстыніян I. Зноў дам яму слова: «Калі святарства будзе ва ўсім добраўпарадкавана і даспадобы Богу, а дзяржаўная ўлада будзе згодна з праўдай кіраваць даручанай ёй дзяржавай, дык будзе поўная сімфонія паміж імі ва ўсім, што ідзе на карысць і дабро чалавечаму роду».




### Цытаты з «інфармацыйнай памыйніца»

Але што, акрамя сілы і веры, здольнае з'яднаць атамізаваных грамадзян у нацыю? Адказ на гэта пытанне быў знойдзены ў Новы час. Гэта закон.

Мне запярэчаць, што закон (збор абавязковых нормаў і правілаў) для рэгулявання грамадскіх адносін выкарыстоўваўся яшчэ ў старажытнай Месапатаміі. Дастаткова прыгадаць законы цара Хамурапі, створаныя каля 1800 г. да нашай эры.

Але д'ябал, як вядома, любіць хавацца ў дэталях, у тым ліку і д'ябал, які спецыялізуецца на заканатворчасці. Вікіпедыя падказвае, што законы цара Хамурапі абаранялі ў першую чаргу інтарэсы самога Хамурапі, яго боскае паходжанне, манапольнае права распараджацца зямлёй і храмамі.

Законы Новага часу «з інструмента абароны дзяржавы і прывілеяў элітных груп ператварыліся ў інструмент абароны натуральных, г. зн. дадзеных ад прыроды, правоў і свабод грамадзян — роўных для ўсіх і ў гэтым сэнсе ўніверсальных». Цытату я запазычыў у паліголага Ігара Клямкіна.

А цяпер паспрабуем вызначыць гістарычны час, у які жыве сучасная Беларусь. Пры жаданні ў інтэрнэце можна адшукаць выказванні АП пра роўнасць усіх беларусаў перад законам. Але «інфармацыйная памыйніца» багатая і іншымі прыкладамі. Абмяжуюся дзвюма цытатамі. Першую я запазычыў з дакладу АП на чацвёртым Усебеларускім народным сходзе: «Я нікому не дазволю, каб хоць валасінка ўпала з галавы ваеннага чалавека, міліцыянта, чэкіста або супрацоўніка спецслужбы».

Для разумення другой цытаты нам спатрэбіцца вярнуцца ў сакавік 2006 года ў Палац культуры чыгуначнікаў, дзе пры спробе прайсці рэгістрацыю на трэцяе «ўсенароднае веча» былі збітыя кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Казулін і сябры яго каманды. А цяпер другая цытата: *«Как дали — так летели шмотки по заугольям, еле успели сбежать оттуда»*.

Адрозненні паміж цывілізацыямі не ў апошнюю чаргу вызначаюцца спосабамі кансалідацыі грамадства, якія прадстаўляюць розныя камбінацыі сілы, веры і закона. Пры руху па шкале гісторыі сіла і вера губляюць сваю вядучую ролю, а закон паступова ператвараецца ў інструмент абароны правоў і свабодаў грамадзян.

Параўноўваць Беларусь са старажытнай Месапатаміяй асабіста я б не наважыўся, але з эпохай позняга Сярэднявечча паралелі праглядаюцца досыць выразныя.

# Накарміць старэйшага брацiка

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**«Расія зніжае нам пастаўкі бязмытнай нафты? Дык мы адаб'ем сваё прадуктамі харчавання!» — менавіта так, мяркуючы па ўсім, вырашылі дзейнічаць ва ўрадзе Беларусі.**




### Намеры

Начальнік галоўнага ўпраўлення знешнеэканамічнай дзейнасці Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Аляксей Багданаў заявіў, што Беларусь плануе ў 2017 годзе захаваць аб'ём паставак прадуктаў на расійскі рынак. І гэта — нягледзячы на інтрыгі Рассельгаснагляду, якія сталі адным з галоўных чыннікаў канфлікту паміж Аляксандрам Лукашэнкам і Уладзімірам Пуціным у 2016 годзе.

«У нашай стратэгіі развіцця экспарту Расія застаецца найістотным гандлёва-эканамічным партнёрам. Мы туды пастаўляем ільвіную долю сельгаспрадукцыі, і гэта кажа аб тым, што Беларусь здолела дамагчыся папулярнасці і высокай лаяльнасці спажыўцоў да нашых тавараў. Стратэгія такая — захаваць на расійскім рынку тое, чаго мы дасягнулі за мінулыя гады, той аб'ём і ўзровень паставак, а дадаткова аб'ём сельгаспрадукцыі, які мы плануем вырабляць (у мясе і малацэ), абавязкова дыверсіфікаваць», — заявіў чыноўнік.

Узнікае лагічнае пытанне: а як быць, калі Рассельгаснагляд працягне трэціраваць беларускіх пастаўшчыкоў? Аляксей Багданаў паспрабаваў дыпламатычна абыйсці гэтую тэму: «Ёсць і недружалюбныя дзеянні на адрас беларускай прадукцыі. Часткова яны абгрунтаваныя, але праблема па якасці і бяспецы надуманая. Ні адна краіна свету не выказвае прэтэнзіі да якасці і бяспекі нашай прадукцыі».

Між тым, у апошнія тыдні ўсё больш актыўна абмяркоўваецца пытанне пра тое, што Беларусь можа паспрабаваць абараніць свае «харчовыя» інтарэсы ў Расіі праз суд. Яшчэ 11 студзеня былы прэм'ер-міністр Беларусі, а цяпер член Калегіі (міністр) па прамысловасці і аграпрамысловаму комплексу Еўразійскай эканамічнай камісіі (ЕЭК) Сяргей Сідорскі асудзіў дзеянні Рассельгаснагляду ў дачыненні да беларускіх прадуктаў харчавання. Паводле яго слоў, выяўленне парушэнняў, не звязаных з ветэрынарнымі рызыкамі, не павінна з'яўляцца падставай для ўвядзення ветэрынарных мер па абмежаванні паставак прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў.

«У сувязі з адсутнасцю ў ЕЭК механізмаў уплыву на нацыянальныя органы дзяржаўнай улады Рэспубліка Беларусь мае права звярнуцца ў Суд Еўразійскага эканамічнага саюза для канчатковага рашэння дадзенага пытання», — заявіў Сяргей Сідорскі.

На гэтыя словы беларускага прадстаўніка 16 студзеня адказала калега Сідорскага, член Калегіі па асноўных кірунках інтэграцыі і макраэканомікі ЕЭК Таццяна Валавая. На прэс-канферэнцыі ў Маскве яна заявіла, што Беларусь мае права звярнуцца ў суд па пытанні паставак прадуктаў у Расію. Валавая падкрэсліла, што калі беларускі бок не згодны з высновамі расійскіх органаў фітасанітарнага кантролю, у яго ёсць розныя фарматы, каб апратэставаць іх, у тым ліку звярнуцца ў суд: «Гэта цалкам нармальная практыка».

Ніхто не сумняваецца, што рэпрэсіі ў дачыненні да беларускіх прадуктаў носяць палітычны характар, а таму аспрэчваць іх у судзе — справа безнадзейная. Аднак у Мінсельгасхарчы, тым не менш, разлічваюць нарасціць пастаўкі беларускіх прадуктаў на расійскі рынак. Праграмай развіцця аграбізнесу на 2016–2020 гады прадугледжана павелічэнне экспарту харчовых прадуктаў у 1,4 разы — да прыкладна $7 мільярдаў.

### Лічбы

Паводле інфармацыі беларускага міністэрства, Расія — дамінуючы рынак для беларускіх прадуктаў: туды ідзе 94,5% усяго харчовага экспарту. Больш за ўсё беларускіх прадуктаў паступае ў Маскву (20%), Санкт-Пецярбург (11,6%) і Маскоўскую вобласць (30,5%).

**Расія — дамінуючы рынак для беларускіх прадуктаў. Прадукты харчавання і сельгаспрадукцыя па аб'ёме экспарту ў грашовым выразе дагналі нафтапрадукты, якім цяпер прыходзіцца нялёгка з-за «нафтагазавага канфлікту» з Масквой**

Паводле Белстату, беларускія прадукты харчавання і сельгаспрадукцыя па аб'ёме экспарту ў грашовым выразе дагналі нафтапрадукты, якім цяпер прыходзіцца нялёгка з-за «нафтагазавага канфлікту» з Масквой. Сельскагаспадарчаму экспарту, зрэшты, таксама нялёгка: кошты на шмат якія прадукты ў Расіі абрынуліся ў параўнанні з 2015 годам. І па гэтым чынніку, і з-за праблем на мяжы беларускі сельгасэкспарт у студзені-лістападзе 2016-га знізіўся на 5,2%, да $3,748 мільярда.

Пры гэтым яго структура памянялася. Тры лідарскія пазіцыі па экспарце прадуктаў займае «малочка»: экспарт сыроў і тварагу за год вырас на 13,4% (у грашовым выразе — на 6,2%), да $625 мільёнаў; пастаўкі сухога малака знізіліся на 11,5% (на 10,5% па грошах); экспарт сметанковага алею зваліўся на 5,6% (але вырас у грошах на 15,1%). Сярод лідараў па тэмпе прыросту таксама марожаная ялавічына (+30,1%, $138,5 мільёна) і кілбаса (+23%, $73,1 мільёна).

Таксама значна больш Беларусь зараз экспартуе моцнага алкаголю (+35,4%), шакаладу і цукерак (+36,6%), прадуктаў з мяса і кансерваў (+24,3%) і піва (+14,7%). У процівагу гэтаму, экспарт бульбы не нашмат скараціўся па колькасці (-2,1%, да 273,9 тысяч тон), але абваліўся па грошах (-40,7%, да $30,5 мільёна).

**Ніхто не сумняваецца, што рэпрэсіі ў дачыненні да прадуктаў носяць палітычны характар, а таму аспрэчваць іх у судзе — справа безнадзейная. Аднак Беларусь разлічвае нарасціць пастаўкі прадуктаў на расійскі рынак**

### Планы на 2017-ы

Усё пералічанае вышэй важна напярэдадні лютага, калі Беларусь і Расія павінны ўзгадніць аб'ёмы ўзаемных паставак харчовых прадуктаў. Прадстаўнік Мінсельгасхарча Аляксей Багданаў растлумачыў: «Штогод мы з Расіяй падпісваем узаемныя балансы па пастаўках прадуктаў, куды ўключаецца мяса-малочная прадукцыя і цукар. Гэтыя балансы падпісваем на сумеснай калегіі, мы ўжо прапрацоўваем пытанне правядзення такой калегіі ў лютым, дзе і падпішам балансы».

Па яго словах, Беларусь штогод павялічвае балансы паставак прадуктаў на расійскі рынак. У 2016 годзе балансы былі крыху павялічаныя і па мясе, і па малацэ. «Перамовы па гэтым пытанні на 2017 год мы ўжо вядзём на ўзроўні экспертаў, плануецца, што балансы сёлета будуць на ўзроўні 2016-га, магчыма, па малаку будзе невялікі рост», — распавёў ён. Праўда, чыноўнік ніяк не патлумачыў, чаму ўзгадненне прадуктовых балансаў не адбылося ў канцы мінулага года, як мае быць, а перанесена аж на люты.

Здагадацца нескладана — дастаткова прыгадаць, якой напружанасці беларуска-расійскія адносіны дасягнулі ў снежні. Зрэшты, як сцвярджае Аляксей Багданаў, падпісанне ўзаемных балансаў патрабуецца толькі для таго, каб ацаніць аб'ём рынка. «Гэта не квоты, гэта балансы для таго, каб рабіць прагнозы для разліку вытворчасці і бачыць запатрабаванне рынка. Мы ведаем, калі Расія пагадзілася, што мы ім паставім 4 мільёны тон малака, значыць, яны могуць яго прыняць», — тлумачыць ён.

Пры гэтым звышзадача беларускага боку — дамагчыся, каб нашы прадукты харчавання ў Расіі не ўспрымаліся як імпартныя. Што становіцца ўсё складаней, бо расійскія вытворцы прадуктаў скарысталіся з эмбарга на пастаўкі прадуктаў з Захаду, каб нарасціць уласную вытворчасць. І канкурэнты ў асобе беларускіх пастаўшчыкоў ім зусім не патрэбныя.

Аляксей Багданаў так пракаментаваў сітуацыю: «Гэта правільны шлях, мы тое ж самае рабілі некалькі дзесяцігоддзяў таму, цяпер мы экспартна арыентаваная дзяржава. Нам неабходна дамаўляцца з расійскім бокам аб варыянтах сумеснай працы і паставак нашай прадукцыі на іх рынак. Мы дамагаемся таго, каб беларускі тавар не ўспрымаўся як імпартны, тым больш цяпер дзейнічаюць такія інтэграцыйныя аб'яднанні, як Саюзная дзяржава, ЕАЭС… У Расіі шмат нішаў, дзе бракуе прадукцыі, і нам трэба разам працаваць над тым, каб накарміць абодва нашых народы… Рынак павінен быць адзіны. Нішаў на расійскім рынку вельмі шмат. Нам яшчэ разам карміць і карміць два нашых народы».

Расійскія эксперты, праўда, бачаць сітуацыю трохі інакш. «У 2016 году ў Расіі быў сабраны рэкордны ўраджай збожжавых, алейных культур, цукровага бурака, бульбы, кукурузы, гародніны. Але тое, што не будзе ўжыта непасрэдна, пойдзе на экспарт. Таму што вытворчасць раслiннай прадукцыі вырасла, а жывёлагадоўлю нарасціць — нашмат складаней, — сказаў НЧ эксперт расійскай асацыяцыі сельгасвытворцаў «Руспрадсоюз» Валер Ічкалаў. — Але паколькі большасць расіян не плануюць станавіцца вегетарыянцамі, беларускія вытворцы могуць моцна не хвалявацца: будзе попыт і на мяса, і на птушку, і на малочныя прадукты. Да таго ж ва ўрадзе ўжо кажуць аб хуткай адмене харчовага эмбарга, так што салодкія дні для расійскіх вытворцаў могуць нечакана скончыцца».



# Як здымалі Станіслава Шушкевіча

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**У жыцці краіны адбылася палітычная падзея, якая мела сур'ёзныя наступствы для ўсяго ходу гісторыі найноўшай Беларусі. 26 студзеня 1994 года большасцю дэпутацкіх галасоў са сваёй пасады быў адкліканы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання Станіслаў Шушкевіч.**



**Новы і стары старшыні Вярхоўнага Савета БССР — С. Шушкевіч і М. Дзямянцей**

### Як усё пачыналася?

Адстаўка Станіслава Шушкевіча была абумоўлена, з аднаго боку, канфліктам з тымі дэпутатамі, якія ў навуковай літаратуры і публіцыстыцы атрымалі назву «кансерватыўная парламенцкая большасць». У асноўным яе прадстаўлялі абласныя і раённыя кіраўнікі, дырэктары прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў, былыя камуністы і інш. Яны выступалі супраць рынкавых рэформаў, негатыўна ставіліся да незалежнасці Беларусі.

Самога Станіслава Шушкевіча ў Вярхоўным Савеце падтрымлівала дэпутацкая апазіцыя Беларускага народнага фронту (БНФ), хаця ў пэўнай ступені такая падтрымка была вымушаная. Прадстаўнікі апазіцыі публічна адзначалі ў Шушкевіча істотныя недахопы (галоўны з іх, на думку прадстаўнікоў дэпутацкай групы БНФ, — гэта нежаданне ці няўменне кіраўніка Вярхоўнага Савета стварыць моцную ўласную парламенцкую групоўку), але лічылі, што адстаўка Шушкевіча дасць кансерватарам магчымасць пасадзіць на пасаду старшыні Вярхоўнага Савета свайго кандыдата.

З другога боку, рухавіком канфлікту сталі тыя народныя выбраннікі, якіх прынята называць «маладымі дэпутатамі». Дзякуючы частым выступам ля мікрафонаў, яны сталі вядомымі на ўсю краіну. Сярод іх стварылася ўстойлівае трыа ў складзе Дзмітрыя Булахава, Віктара Ганчара і Аляксандра Лукашэнкі.

Прычыны канфлікту Шушкевіча і маладых дэпутатаў былі асабістыя. Справа ў тым, што Дзмітрый Булахаў, як старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па заканадаўстве, вельмі актыўна адстойваў кандыдатуру Станіслава Шушкевіча на пасаду старшыні Вярхоўнага Савета пасля зыходу Мікалая Дземянцея. 17 верасня 1991 года на нечарговай шостай парламенцкай сесіі пры абмеркаванні прэтэндэнтаў на вышэйшую дзяржаўную пасаду Дзмітрый Булахаў і Аляксандр Лукашэнка рашуча падтрымалі Шушкевіча. За Шушкевіча выказўся і іншы малады дэпутат — Анатоль Лябедзька. Што да Віктара Ганчара, то ён выступіў супраць Шушкевіча, прапанаваўшы Генадзя Карпенку. Акрамя Шушкевіча на пасаду старшыні Вярхоўнага Савета балатаваліся кіраўнік Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч, прадстаўнік апазіцыі БНФ Уладзімір Заблоцкі і старшыня парламенцкай камісіі па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Генадзь Карпенка. У выніку пайменнага галасавання (усяго галасавалі 320 дэпутатаў) ні адзін з кандыдатаў не здабыў перамогі. У другі тур выйшлі Кебіч (151 голас) і Шушкевіч (122 галасы). Аднак і другі тур не выявіў пераможцу, таму што ніхто не атрымаў больш за палову галасоў: за Вячаслава Кебіча выказаліся 140 дэпутатаў, за Станіслава Шушкевіча — 157.

Узнік свайго роду юрыдычны тупік: паводле часткі 6 артыкула 63 Часовага Рэгламенту Вярхоўнага Савета ад 31 мая 1990-га, забаранялася паўторна вылучаць на пасаду старшыні тыя кандыдатуры, якія не былі абраныя. Пад ціскам Булахава ч. 6 была зменена: усялякія абмежаванні на вылучэнне кандыдатур па пасаду старшыні здымаліся. Больш таго, Булахаву ўдалося пераканаць Вячаслава Кебіча адмовіцца ад далейшай барацьбы. Аб гэтым былы прэм'ер-міністр пісаў у асабістых мемуарах «Спакуса ўладай».

18 верасня Вячаслаў Кебіч заклікаў дэпутатаў падтрымаць Шушкевіча. У якасці альтэрнатывы Шушкевічу была вылучана кандыдатура старшыні камісіі па эканамічнай рэформе, дасягненні эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту рэспублікі Леаніда Козіка. У выніку галасавання Станіслаў Шушкевіч стаў старшынёй Вярхоўнага Савета.

З абраннем Шушкевіча засталася вакантнай пасада першага намесніка старшыні (пасаду намесніка займаў Васіль Шаладонаў, кіраўнік рабочай групы Канстытуцыйнай камісіі). Дзмітрый Булахаў, які лічыў, што Шушкевіч абавязаны сваім абраннем менавіта яму, прапануе кандыдатуру старшыні камісіі па заканадаўстве на пасаду першага намесніка.

Аднак Станіслаў Шушкевіч спыніў свой выбар на Аляксандры Саснове, старшыні камісіі па пытаннях працы, цэнаў, занятасці і сацыяльнай абароне насельніцтва. Але 15 кастрычніка па выніках галасавання Сасноў не быў абраны.

17 снежня 1991 года Шушкевіч зноў узняў пытанне пра першага намесніка, так і не прапанаваўшы кандыдатуру Булахава. 19 снежня на пасяджэнні камісіі па заканадаўстве было вырашана хадайнічаць перад Шушкевічам аб тым, каб ён прапанаваў Булахава на пасаду першага намесніка.

Шушкевіч не прыслухаўся і вылучыў кандыдатуру старшыні камісіі па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных зносінах Міхаіла Слямнёва. Праўда, 9 студзеня 1992-га па выніках галасавання кандыдатура Слямнёва не была зацверджана. Дзмітрый Булахаў палічыў сябе крыўна пакрыўджаным і ў той жа дзень на пасяджэнні сваёй камісіі заявіў, што нібыта напісаў заяву аб адстаўцы.

Пытанне аб першым намесніку вырашылася 24 сакавіка 1992-га, калі на гэту пасаду на безальтэрнатыўнай аснове быў абраны стаўленік парламенцкай большасці Вячаслаў Кузняцоў. Перад галасаваннем Анатоль Лябедзька заявіў, што хацеў бы бачыць на гэтай пасадзе Віктара Ганчара.



БЮЛЕТЭНЬ

тайнага галасавання па пытанню:

Вы давяраеце Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. С. ШУШКЕВІЧУ?

~~ТАК~~ ~~НЕ~~ не

**Бюлетэнь з пытаннем аб даверы Станіславу Шушкевічу. Ліпень 1993 года**

Адносіны Станіслава Шушкевіча з парламенцкай большасцю пачалі імкліва псавацца з вясны 1992-га. Погляды Шушкевіча і большасці былі рознымі па пытаннях прыватызацыі, уласнасці на зямлю, адносінаў з Расіяй (асабліва ў вайсковай сферы), рэарганізацыі Вярхоўнага Савета. Большасць дэпутатаў усё часцей стала вінаваціць Шушкевіча ў падпісанні Белавежскіх пагадненняў.

Істотна пагоршыліся адносіны Шушкевіча з парламенцкай апазіцыяй БНФ. Калі БНФ настойваў на правядзенні рэферэндуму аб датэрміновым роспуску Вярхоўнага Савета і правядзенні новых выбараў (з гэтай мэтай прыхільнікі рэферэндуму сабралі звыш 400 тысяч подпісаў), то Шушкевіч выступіў супраць.

Моцны ўдар па Шушкевічу кансерватыўная большасць нанесла 3 лютага 1993-га, калі па ініцыятыве кіраўніка камуністычнай групоўкі Міхаіла Качана дэпутаты абмяркоўвалі пытанне аб адмене пастановы Вярхоўнага Савета ад 25 жніўня 1991-га аб часовай забароне дзейнасці КПСС-КПБ у Беларусі. Для адмены пастановы не хапіла толькі трох галасоў, і парламенцкая большасць літаральна прымусіла Шушкевіча паставіць пытанне на паўторнае галасаванне, у выніку чаго пастанова была адменена.

Своеасаблівым Рубіконам у палітычным лёсе Шушкевіча стала пытанне аб далучэнні Беларусі да Дагавора аб калектыўнай бяспецы, падпісанага па ініцыятыве Расіі ў Ташкенце ў 1992 годзе. 1 красавіка 1993-га дэпутат Аляксандр Лукашэнка ўльтыматыўна патрабаваў ад Шушкевіча, каб той унёс гэта пытанне ў павестку дня. На думку Лукашэнкі, каб захаваць суверэнітэт, трэба паступіцца яго часткай, «отступить от него на шаг, на полшага». І першым крокам у гэтым накірунку, сцвярджаў дэпутат, павінна быць далучэнне Беларусі да Дагавора.

Шушкевіч, у сваю чаргу, даказваў немагчымасць такога далучэння, бо з'явіцца небяспека ўдзелу Беларусі ў гарачых «кропках». Шушкевіч настойваў на правядзенні рэферэндуму па гэтым пытанні, аднак парламенцкая большасць 9 красавіка 1993 года зацвердзіла пастанову «Аб дакладзе старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Шушкевіча С.С. «Аб становішчы рэспублікі і важных пытаннях яе ўнутрыпалітычнай і знешнепалітычнай дзейнасці» (такі даклад быў зроблены Шушкевічам 26 сакавіка 1993 г.).

Пункт 4 пастановы даручаў Шушкевічу падпісаць Дагавор аб калектыўнай бяспецы з пэўнымі агаворкамі: неўжыванне Узброеных Сіл Беларусі ў іншых краінах, а таксама размяшчэнне і выкарыстанне ўзброеных сіл іншых дзяржаў на тэрыторыі Беларусі толькі са згоды Вярхоўнага Савета. Лагічныя довады Станіслава Шушкевіча аб тым, што тэкст Дагавора не прадугледжвае ніякіх агаворак, а ўсе папраўкі, паводле часткі 2 артыкула 9, уносяцца толькі на аснове ўзаемнай згоды удзельнікаў, былі адкінуты парламенцкай большасцю.

На гэтым наступленне парламенцкай большасці на Шушкевіча не скончылася. Па ініцыятыве дэпутата Івана Трусава 18 мая 1993 года ў парадак дня чарговай сесіі было ўнесена пытанне аб выкананні Станіславам Шушкевічам пункта 4 пастановы ад 9 красавіка 1993-га.

Дэпутат Ніл Гілевіч занатаваў у сваім дзённіку: «Прайшла! Рыхтуйся, спікер, да справаздачы! Ой, мала табе не пакажацца!»

Словы народнага паэта аказаліся прароцкімі.

Шушкевіч раскрытыкаваў пазіцыю дэпутацкай большасці наконт далучэння Беларусі да Дагавора. Ён сцвярджаў, што Расія ніколі не пагодзіцца на прэферэнцыі для Беларусі ў вайсковых справах. Па словах Станіслава Станіслававіча, зараз адбываецца выпрабаванне беларускай нацыі. У выніку спрэчкі выйшлі за межы Дагавора і ператварыліся ў ацэнку дзейнасці Шушкевіча на пасадзе старшыні Вярхоўнага Савета.

Найбольш актыўныя праціўнікі Шушкевіча 30 чэрвеня 1993 года пачалі абмяркоўваць пытанне пра яго адкліканне з пасады. Аднак уключэнне такога пытання ў парадак дня падтрымалі 146 дэпутатаў з 204, што прынялі ўдзел у галасаванні. На падтрымку Шушкевіча кінулася апазіцыя БНФ. Яе актыўны прадстаўнік Сяргей Антончык заявіў, што калі здымуць Шушкевіча, то ён будзе ініцыяваць агульнарэспубліканскі страйк.

Тады дэпутат Леанід Прывалаў прапанаваў правесці працэдуру даверу старшыні Вярхоўнага Савета. Такая працэдура не была прапісана ў Часовым Рэгламенце, але паводле тагачаснай Канстытуцыі 1978-га са зменамі і дапаўненнямі 1979 і 1989 гадоў (частка другая артыкула 97) Вярхоўны Савет мог разгледзіць любое пытанне, якое знаходзілася ў кампетэнцыі краіны. Дзмітрый Булахаў і Віктар Ганчар даказвалі, што працэдуры адозвы і даверу — розныя: працэдура даверу не мае ніякіх палітычных наступстваў. Булахаў дадаў, што калі большасць выкажа недавер Шушкевічу, то ў таго застанецца маральнае права: сыходзіць ці не.

І тут Станіслаў Шушкевіч не стрымаўся і зрабіў буйную памылку...

**Працяг у наступным нумары**

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №1 (125)
(студзень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест





**Рускі свет — свет ахвяры. Калі наўкола ворагі, калі іх паўсюдна шукаюць, значыць, суб'ект такой палітыкі — ахвяра. А ў ахвяры аніякай пазітыўнай матывацыі няма. Навошта імкнуцца некуды і працаваць, калі паўсюль ворагі? Найпершая задача — іх перамагаць. Але перамагчы не ўдаецца**

# Руская сцяна

**...Узнікае такое адчуванне, быццам ідзеш-ідзеш — і ўтыкаешся ў сцяну. Рускую сцяну, за якой рускі свет, дзе вароты зачыненыя і ніхто не адамкне іх для цябе з прычыны твайго іншабачання.**

Колькі не грукайся — не прайсці. І сцяна рускага свету стаіць тут, на нашай беларускай зямлі! Хоць і зразумелая з гістарычнага гледзішча сітуацыя, а ўсё ж парадаксальная...

На нашым канале СТВ натыкаемся і глядзім з жонкай расійскую тэлеперадачу аб «Тытаніку» і яго пагібелі. Цікава. Але ў выніку да якіх высноў прыходзяць аўтары? Аказваецца, «Тытанік» змайстравалі толькі дзеля таго, каб ён адразу затануў. Каб прыпыніць тэхнічны прагрэс, які набіраў сілу. Гэтак вырашылі моцныя свету гэтага — Ракфелеры, Морганы, Форды і ўсе астатнія да іх падобныя члены Гейдэльбергскага клуба. Масонская змова, словам. І, зразумела, найперш накіраваная супраць Расіі, якая на пачатку дваццатага стагоддзя набірала моцу. Бач ты, нават самы вялікі карабель будавалі, каб знішчыць Расію!

У народную свядомасць актыўна прасоўваецца і ўкараняецца псіхалогія ахвяры. Бачыце, колькі ворагаў усюды, яны былі і ёсць заўсёды, мы ахвяры, нам трэба змагацца з гэтымі ворагамі. Таму і чапляюцца яны за перамогу ў далёкай ужо вайне, крычаць: «Мы перамаглі!» Толькі акрамя крыку больш нічога няма. Па-за крыкам адчуваюць сябе ахвярай. І вось тут прыходзіць думка: рускі свет — свет ахвяры. Калі наўкола ворагі, калі іх паўсюдна шукаюць, значыць, суб'ект такой палітыкі — ахвяра. А ў ахвяры аніякай пазітыўнай матывацыі няма. Навошта імкнуцца некуды і працаваць, калі паўсюль ворагі? Найпершая задача — іх перамагаць. Але перамагчы не ўдаецца. Ваенная моц быццам ёсць, а вось псіхалагічнай бракуе, нягледзячы на стогны аб сваёй выключнасці.

Яшчэ адзін псіхалагічны аспект ахвяры — ніколі не каяцца, што б ты ні зрабіў. Знішчылі ў трыццатых гадах мінулага стагоддзя ўвесь цвет беларускай інтэлігенцыі — дык гэта так і трэба, каб забыліся на сваю Беларусь. У чым тут каяцца найбольш духоўнаму народу свету, які лічыць сябе спадкаемцам вялікай савецкай імперыі? Ён сам ахвяра з гледзішча знешніх ворагаў.

Таму і не хочацца ў той рускі свет, бо не хочацца быць ахвярай, а рупіць быць пераможцам. Самому жыць нармальна, а не вучыць іншых, як нармальна жыць. Але псіхалогія пераможцы — таксама справа тонкая. Як не дзіўна, яна грунтуецца не на тым, што твая краіна можа зброяй знішчыць цэлы свет, а якраз на жыццёвым падмурку: калі ты сам жывеш добра і ўпэўнены ў будучым сваіх дзяцей. А што там у навакольным свеце — цябе ў бальшыні выпадкаў мала абыходзіць. Як паспалітых людзей у паспяховых краінах. Яны проста працуюць і жывуць.

Мне бліжэй псіхалогія пераможцы. Так і стараюся сябе пачуваць, нягледзячы на тое, што ты як беларус за сваю драматычную гісторыю сам у шмат якіх выпадках быў ахвярай. Ну, быў, а сёння ты пераможца! Найперш таму, што ў цябе ёсць свая краіна Беларусь, у цябе ёсць будучыня. За гэты канчатковы вынік мы заплацілі шматлікімі ахвярамі, але перамаглі. І не зброяй, а духам.

...У Савецкім Саюзе ўсе размаўлялі на рускай мове. Але гэта не называлася «рускім светам». Нас заклікалі горда называцца «савецкім народам». Гэта сёння ўсходняя суседка кажа, што мы жылі ў рускім свеце — і аб гэтым трэба памятаць, гэта трэба захоўваць і нікуды не імкнуцца ад рускага свету ўцячы. Абсалютна не разумеючы, што сёння ў кожнага свой дом, кожны ўладкоўвае сваё жыццё самастойна, па сваёй (а не савецкай ці расійскай) ментальнасці, у тым ліку і ў моўным пытанні.

Акром усяго іншага, чалавеку ўласціва шукаць сваю выгаду. Вось і я думаю: а што мне з таго рускага свету, у якім мяне спрабуюць трымаць, лічаць, што я павінен там быць неад'емна? І не знаходжу нічога. Бо нічога майго беларускага спрадвечнага і гістарычнага ў тым рускім свеце няма і не прымаецца, бо маю родную мову там і за мову не лічаць, і маю дзяржаву лічаць недарэчнасцю. Апусцімся да зразумелага. З Расіі за час існавання незалежнай Рэспублікі Беларусь не фундавалася ніводная кніга на беларускай мове. А з польскага боку, да прыкладу, — не пералічыць. Палякі мудрэйшыя. Не толькі кнігі фундуюць, а і яшчэ шмат іншага, нават калі яны і лічаць нашу беларускую тэрыторыю сваёй. Бо сваіх мэтаў можна дасягнуць рознымі спосабамі. А ў выпадку з усходняй суседкай — адна толькі непрыхаваная агрэсія.

Рускі свет — найперш свет імперскі, што само па сабе ўжо агрэсіўна. Агрэсія ніколі не накіравана ўнутр, заўсёды вонкі. Каб жа яны ўнутры ў Расіі ўсталёўвалі свой свет як арганізацыю годнага жыцця, высокіх тэхналогіяў, сацыяльнай прывабнасці, духоўнасці. Не, тут, дома, мы можам жыць абы як, а вось звонку ўсе павінны быць у коле нашага свету. А хто не хоча, прымусім сілай.

Але што такое рускі свет? У гэтым свеце аб агрэсіі ніхто не кажа, ілгуць проста ў вочы, таўкуць аб нейкай духоўнай выключнасці. А дзе яна? Для мяне найпершая і найвысокая праява духоўнасці — пакаянне. Пакаяння ў нашых усходніх суседзяў я не бачу зусім. За сталінскія рэпрэсіі, за загінулых на вайне, за тое, што ў 30-я была вынішчана беларуская інтэлігенцыя, калі гаварыць больш лакальна і з нашага гледзішча. Немцы пакаяліся за вайну, за халакост. А тут аніяк. Наадварот, Сталіну помнікі зноў пачалі ўзводзіць, рукі якога па локаць у крыві. Як хрысціянін, я такога зразумець не магу. Не магу даўмецца, як чалавек можа заўсёды мець рацыю, быць бязгрэшным. Такога не можа быць па азначэнні чалавечай сутнасці. Аказваецца, можа, Расія — вось прыклад высокай духоўнасці. А на чым грунтуецца такая выснова — ніхто не можа растлумачыць. Проста так лічыцца з часоў «трэцяга Рыма».

Заўсёды здзіўляе, калі нас называюць нацыяналістамі. Прабачце, адказваю — я і рускую мову ведаю, і польскую, і ўкраінскую, усюды змагу паразумецца. І не лезу да суседзяў са сваім светам. У гэтым сэнсе, ды і па сутнасці, я інтэрнацыяналіст. А вы акрамя свайго «великого и могучего языка» нічога не ведаеце і не жадаеце ведаць. Хто тады з нас нацыяналіст у самым горшым значэнні гэтага слова?

Навошта мне такі рускі свет? Навошта мяне ўцягваюць у непатрэбныя чужыя праблемы (вядомы прыём), калі ў мяне сваіх цэлае бярэмя — не падняць? У мяне свая дзяржава. У мяне свой беларускі шлях. Адзіна правільны, прынамсі для мяне, бо накіраваны не на агрэсію, а на стваральнасць. Ідзём сваім шляхам, будуем свой беларускі дом, узводзім свой беларускі храм.

**Уладзімір Мароз**




# Конкурс «Экслібрыс» імя Францыска Скарыны

**Саюз беларускіх пісьменнікаў абвясціў пра пачатак прыёму прац на конкурс «Экслібрыс», які сёлета мае імя Францыска Скарыны і прымеркаваны да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, прысвечаны мастацкаму перакладу на беларускую мову.**

Да ўдзелу запрашаюцца аўтары ва ўзросце да 35 гадоў, якія перакладаюць паэзію, прозу або эсэістыку з любой мовы на беларускую. Тэматыка твораў — любая. Прымаюцца пераклады, якія раней нідзе не друкаваліся.

Аб'ём: да 1 друкаванага аркуша (40 тыс. знакаў з прабеламі для прозы і эсэістыкі; 700 радкоў для паэзіі).

Журы конкурсу: Ірына Багдановіч, Лявон Баршчэўскі, Зміцер Колас, Уладзімір Папковіч, Алена Пятровіч, Андрэй Хадановіч і Ганна Янкута.

Тэксты на конкурс можна дасылаць файламі ў фармаце .doc да 15 ліпеня 2017 года на адрас sbp@lit-bel.org, пазначыўшы тэмай ліста «Экслібрыс».

У лісце мусіць быць наступная інфармацыя: імя, прозвішча, дата нараджэння ўдзельніка, кантактны нумар тэлефона і e-mail.

Па выніках конкурсу мяркуюцца публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў», «навачаснай» «Літаратурнай Беларусі», а таксама выданне кнігі з перакладамі пераможцаў пры ўмове наяўнасці аўтарскага права.

# Святлана Алексіевіч выйшла са складу Рускага ПЭН-цэнтра

**Нобелеўскі лаўрэат па літаратуры 2015 года Святлана Алексіевіч пакінула шэрагі Рускага ПЭН- цэнтра, абвінаваціўшы кіраўніцтва арганізацыі ў баязлівасці перад расійскімі ўладамі.**

У каментары «БелаПАН» яна растлумачыла, што прыняла такое рашэнне пасля таго, як стала вядома аб выключэнні з гэтай арганізацыі расійскага пісьменніка і журналіста Сяргея Пархоменкі. Выканаўчы камітэт Рускага ПЭН-цэнтра палічыў, што Пархоменка вёў «правакацыйную дзейнасць, несумяшчальную з мэтамі і задачамі» арганізацыі.

«Рускія пісьменнікі, па-мойму, такія баязлівыя былі толькі ў часы Сталіна, — заявіла С. Алексіевіч. — Цяпер яны таксама гатовыя аблізваць боты уладзе. Гэта, відома, баязлівасць. Я лічу, што ідэя ПЭН-цэнтра была ў тым, каб менавіта служыць дабру. Пісьменнікі павінны не толькі пісаць, але і служыць дабру, дапамагаць».

Сяргей Пархоменка быў у ліку 60 членаў ПЭН-цэнтра, якія 24 снежня мінулага года звярнуліся з адкрытай заявай да Уладзіміра Пуціна. Яны папрасілі прэзідэнта Расіі памілаваць украінскага рэжысёра Алега Сянцова, асуджанага на 20-гадовы тэрмін па абвінавачванні ў экстрэмізме.

Практычна адразу пасля гэтага прэс-служба пісьменніцкай арганізацыі апублікавала паведамленне, у якім падкрэсліла, што кіраўніцтва ПЭН-цэнтра да гэтай заявы не мае ніякага дачынення.

Праз некаторы час выканкам арганізацыі выпусціў афіцыйную заяву з нагоды А. Сянцова, у якім выказаў занепакоенасць лёсам украінскага рэжысёра і папрасіў Пуціна садзейнічаць змякчэнню ўмоў яго ўтрымання, але адмовіўся патрабаваць яго вызвалення.

На сваёй старонцы ў Фэйсбуку С. Пархоменка раскрытыкаваў гэтае паведамленне, расцаніўшы яго як спробу кіраўнікоў ПЭН-цэнтра адхрысціцца ад звароту прыхільнікаў ідэі памілавання А. Сянцова, каб не патрапіць у няміласць. Гэты пост у сацыяльнай сетцы апублікавалі многія расійскія СМІ.

У знак салідарнасці ПЭН-цэнтр таксама пакінулі Уладзімір Вайновіч, Барыс Акунін, Ігар Ірценьеў, Людміла Уліцкая, Уладзімір Мірзоеў, Віктар Шэндэровіч, Сяргей Гандлеўскі, Леў Рубінштэйн, Вольга Седакова, Эдуард Успенскі, Міхаіл Берг, Андрэй Макарэвіч і яшчэ некалькі дзясяткаў аўтараў.

# «Ружа гэта ружа гэта словы»
## (пра новую кнігу Сабіны Брыло)

**Як адмысловы падарунак да Новага года, у снежні выйшла некалькі добрых кніг, і асобныя з іх — напрыканцы месяца. Лічы, з друкарні ды пад ялінку... Гэта «Радзіва Прудок» Андрэя Горвата, «Volumen.1» Міхала Бараноўскага, чакаецца яшчэ паэтычная тройка ў серыі «Пункт адліку», пра якую, мяркую, будзе яшчэ весціся грунтоўная размова. Цяпер жа варта заглыбіцца ў літары Сабіны Брыло.**

«Гэта літары» — так і называецца яе дэбютны зборнік. Назва наўмысна простая, і раскрывае яна як нельга лепей уласна характар паэзіі Сабіны Брыло. Галоўнае тут — сутнасць штодзённых з'яў, прадметаў, стасункаў між людзьмі, голая праўда, кажучы наўпрост. Верш як тэлеграма да найбліжэйшага чалавека. Ён гучыць як нешта глыбока асабістае, зразумелае адно дваім, адрасату й адрасанту, але ў гэтых суладны дуэт уклін响ваецца нахаба-чытач, і яму, цікаўнаму літаратурнаму шпіёну, усё ў гэтых прызнаннях зразумела.




*Ты спросила, почему мне нравится Боб Дилан.*
*Я довольно легко отвечу на этот вопрос:*
*Во-первых, он старый. Во-вторых, некрасивый.*
*В-третьих, играет на губной гармошке.*
*Вот если бы ты спросила,*
*за что ты мне нравишься —*
*Было бы ответить неимоверно трудно,*
*Потому что если бы это было не сейчас,*
*Я поцеловала бы тебя в губы.*
*Но сейчас совсем другая жизнь,*
*И я никак не выберусь к стоматологу...*
*Поэтому спрашивай меня о незначительном,*
*Спрашивай, почему это Боб Дилан.*

Гэта першы верш, ім сустракае вас кніга, і настрой гэты — патаемнай, але разам з тым адкрытай для ўсіх размовы, — застанецца да апошняй старонкі, як і галоўная тэма — чалавечае шчасце, адсутнасць яго ці майбытнасць, прага і спатоленне вечнага людскога жадання любіць:

*— Чего столпились на площади,*
*граждане люди?*
*Казни сегодня не будет,*
*чего ж вам надо?*

*— Мы все здесь хотим любви:*
*большой, настоящей,*
*невиданной, неописуемой —*
*разве нет?*

Сапраўды, хіба не?

Пішучы пра паэзію Валянціны Аксак, мне ўвесьчасна бачыўся каменны сад — адмысловае мастацтва маўчання і раскіданых у ім паўз. У выпадку з Сабінай Брыло асацыяцыя іншая: малюнкі ў наўмысна дзіцячым, прымітыўным стылі. Гэта паэзія, якая, кажучы пра надзвычай складаныя рэчы, маскіруецца пад простасць, забаўку. І што не менш важна, чытач адчувае: гэта сапраўды толькі маскіроўка, мімікрыя пад невыносную лёгкасць быцця, і яшчэ больш важна — аўтар таксама ведае, што чытач усё зразумее. Як там спявалася, «я знаю, что ты знаешь, что я знаю, что ты знаешь».

«Гэта літары» — зборнік, пра які варта казаць «быццам бы дэбютны». Агаворка «быццам бы» неабходная таму, што дэбютнай кнігу Сабіны Брыло можна лічыць адно фармальна, бо яна першая ў аўтара. Што да астатніх эпітэтаў, якія прывязваюцца да слова «дэбют» — у нечым непаслядоўнасць, у нечым — нясмеласць аўтара, няроўнае гучанне юнага голасу — гэтага вы не знойдзеце, не пабачыце. Сабіну Брыло анатацыя называе адным з найбольш яркіх аўтараў паэтычнага андэграўнда тут і цяпер. Па-мойму, дастаткова было проста сказаць: гэта паэт. Сапраўды, яе імя не новае для ўсіх, хто цікавіцца сучаснай паэзіяй. Яе светапогляд — глядзець на рэчы проста і называць іх сваімі імёнамі — склаўся даўно (але не закасцянеў, жыве і балюча пульсуе). Пра тое сведчаць хоць бы й сухія лічбы: у кнігу ўвайшлі вершы найноўшыя і амаль пяцігадовай даўніны, а ўсе разам яны гучаць гарманічна, так што падзел тэкстаў па гадах выглядае лішнім. Для адных аўтараў гэта гучыць як вырак: час ідзе, а я ўсё той жа, захрас у адной форме і нічога новага сказаць не маю. Тут жа іншае: творчая сталасць, чытай — паэт адбыўся, стаў, пасталеў, выстаяў.

Размова ідзе пра рэчы найзвычайныя (яны ж і надзвычайныя ў агульначалавечым вымярэнні): каханне, рэўнасць, «любоў і смерць», кажучы словамі Вудзі Алена, назіранні за людзьмі, а дакладней — тонкае адчуванне стану наваколля з усімі яго ўдзельнікамі, жывымі ці неадушаўлёнымі.

Вось, напрыклад:

*Август. Немного счастья,*
*немного денег.*
*Мокрый автобус,*
*медрегистратор с бомбой.*
*И продавец, у которого*
*столько злости,*
*Что непонятно, как он ещё*
*не лопнул,*
*Взвешивает, как вешает —*
*зная дело...*
*В камерах, офисах, холлах,*
*палатах — сыро.*
*Солнечный диск печален,*
*как диск Нирваны.*

*Маленький мальчик,*
*купивший дневник в киоске,*
*Полон плохих эмоций*
*и злых предчувствий.*

Той самы дзівосны эфект, якія гэтыя радкі выклікаюць (зноў цытуем анатацыю), спрацоўвае, насамрэч, па простай схеме. Прагучыць банальна, але: калі пра найпростую рэч найпрастымі словамі скажа паэт — гэта будзе паэзія. Калі пра глыбокі й неспазнавальны сэнс жыцця кваяцістымі, высокімі словамі выкажацца не-паэт — гэта будзе набор словаў. Такая бязлітасная магія, якая паддаецца не кожнаму. Калі свет літаратараў перавесці ў свет чараўнікоў, Сабіна Брыло будзе магам, на зайздрасць, можа быць, утомленым (тэрмін Галубовіча) магам ды сквібам.

У свеце Сабіны Брыло няма нічога нязначнага. Кожны рух эмоцыі, адценне голасу, змена ў позірку — вялікая падзея. Між тым, кажа яна пра гэта спакойна, не заломваючы рук, таму, мабыць, ёй і верыш. Падобнае гучанне — вялікай неахопнай праўдзівасці плюс дакладнага, адзіна магчымага тут і цяпер слова — у старажытнай кітайскай паэзіі. Датычна яе таксама задаюцца пытаннем: вось жа, некалькі слоў пра вецер, вераб'я, раку — і чаму так праймае?.. Тут, як кажуць, навука бяссільная.

Адно з ледзь улоўных, але вызначальных адценняў кнігі — гумар аўтаркі. Яна любіць гэты свет, а значыць, мае права казаць пра яго недахопы. Кажа: то з сумам, то з іроніяй, чыё джала нярэдка скіраванае і на ўласнае сэрца, то са стомаю. Між тым любоў тут нязменны складнік. Як і шчырасць, мужнасць сказаць «не ведаю», не караскаючыся на катурны нейкай там прарочай мудрасці.

*Когда кто-то другой любит того,*
*кого любишь ты —*
*Это невыносимо и кажется*
*несправедливым.*
*По логике текста, здесь должно быть*
*какое-то «но» —*
*Но я не знаю, какое, —*
*и его здесь нету.*

Маленькая рэмарка датычна менавіта гэтага тэксту: заўважылі гэтае прастамоўнае «нету?» Яшчэ адзін элемент гульні ў прымітыў, гульні складанай і філігранна праведзенай.

Напрыканцы прызнаюся, што пісаць пра гэтую кнігу нялёгка: калі тэксты такія вось простыя, як бездакорна роўная люстраная паверхня, адбіваешся ў іх ты сам. Я заўважыла тое, што жыве ўва мне. А што заўважыце Вы?..

**Наста Грышчук**

# З беларускай упартасцю

## 30 гадоў з дня смерці Мікалая Улашчыка

**Зямны шлях асабісты ён давяршыў нарысам пра сваю Віцкаўшчыну.**

Вёска, заўважаў аўтар, не з ліку знакамітых, найвялікшыя падзеі яе абмінулі, асаблівых славутасцяў не вылучыла. Аднак жа, удакладняючы, — вылучыла: «Здавён у Беларусі такіх людзей завуць волатамі. У асобе Мікалая Улашчыка, — адзначалася ў ягоным некралогу, — беларусы займелі яшчэ аднаго асілка духу. Сваімі працамі па гісторыі Беларусі вучоны зрабіў тое, што раней у нашай літаратуры здзейснілі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі. Вялікую мастацкую праўду аб сваім народзе ён падмацаваў трывалым падмуркам гістарычнае навукі» («ЛіМ», 21 лістапада 1986 г.).



Успамінаецца прыкметная дата на сыходзе яго жыццёвага шляху, 80-я ўгодкі нараджэння. Адпаведнае ганараванне ў светлай прасторнай зале Інстытута гісторыі Акадэміі Навук СССР. Узрушлівае ажыўленне прысутных калег, сяброў, знаёмцаў-прыхільнікаў юбіляра. Кветкі — гваздзікі белыя, чырвоныя, аксамітныя тульпаны кволенькія на афіцыйным стале лагодзілі-цяплілі той зімовы ранішнік у акадэмічнай установе. Тады ж сярод іншага занатаваў я прыветныя словы старшыні ўрачыстага дзейства В. І. Буганава, загадчыка сектара па вывучэнні летапісаў, разам яны звыш трыццаці гадоў творча ўзаемнічалі: «Мы сегодня приветствуем сына белорусского народа, покорившего вершины исторической науки». Пафасна, але ж справядліва. У Кнізе гісторыі ён адсланіў стоеныя сэнсы нацыянальнай мінуўшчыны, уключна з беларуска-расійскімі (літоўскімі, украінскімі, польскімі) узаемадачыненнямі. Не лішне згадаць яго фундаментальныя працы: «Перадумовы сялянскай рэформы ў Літве і Заходняй Беларусі», «Хроніка Быхаўца», «Нарысы па археаграфіі і крыніцазнаўству гісторыі Беларусі феадальнага перыяда», Беларуска-літоўскія летапісы ў серыі «ПСРЛ», тт. 32, 35, «Уводзіны ў беларуска-літоўскае летапісанне», мноства публікацый у калектыўных, перыядычных выданнях па гістарыяграфіі, этнаграфіі, фальклору, літаратуразнаўству, краязнаўству, тапаніміцы, экалогіі Беларусі. Водгукі на яго працы ў расійскім, беларускім, украінскім, літоўскім, латышскім, польскім, румынскім, чэшскім, англійскім, нямецкім друку — вымоўнае прызнанне навуковай грамадскасцю беларусазнаўчых набыткаў нашага суродзіча. Прыкладам, на Захадзе, сведчыць вядомы кнігазнаўца Вітаўт Кіпель, пасля Яўхіма Карскага з беларускіх даследнікаў-гуманітарыяў Улашчык згадваецца найчасцей.

Менавіта такога навукоўца ўшаноўвалі ва ўспомненай напачатку акадэмічнай зале. А што на тое віноўны падзеі?

Гожа смугляваты, магутны паставай, хоць відочна прытомлены, ён не прамаўляе, хутчэй разважае прыцішаным, нібы пра сябе, голасам — не тоячы сумнаватай смяшынкі на вуснах. Хто ведаў яго бліжэй, памятае гэты скупавата прыжыраны — пад іранічную рэпліку — усмех. Маўляў, і «садзілі» мяне, і «ганялі», цяжка даўся шлях у навуку, аднак жа такі нешта зроблена. За што — удзячны лёсу, калегам, усім тут прысутным.

Змоладу яго гвалтам выштурхнулі з Радзімы (справа так званага Саюза вызвалення Беларусі), а яму адно рупіла — як ёй лепш дарадзіць. Даўні, горкі парадокс прарока ў айчыне. Пазней і пры жыцці Гісторыка афіцыйныя структуры, іх квазінавуковыя прыкарытнікі ў БССР не вельмі праймаліся пошукамі, адкрыццямі былога «нацдэма». Упарта, да апошняга, блакавалі неспатольнае жаданне ўжо знанага вучонага вярнуцца дадому — прадоўжыць, давяршыць свае творчыя намеры-парыванні. Нават кнігу (як жа — беларускую!) — пра Віцкаўшчыну, куды б не звяртаўся — адпрэчылі (свет пабачыла толькі з надыходам галоснасці, па сыходзе аўтара ў іншы свет). «Верхом совершенства» ў гэтай зацятай падлянцы сталася рашучая адмова тадышняга кіраўніцтва гістфака БДУ на ўдзел у юбілейных Пічэтаўскіх чытаннях маскоўскага вучонага Мікалая Улашчыка — вучня й паслядоўніка колішняга рэктара БДУ, даследніка і публікатара яго творчае спадчыны. Не адзначыліся спагадаю да памяці Мікалая Улашчыка й цяперашнія валадары РБ, рэстаўратары «лініі Сталіна»: адмовілі адкрыццю помніка ў Дзяржынску, колішнім Койданаве, — малой радзіме вучонага. Помнік-валун той «асталяваўся» ў Старых Дарогах — у прыватным св.п. Анатоля Белага этнакультуровым музеі...

Выйшла друкам яго «Выбранае» ў серыі «Беларускі кнігазбор», ладзяцца навуковыя канферэнцыі. А нядаўна яго друкаваны даробак узбагаціўся яшчэ адной аўтабіяграфічнай кнігай «Даць народу гісторыю» («Лімарыус», 2016). Раней публікаваныя тэксты Улашчыкавай «Хронікі», студэнцкіх краязнаўчых падарожжаў тут апярэджваюць першыя вопыты маладога храніста, натаваныя ў сярэдзіне 1930-х (тыя сшыткі, часткова друкаваныя ў «Дзеяслове», перахаваў Арсень Ліс, пазней старанна пракаментавала Таццяна Кекелева).

Хранікальна-мемуарны цыкл Мікалая Мікалаевіча разам з яго ўспамінамі, згадкамі пра Янку Купалу, М. Багдановіча, М. Доўнар-Запольскага, М. Гарэцкага, В. Ластоўскага, У. Пічэту ды іншых — бясцэннае сведчанне шляху беларуса да Беларусі, узыходжання вяскоўца-студэнта з нізін сялянскае «тутэйшасці» да вяршыняў нацыянальнага самапазнання-самасцверджання. А затым — да адпаведнага выбару, значыць — да выпрабавання. У гэтым змагарным сэнсе асабісты досвед Мікалая Улашчыка, пражытае-перажытае ім, надае мемуарным старонкам выключную крыніцазнаўчую каштоўнасць, а таксама — усведамленне пастаці Гіторыка ў нацыятворчым працэсе.

Яго аўтабіяграфічныя ўспаміны-замалёўкі аспрэчваюць, між іншым, здавён устойлівы ў літаратуры няўцямна ніклы вобраз беларускай «дакастрычніцкай», беспрасветна занядбанай вёскі. З тае нагоды Улашчык, у іншым месцы, спрабуе аб'ектыўна зірнуць на праблему: «Але ж, бяспрэчна, беларусы не былі нейкай аднолькавай масай, не хадзілі ўсе ў лапцях, жывіліся нішчымнай бульбай і наогул былі падобны да жабракоў. На Беларусі ў канцы XIX — пачатку XX ст. былі тысячы паселішчаў, дзе сяляне жылі заможна, нават багата, мелі добрых коней, па 5–6 кароў, прадавалі зерне, на сотні рублёў жывёлы, іх дзеці пачалі паступаць у гімназіі, дочкі ў свята апраналіся так, што хутаранская модніца мала чым рознілася ад гарадской. Але ўсе гэтыя заможныя самі аралі і касілі, самі малацілі, самі кармілі скаціну, а калі ў іх былі нанятыя парабкі ці парабчанкі, то яны елі з імі з аднае міскі, і ў будзённы дзень адрозніць парабка ад гаспадара часам было нельга».

Улашчыкава апісанне традыцыйнай беларускай сям'і, пранікненне ў так званыя ментальныя структуры мінулага (як людзі жылі, працавалі, адпачывалі, вучыліся, што думалі, у што верылі і г.д.) спрыяе спасціжэнню жывога, дзейнага чалавека. У гэтым кантэксце выразней вымалёўваецца драматызм беларускае вёскі, нашае сацыяльнае Атлантыды, з заняпадам, сыходам якой у нябыт (згадайма Купалава «Сыходзіш вёска з яснай явы» і Барадулінава «...Сказаў Купала і — сышла») пачаў рушыцца нацыянальны падмурак Беларускага дому. Улашчыкавы ўспаміны-роздумы — гэта і гісторыя, і пэўнае прадказанне нашае незайздроснае сучаснасці, пры зацятым валадарстве над тутэйшым людам пакліканага, «электаральна», на сталец хама-антыбеларуса.

Крытыку-адмыслоўцу можна ўважней засяродзіцца над нарратыўнай стылістыкай Улашчыка-мемуарыста. Тым болей, калі аўтару давялося не толькі назіраць, але многае з таго «значнага, цікавага» перажыць-адпакутваць (яго «Хроніка» ў спомненым «Выбраным»). Невыпадкова апавядальны дар гісторыка аднойчы трапна прыкмеціў строгі ў ацэнках Васіль Быкаў, адгукаючыся на адну з яго манаграфій: «Здавалася б, вузка спецыяльная кніга, а чытаецца лепш за які раман».

Да мемуарных старонак дапасавана ў кнізе невялічкая частка яго эпісталярыі, вартай адмысловага фаліянта пры выданні збору твораў вучонага. Ці не ў кожным інфармацыйна насычаным тэксце — спрэсаванае багацце аўтарскай думкі, перажыванне ім асабістых і агульнабеларускіх клопатаў. Нават калі клопат той акрэслены двума-трыма радкамі, за якімі пазнаецца прыцярушаная пылам гадоў тая ці іншая старонка, ці нават і занядбаны аблог нацыянальнае гісторыі, культуры. Як у выпадку з тэмай бежанства, закранутай у лістах да Л. Войцікавай (Зоські Верас), В. Скалабана. Або лісты да В. Чамярыцкага — з павучальным досведам адкрывальніка-даследніка беларускай летапіснай айкумены. А перапіска з У. Калеснікам? Ці шчымлівая легенда пра Уладзіміра Жылку, светла балесную постаць беларускай паэзіі; з якім маладому Улашчыку давялося падзяліць гаркату выгнання, прачытаць дасланы яму аўтарам прадсмяротны «Тэстамент», перажыць Паэта трагічны сыход у вечнасць. Не менш узрушвае лістоўна спавядальнае ўзнанне Івану Мележу за палескую трылогію — як знамянальны довад нацыянальнай сталасці й самастойнасці беларускай літаратуры, якая «ўзнялася так высока, што ёй не трэба рэкамендацый, не трэба дапамогі, яна стаіць на сваіх нагах». Узаемнасць творчага прыцяжэння гісторыка і пісьменніка пасведчыў дарчым аўтографам і творца «Подыху навальніцы»: «Мікалаю Мікалаевічу, які на вечары аўтара 8 мая 1971 года пераканаўча даказаў, што зямля беларуская невыпадкова дала свету Кірыла Тураўскага і Сымона Полацкага і што іх талент не пагас, жыве і цяпер. Іван Мележ. 23.08.1971. Каралішчавічы».

Токамі высокага творчага напружання вылучаецца карэспандаванне з Сцяпанам Александровічам, Янкам Брылём, Нілам Гілевічам, Валянцінам Грыцкевічам, Генадзем Каханоўскім, Арсенем Лісам, Міколам Ермаловічам, Міхасём Ткачовым, Хведарам Янкоўскім, Эрнэстам Ялугіным, сябрам студэнцкае маладосці археолагам, лекарам Сяргеем Шутавым. Там скрозь гаворка пра здабыткі і страты айчыннай культуры, вострая занепакоенасць станам гістарыяграфіі, зберажэннем і асваеннем гісторыка-культуровай спадчыны, грамадскім прэстыжам, чысцінёй роднае мовы, прытарможаным станам нацыянальнай самасвядомасці, пачуцця самапавагі й годнасці ў народзе. З той жа інтэлектуальнай заклапочанасцю чытаюцца улашчыкавы лісты да калегаў з Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі, Польшчы, да настаўнікаў, вучняў-краязнаўцаў, зрэдчас да палітыкаў: Аляксандра Кузьміна, Кірылы Мазурава.

Да гэтага мудрага чулага чалавека ў Маскве, працятага жывой, незацугляннай Беларушчынай, кіравала свае творчыя пошукі, спадзяванні й азарэнні тая свядомая Беларусь, што не мірылася з квазінавуковай казёншчынай, з асімілятарскім засіллем. У гэтым сэнсе перапіска Улашчыка — унікальнае сведчанне няспыннасці нацыянальнага супраціву ў глухую пару бальшавіцкага панавання, татальнай русіфікацыі, глумлення з культуровай спадчыны, гістарычнай памяці народа. І адначасна — доказ неадольнасці векавечнай адраджэнскай традыцыі, з якой нястрымна бруіць, наталяецца сучасная плынь Беларускага Адраджэння...

Запыніся, ласкавы чытач, над спамінамі-роздумамі, хваляваннямі аднаго з Беларусаў. Пэўна, вартае штосьці распавядуць яны табе, варухнуўшы таёмныя мроі пра краіну Белую Русь. Купалы-Улашчыка сненні («Мне сняцца сны аб Беларусі») прымглёна зіхацяць з-над магільнага валуна ў менскай Чыжоўцы...

Варта чытаць, памятаць, верыць.

**Аляксей Каўка**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 1 (125) | 27 студзеня 2017 | № 3 (517) Новы час

# Лазня



Вінцэсь МУДРОЎ

**Суботнім вечарам бацька выцягвае з-пад ложка парэпаную фібравую валізку і выстуквае на ёй косткамі пальцаў «Карэла-фінскую польку». Гэта ў яго добра атрымліваецца: грукат стаіць на ўсю кватэру. Пасля таго бацька пстрыкае зашчапкамі, і маці кладзе ў валізку змену бялізны, мыла і лубяную, падобную на бараду лесуна, вяхотку.**

Кожнага суботняга вечара мы з бацькам ідзем у лазню.

У нашай кватэры ёсць ванна, але няма гарачай вады. Маці неяк нагрэла для мяне пару выварак, напоўніла ванну, але не паспеў я памыцца, як у дзверы пастукала старая Каржыха — суседка, што жыве пад намі. У яе там вада з трубы паперла. Больш мы ў хаце не мыліся.

Я першым выбягаю з кватэры, скачу праз дзве прыступкі па лесвіцы, а вылецеўшы з пад'езда, наструнъваў вуха ў спадзеўцы пачуць тую самую «Карэла-фінскую польку», але ўжо ў выкананні суседа з саракавой кватэры. Гэта сын Каржыхі. Ён яе часцяком грае на старым трафейным акардэоне.

Валізка ў бацькавай руцэ злёгку матляецца, ручка рыпіць у такт хадзе, і я намагаюся ісці ў ровень з тым рыпеннем. Але ўвесь час даводзіцца збівацца з рытму, бо па дарозе сустракаем бацькавых знаёмцаў, якія, зірнуўшы ў мой бок, кожнага разу прамаўляюць: «Які ў цябе ўжо сын вялікі». «Хутка ў школу пайду», — паведамляю бацькавым знаёмцам, і тыя ўхвальна ляпаюць мяне па плячы. Перад самай лазняй ручка ўжо не рыпае, бо бацька ўпіраецца пальцам у зашчапку і, прымружыўшы вочы, выглядае — ці стаяць на ганку дзядзькі з піўнымі кухлямі ў руках. Піва ў лазенным буфеце бывае прыкладна раз на месяц.

Бачу дзядзькоў з кухлямі, і ў мяне, як і ў бацькі, уздымаецца настрой. Піва, вядома ж, не п'ю, ды мне яго ніхто і не дасць. Радуюся, што пакаштую кампоту з айвы. Але пра гэта апавяду пазней.

У лазенным прысенку поўна народу. Тут перабліталіся дзве чаргі. Адна па квіткі, а другая ў буфет па піва, якое буфетчыца пампуе непасрэдна з бочкі.

— Давайце толькі тым, хто памыўся! — крычаць у натоўпе. — Выпіць гаючага напою прыходзяць «людзі з вуліцы», і паміж імі ды распаранымі чырванатварымі дзядзькамі раз-пораз усчынаюцца сваркі.

— Залезь, як я, на палок, а тады і піва бяры, — гугнявіць нехта ў нетрах натоўпу.

— Чаго цябе забірае, можа, я таксама мыцца прыйшоў, — кажа ў адказ бамбіза ў завэдзганай вапнавай рошчынай ватоўцы. — Тут непадалёку ўдзень і ўночы працуе раствара-бетонны вузел — дзядзька адтуль, відаць, і прывалокся.

— А дзе твой венік, а дзе мыла, а дзе твае трусы?

Ад вакенца касы прабіраецца, узняўшы ўгору квіток, цётухна ва ўзбітай на вочы хустцы.

— Няма ратунку ад п'яніц, — выдыхае цётухна, і бамбіза з растворнага вузла адступае ўбок, каб даць ёй дарогу.

Бацька займае чаргу ў касу, нецярпліва пераступае з нагі на нагу, а я, каб заняць вочы, чытаю «Правілы наведвання грамадскіх лазняў», што вісяць на сценцы. «Дзеці да 12 гадоў дапускаюцца толькі ў суправаджэнні бацькоў», — па складах, варушачы вуснамі, чытаю першы пункт. «У жаночыя аддзяленні дапускаюцца хлопчыкі да 3 гадоў... Катэгарычна забараняецца прыносіць і распіваць...» — мяне пхаюць у бок, і я падаюся да сценкі, не адрываючы вачэй ад правілаў. «Забараняецца таксама мыць бялізну, выносіць балеі з мыцельніка і выходзіць у фае ў аголеным выглядзе...». «А калі ў прасціну закруціцца — гэта аголены выгляд?» — думаю я, згадаўшы, як аднойчы лысы дзядзька закруціўся ў прасціну, пайшоў у буфет узяць кухаль піва, але буфетчыца не дала. Сказала, што распраненых не абслугоўвае. З лысага тады ўвесь мыцельнік смяяўся. Казалі, што калі б прасціна не прыліпла да мокрай сракі, глядзеўся б як рымскі арыстакрат.

Чарга ў касу, у адрозненне ад «піўной», рухаецца даволі хутка. Бацька ўжо непадалёку ад вакенца. Хвалюецца — ці хопіць квітоў. Мінулым разам скончыліся акурат у той момант, калі ён пхнуў нос у вакенца. Сядзелі потым і чакалі — калі людзі памыюцца.

«Пад час намыльвання нельга пырскаць мыльнымі хлапякамі, а абліваючыся вадой, не паліваць суседзяў», — мільгацяць уваччу радкі лазенных правіл, і да вушэй далятае радасны бацькаў воклік:

— Віць!

У прымыльніку вільготна, душна і тхне нейкай агідай. Я прынюхваюся, спрабуючы выявіць — чым гэта смярдзіць, — ды бацька штурхае ў спіну. Маўляў, рухайся хутчэй, трэба заняць шапік.

Непадалёку ад нас распранаецца аднарукі інвалід, які таксама мыецца па суботах. Небарака згубіў правую руку ў баях пад Смаленскам, і цяпер замест яе — ліловай водцені кукса. Інвалід любіць пагаманіць пра вайну, асабліва калі сёрбне піва. Слухаць яго цікава і ўадначас страшна. Надоечы пра нейкіх казахаў апавядаў, якіх прыгналі на фронт, паднялі ў атаку, а немцы іх мінамётным агнём накрылі. За паўгадзіны цэлы полк загінуў.

— Распранайся хутчэй, — бацька падхоплівае бляшаную балею і знікае ў ахутанай парам пройме дзвярэй.



**На здымку — тая самая лазня і тая самая вадавежа. Наваполацк. 1959 год.** Фота Аляксандра Васечкі

Месца, каб паставіць балею, знайшлі ў дальнім канцы лазні.

Лена ваджу намыленай вяхоткай па грудзіне, неадрыўна пазіраючы на вялізную лужыну, што разліваецца пасярод мыцельніку. Бярозавае лісце забіла злівную адтуліну, і вада падступае да нашай лавы. Цікава назіраць, як па лазеннаму мору плывуць мыльныя бурбалкі і, не раўнуючы, як чаўны, гойдаюцца на хвалях, узнятых чарговай пераккуленай на голаў балеяй.

— Бляха, дзе Кузьміч? — незадаволена азываецца нехта за спінай, і вось ужо той самы Кузьміч — апранены ў белы халат і абуты ў кірзавыя боты лазеншчык — прачышчае адтуліну каляным дзеркачом, і мора, развітаўшыся са светам засопленым зыкам, знікае.

— Мыць бялізну забаронена! — звяртаецца лазеншчык да дзядзькі, што сядзіць на другім канцы лавы і шаруе сацінавыя трусы.

Дзядзька кідае трусы на лаву, а калі Кузьміч адыходзіць, зноў падхоплівае, кладзе на калена і пачынае з яшчэ большым імпэтам шугаць па іх пляскатым змылкам. Відаць, не чытаў правілаў. І таўсценны бамбіза, які мыецца поруч, таксама не знаёмы з правіламі. Ганяе па валасатай грудзіне намыленую вяхотку, пырскаючы пенай на добрых два метры. Нават на маю макаўку хлапякі заляцелі. І навошта тады тыя правілы пішуць, калі іх, апроч мяне, ніхто не чытае?

Бацька пазычыў у некага венік і пабег парыцца. Парыцца ён звычайна доўга, і я кожнага разу хвалююся. А раптам там, на палку, учадзее? Аднойчы завёў мяне ў парыльню, дык пасля таго ў мяне на карку скура аблупілася. Апёк, відаць. Маці потым лаялася.

Насцярожліва, на цырлах, падыходжу да дзвярэй парыльні і гэтак жа насцярожліва адчыняю. Уваччу, ахутаныя гарачай смугой, мітусяцца ружовыя целы.

— Сява, паддай! — крычыць нехта з палка, і ў твар мне б'е пругкая аблачына. Твар гарыць агнём, я выкульваюся з таго страшнага месца і бягу пад «дождж».

Цёплыя струмені падаюць на плечы, казытліва збягаюць па сцёгнах. «Дождж» — лепшае, што ёсць у лазні. Гатовы стаяць пад ім цэлую гадзіну. Ды як пастаіш, калі ў мой бок сунецца той самы бамбіза з валасатай грудзінай. Галава і твар пакрыты мыльнай пенай, таму ён невідушча водзіць рукамі, хапае мяне за нос, і я, сагнуўшыся, выслізгваю з-пад казытлівых струменяў.

А вось і бацька. Яго нават цяжка пазнаць: чырвоны, як рак, ад макаўкі ўздымаецца пара, а да ілба прыліп бярозавы лісток.

— Ну ты тут мыешся? — пытаецца бацька, і я з уздыхам намыльваю голаў.

Праз гадзіну, дарэшты зморany, сяджу ля шапіка і ўтрапёна гляджу пад ногі. Пад нагамі ў мяне газета «Праўда» за мінулы месяц. Хоць яшчэ і не хаджу ў школу, але збольшага навучыўся чытаць, і цяпер засяроджваюся на кожным надпісе, што патрапляе на вочы. «Прамова М.С.Хрушчова на нарадзе...» — чытаю загаловак, але дзе была тая нарада, так і не даведваюся: бацька прыціскае «Праўду» мокрымі ступакамі.

— Не кідайце газеты на падлогу. Не аддзерці потым, — гукае Кузьміч, але яго ніхто не слухае. Вось і бацька кінуў пад ногі газеціну і з адчаем у кожным руху выцірае махровым ручніком валасы.

— Ну ты думаеш апранацца? — бацька насоўвае мне на шыю майку. — Хутчэй давай, а то іншым людзям трэба памыцца.

Насамрэч бацька не пра людзей рупіцца, а прагне сёрбнуць халоднага піва.

Калі самае прыемнае ў лазні — гэта цёплы дождж, дык самае непрыемнае — хустка, якую, па матчыным загадзе, бацька нязграбным рухам ускідвае мне на патыліцу. Калі завязвае маці, дык на скронях складкі пакідае, і ладна абцягвае галаву. А бацька проста сціскае вузлом шыю, і хустка адразу, як у той цёткі ля касы, лезе на вочы. Добра яшчэ, што прыкрываю яе шапкай «з вушамі».

У буфеце народу зусім няшмат. З людскіх размоваў пачулі, што ў чарзе пачалі біцца, і лазеншчыца з жаночага аддзялення прывяла міліцыянера. Ён і выгнаў з лазні ўсіх п'яніц. Я іх, дарэчы, адразу вызначаю. Яны край кухля соллю пасыпаюць. Вось і аднарукі інвалід пхнуў тры пальцы ў сальніцу.

Калі піва няма, бацька ў буфет не заходзіць. А вось калі ёсць, абавязкова бярэ сабе кухаль, а мне маленькі слоік кампоту з айвы — адзінай смакошы, што там прадаецца. І прашу буфетчыцу зняць накрыўку.

Я бяру слоік, п'ю салодкі кампот, казелю вокам на бацьку. Цікава глядзець, як ён прыкладаецца да кухля, як прагна, злавесна варушачы коўцікам, глытае піва, а крыху не дапіўшы, адчайдушна аддзімаецца. На ілбе бацькавым пры гэтым выступаюць вялікія кроплі поту. Дапіваe кухаль павалі, і потым вільготнымі вачыма глядзіць на буфетчыцу, якая куляецца за прылаўкам, пампуючы піва з бочкі. Бацька прагне дабаўкі, але маці дае грошы толькі на адзін кухаль і на слоік кампоту.

Хапаю ротам слізкі скрылёк і дзіўлюся — чаму бацька ўпадабаў горкае піва, а не салодкую і духмяную айву? Пару скрылькоў пакідаю маці, і так, са слоікам у руцэ, выходжу з лазні.

На цёмным небе ні месяца, ні зорак. Толькі свецяцца вокны на верхавіне вадавежы: яна стаіць адразу за лазняй. Вокны свецяцца ўсю ноч і бачныя ад пад'езда нашага дома. Мой аднагодак Мішка Корж — сын таго самага акардэаніста — кажа, што па начах на вадавежы збіраюцца злодзеі і дзеляць здабычу. Я таму, вядома, не даю веры. Але цяпер, пазіраючы на квадраты кволага святла, выразна ўяўляю круглыя сцены, такі ж круглы стол і падобных на піратаў злодзеяў, якія сядзяць вакол стала.

Каржыха, Мішкава бабуля, наогул апавядае страшныя рэчы. Нібыта ў пасёлку з'явіліся злодзеі, якія «прагульваюць» у карты людзей — тых, якія ходзяць у кіно. Нехта са злодзеяў застаецца ў дурнях і цягне з калоды дзве карты. Выцягне, скажам, шасцёрку, а потым дзясятку — гэта значыць, трэба зарэзаць чалавека, які сядзіць у клубе на шостым месцы ў дзясятым радзе. Распавёў бацьку гэтую гісторыю, дык той толькі галавой матлянуў. Маўляў, якая лухта. А калі на вадавежы і сапраўды сядзяць злодзеі ды гуляюць у дурня? Гляджу апошні раз на нізку кволых агнёў — і на злом галавы бягу па дарозе ў той бок, дзе чутны шаргатлівыя бацькавы крокі ды мерны і такі прыемны для вуха рып лазеннай валізкі.

зарасло, як джунглі, я баюся таго лесу, столькі ў ім гадасці: і ласі, і козы, і ваўкі, і яноты, а ўжо кабаноў! — усё зрылі лычамі... А то чуеш, я табе раскажу, адзін раз так перапужалася: што там такое робіцца каля рэчкі?!. Аж то ліса вожыка качае! Хоча ў воду закаціць, каб ён выдаўжыўся! А яна тады з-пад нізу кіпцюрамі шкрэб па жываце...»

Веснічкі на вуліцу самі сабой пачалі памалу адчыняцца, і з вуліцы паміж шулам і веснічкамі, штурхаючы іх галавой і бокам, прашыўся кот, белы з чырвонымі вачыма, вялы, хваравіты з выгляду, як усе альбіносы; не даходзячы да нас, за метр спыніўся і пачаў церціся выгнутай спінаю аб штыкетнік.

«Не галодны, — сказала Тацяна. — З вашай хаты сюды ходзяць. А яна, добра кажа, па мне хай дома чалавека не будзе, абы кот быў. Хай яны падохнуць, тыя каты... А то чуеш — раз уночы як зрабілася: гром, маланка, бура, канец свету, навальніца! Шыбы звіняць, сыплюцца, нешта лопаецца, нешта падае!.. Я спрасонку так і падумала: вайна, тут жа да Украіны во, даплюнуць можна... Я з ложка — ды пад падлогу ў склеп, а яно нешта — ды па нагах! ды пад сарочку! Я назад — а ў хаце зноў як трэсне, як бухне! — я зноў у падполле! Цырк... Пакуль не здагадалася ды не запаліла свечку, ды пад абраз, ды пачала маліцца — от тады толькі пачало сціхаць... А як развіднела, узяла ліхтарык, заглянула ў тое падполле, а там — мурашнік, шар з мурашак, як футбольны мяч, нейкіх рудых, маленькіх, як пчаліны рой... Перш хацела бензінам спаліць, а як ты пад хатаю спаліш... Акрапіла вадою, змяла венікам у вядро ды ў рэчку занесла высыпала...»

Уверсе, на заходнім баку елкі і на вершалінах яблыняў яшчэ залаціліся рэшткі сонца, а тут, у двары, ужо сутонне. Вось-вось сцямнее. Мне трэба было пазваніць у Мінск. У нізкім двары не браў тэлефон, і я выйшаў на вуліцу (альбінос — следам). На вуліцы быў новы, месяц назад пакладзены асфальт, тады ж і саму вуліцу падсыпалі, паднялі больш чым мо на метр — і тут, стоячы на гэтым нязвыкла высокім насыпе, я не ўтрымаўся, крадком зірнуў на сваю хату... У гэты момант адно з трох вакон, крайняе, злавіла шыбкай апошні сонечны промень, бліснула ў вочы, нібы прывіталася, — і так соладка і горка сціснулася сэрца! Менавіта каля гэтага я, малы, любіў чытаць вечарамі, у сутонні, прыпадаючы грудзьмі да падаконніка, носам водзячы па старонках... Усё, схавалася сонца. І адразу пацягнула ветрам, зашапацелі, затрымцелі лісцем яблыні.

Мы зайшлі ў веранду, Тацяна ўключыла святло, мы прыселі за стол выпіць па чарцы. І ўсё пад рэфрэн роўнага Тацянінага голасу; яна расказвала, як былі ў яе куры, рабая і чорная, і пацукі (Таня казала — «крысачы») навучыліся красці з-пад іх яйкі, проста з кубла — адзін лягаў на спіну, абхопліваў лапамі яйка, прыціскаў да жывата, а другі цягнуў за хвост... З веранды на двор, на траву падала паласа святла, таўкліся, кружыліся, танцавалі на мяжы светлага і цёмнага ранніх начныя матылькі — соўкі, тоўсценькія, з маленькімі, як у молі, крыльцамі, і, гледзячы на іх, я адчуваў, што ў мяне ў самога кружыцца галава, тахкае сэрца, ходзіць у грудзях цёплая хваля: ці то ад Тацянінай самагонкі, бурштынавай, як віскі, з пахам свежага хлеба, ці то нарэшце пачаў адбывацца ўва мне пераход ад сузірання, накаплення — да рэалізацыі.

Праз адчыненыя дзверы віднеўся кавалак неба, яшчэ не зусім цёмнага, але ўжо засеянага дробнымі мігатлівымі зоркамі, і адна, самая бліжняя, самая яркая, марудна перасякала неба — рухалася з усходу на захад, ледзь пульсуючы, пакідаючы за сабой роўненькі, як хто вёў алмазам па шкле, белы след.

# Стракатая коўдра чалавечых лёсаў

**Усе кнігі, што маю ў бібліятэцы, трапляюць да мяне пераважна двума шляхамі. Першыя, збольшага, выпадковыя (інтуітыўна купленыя ў кнігарні, прэзенты, спадчына бацькоў), другія — па ўласнай пастанове «набыць і пачытаць». Сярод апошніх — чарговы томік бібліятэчкі «Радыё Свабода», кніга Змітра Бартосіка «Быў у пана верабейка гаварушчы».**




Займець кнігу мне захацелася не праз збіранне серыі — яна, як і ўсе падобныя выдавецкія лінейкі, вельмі няроўная і розная, — а выключна з прычыны цікавасці да перадачы. Пачутая адночы на хвалях радыё, яна прыцягнула маю ўвагу назаўсёды. Канечне, як і большыня слухачоў, на ўсе выпускі я не патрапляў, але і тыя асобна ўхопленыя гісторы пакідалі моцнае ўражанне ды запаміналіся надоўга. Яшчэ адной прычынай была прыемнасць, што аўтар сімпатычнага «Чорнага пісталета» зноў узяўся за пяро.

Атрымаўшы кнігу, я раннім ранкам сеў за яе з кубкам кавы і... устаў, загарнуўшы апошнюю старонку, толькі абедам. Ад пачатку чытання мяне ахінула адчуванне ўтульнасці — нібы я, малы і сонны, сяджу на прыпечку ў вясковай хаце і, прымружыўшы вочы, слухаю гісторыі незнаёмых людзей. Яны, розныя — вясёлыя і страшныя, павучальныя і абсурдныя — ахутвалі мяне стракатай, пашытай з рознакаляровых лапікаў коўдрай. Менавіта так: стракатая коўдра чалавечых лёсаў, жывая добрая гісторыя — гэта першае ўражанне ад кнігі...

Некаму, пазбаўленаму схільнасці да падобных лірычных сантыментаў, падасца, што кніга ёсць хутчэй чарговай спробай напісаць сваю кароткую гісторыю Беларусі. Няхай так. Але з той агаворкай, што гэтая гісторыя напісаная надзвычай сціплым аўтарам са словаў гэткіх жа сціплых апавядальнікаў, што і робіць такую «кароткую гісторыю» сапраўды народнай, пазбаўленай акадэмізму, а значыць, і залішняга пафасу.

Заўважнай рысай кнігі сталася непадробная шчырасць суразмоўцаў. Тая, сапраўдная, якой не вучаць на журфаках і супрацьстаяць якой можна толькі гэткай жа шчырасцю пытанняў. Радасная і важная справа. Бо гэты просты і смешны гаварушчы верабейка мацней за грунтоўныя гістарычныя доследы супрацьстаіць усім абрыдлым партызанскім мемуарам, саўдэпаўскай хлусні і тэлеванітам пра тое, як добра было беларусам пры СССР. Непрыхарошаная, аглухлая, падслепаватая, з кепскім пахам з рота сама беларуская памяць у кароткіх парывах шчырасці сведчыць пра тое, чаго ад яе не хацелі чуць ніколі. Нават тады, калі пісалі пра вогненную вёску...

Змітру Бартосіку ўдалося ўнікнуць такога папулярнага цяпер смакавання чарнухі. Жахі і трагедыі не прыцягнуты ім знарок, яны настолькі арганічна спалучаюцца з гумарам і пазітывам тутэйшай філасофіі, што ствараецца ўражанне сапраўднага жыцця.

Напрыканцы адзначу, што не варта ўспрымаць гэтую кнігу як звычайныя запісы-нататкі журналіста. Дыхтоўнае ўступнае слова, якое складаецца не са звыклых дзяжурных абзацаў, а з дзясяткаў старонак, поўнае глыбокіх і цікавых падсумаванняў, якія разам з гісторыяй паўсядзённасці ў гутарках-абразках выдаюць на тое, што аўтара можна павіншаваць з добра зробленай працай, а чытача з вартай кнігай на паліцы.

**Усевалад Сцебурака**

# І рэхам у сэрцах адзавецца...

**С. С. Лаўшук. «Праз церніі да брамы неўміручасці: Кандрат Крапіва і беларуская драматургія» (Мінск, «Беларуская навука», 2016. — 267 с.)**

У беларускай літаратуры творчая індывідуальнасць Кандрата Крапівы ўзвышаецца велічна, непаўторна і ярка.

Яго творчасць, пачэснае месца ў якой займае драматургія, — цэлая эпоха ў нацыянальным мастацтве. Менавіта драматургічнай спадчыне К. Крапівы прысвечана новая кніга члена-карэспандэнта НАН Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Сцяпана Сцяпанавіча Лаўшука. Трэба адзначыць, што драматургію Крапівы літаратуразнаўца даследуе шмат гадоў: раней з-пад яго пяра выйшла грунтоўная манаграфія «Кандрат Крапіва і беларуская драматургія» (1986, перавыданне 2003), у якой яскрава быў выяўлены шлях славутага сатырыка ад байкі да камедыяграфіі.

У новай кнізе С. Лаўшук праводзіць даследванне творчасці К. Крапівы на шырокім, у тым ліку і новым, фактaлагічным матэрыяле, грунтуючыся на прынцыпах сапраўднага гістарызму і сучасных метадаў гуманітарнай навукі. Драматургія пісьменніка паўстае перад чытачом не толькі ў кантэксце злабадзённасці гістарычнага часу, калі яна стваралася, але і не менш актуальным яе гучанні ў часе цяперашнім. Гэта дазволіла аўтару прадставіць сённяшняму чытачу шматмерны, адметны і праўдзівы вобраз таленавітага пісьменніка і грамадскага дзеяча, які зрабіў велізарны ўнёсак у развіццё і ўзбагачэнне беларускай літаратуры, навукі, культуры і мастацтва не толькі мінулага, але і ўжо бягучага XXI стагоддзя.

Відавочная каштоўнасць гэтай кнігі яшчэ і ў тым, што яна дапамагае сённяшнім тэатральным дзеячам па-новаму прыглядзецца да багатай драматургічнай спадчыны К. Крапівы і ўбачыць новыя магчымасці ў іх сцэнічным увасабленні.

Тэатр як від мастацтва за некалькі тысячагоддзяў сваёй гісторыі не змяніў сваёй галоўнай сутнаснай эстэтычнай прыроды: сцэнічнае мастацтва праяўляецца праз чалавека і для чалавека. Вось чаму значэнне драматургіі было, ёсць і будзе вызначальным для паспяховага развіцця сцэнічнага мастацтва. Менавіта пра гэта яскрава сведчыць унікальны вопыт супрацоўніцтва купалаўскага тэатра з К. Крапівой. Іх магутны і своеасаблівы творчы «дуэт», як выразна і пераканальна паказвае аўтар кнігі, прынёс багаты творчы вынік: спектаклі паводле п'ес К. Крапівы заўсёды ўспрымаліся гледачом з вялікай цікавасцю, шчыра і ўдзячна. А гэта азначае, што тэатр разам з драматургам годна выконвалі сваю культурную і грамадскую функцыю.

Сёння ўжо новыя пакаленні беларускіх рэжысёраў і акцёраў звяртаюцца да спадчыны драматурга і ствараюць выдатныя пастаноўкі. Адзін з апошніх прыкладаў — адметны спектакль «Хто смяецца апошнім» у Мінскім тэатры-студыі кінаакцёра, стваральнікі якога былі адзначаны спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва.

Цяпер — новая рэчаіснасць, новыя праблемы і выклікі. Хочацца верыць, што сучасныя беларускія дзеячы сцэнічнага мастацтва знойдуць шляхі вырашэння складаных задач. У тым ліку і за кошт глыбокага асэнсавання тых здабыткаў і таго вялікага плёну, што прынесла актыўнае творчае супрацоўніцтва майстроў сцэны з К. Крапівой. Яго п'есы, як вельмі пераканальна паказвае і даказвае С. Лаўшук на старонках сваёй кнігі, прыносілі ў тэатр жывую, вострую сучаснасць, багацце чалавечых характараў, цікавыя сюжэты, сакавітую мову, шматгранныя адценні народнага гумару, тонкую іронію, бязлітасную сатыру і гераіку народнай барацьбы. Шмат разнастайных, жыццёва-праўдзівых вобразаў, створаных акцёрамі ў п'есах К. Крапівы, увайшлі ў скарбонку не толькі беларускага, але і еўрапейскага драматычнага мастацтва.

Кніга С. Лаўшука выклікае мноства розных думак, пачуццяў, пытанняў пра сённяшнюю літаратуру, мастацтва, рэчаіснасць. У гэтым галоўны вынік аналітычных намаганняў аўтара, якому ўдалося не толькі намаляваць уражлівы партрэт Крапівы-драматурга, але і адказаць на многія актуальныя пытанні далейшага развіцця беларускай культуры і яе ролі ва ўмацаванні беларускай дзяржаўнасці ў сусветнай прасторы XXI стагоддзя. Таму да яе з вялікай цікавасцю звяртаюцца не толькі дзеячы літаратурнай і мастацкай творчасці, але і шырокае кола дасведчаных чытачоў. Безумоўную карысць кніга прынясе як вучням старэйшых класаў, так і студэнтам гуманітарных і творчых вучэбных устаноў, бо напісана гэтая праца аўтарам не толькі з глыбокай і дакладнай навуковасцю, але і з вытанчаным літаратурным майстэрствам, а ў асобных выпадках і адметнай гумарыстычнай афарбоўкай, што надае выданню пэўную адметнасць і прывабнасць. А ў цэлым аўтару ўдалося галоўнае, прынцыпова важнае: зацікавіць патрабавальнага сучаснага чытача асобай выдатнага пісьменніка і грамадзяніна, тым самым абудзіць пачуцці павагі і непрыхаванага гонару за нацыянальную культуру і нашу дзяржаву.

**Вячаслаў Іваноўскі**

# Сагрэцца словам пасярод зімы

**Абрыдлі і назылелі ўжо гэтыя калялітаратурныя пасылы калі пра не ўпадак, дык пра летаргічны сон нашага нацыянальнага пісьменства. Мабыць, людзі звяртаюць увагу на не лепшыя творы і чытаюць не тыя кніжкі.**

Як чалавек, які пакуль яшчэ пільна адсочвае сучасны літаратурны працэс, запэўніваю вас, што і сёння ў нас дастаткова як старэйшых, так і маладых паэтаў і празаікаў, адораных боскім талентам, а бальшыня нашых аўтараў, перастаўшы традыцыйна «мыць раму», пачалі разглядваць і бачыць праз вымытае шкло праясненую карціну сучаснага свету і аддаленую перспектыву чалавечага жыцця...

Спашлюся хаця б на публікацыі часопіса «Дзеяслоў» па выніках прамінулага, 2016 года. А колькі твораў і кніг выйшла ў свет у іншых перыёдыках і выдавецтвах! Таму давайце да роднай літаратуры ставіцца па магчымасці аб'ектыўна.Чытаць яе, любіць, перажываць з ёй і за яе, ганарыцца ёю.

Цяпер спынімся на публікацыях апошняга (86-а) нумара часопіса за 2016 год.

Лірычная балканская балада «Алека» **Уладзімера Арлова,** заснаваная як бы на рэальнасцях аўтарскага жыцця, усё ж ма́е фантасмагарыстычны характар, «вылуплены» з падсвядомых асацыяцыйных напластаванняў гістарычнай памяці. Метамарфозы сучаснага нацыянальнага розуму на фоне падступаючай агрэсіўнай імперскасці ды глабальнай прагматычнасці.

*хто гэта сказаў пра час:*
*мы тут былі і адбыліся?*
*маўляў мілы прытулак*
*пяшчотны і эфемерны*
*твой варыянт пазбаўлены лірыкі:*
*былі і не адбыліся*
*развеяліся ў экзістэнцыйным тумане*
*у мірным пяшчотным прытулку*
*дзе над ложкамі схіляюцца*
*пачвары і дэманы*

Што да прозы **Віктара Казько,** то ўласна я не асмеліўся б яго філасофскія развагі пра чалавечае жыццё жанрава назваць апавяданнямі. Хутчэй гэта роздумна-сузіральныя, адстароненыя ад агульнапрынятых клішэ развагі пісьменніка на схіле свайго чалавечага і творчага веку пра сутнасць зямнога жыцця... Чытанне нялёгкае, падчас перагружанае псіхалагічнымі напластаваннямі, месцамі груваткае і непраходнае, асабліва для чытача, прызвычаенага да лёгкаважнай белетрыстыкі. Той жа, хто здолее дачытаць і вызваліцца з-пад цяжару абрыненага, пераасэнсуе і ўсвядоміць яго — выпрадзе з гэтай густа збітай тэкставай кудзелі балюча-праўдзівую сурову нітку чалавечага досведу і нашага зямнога існавання ўвогуле.




Вось некалькі цытат для агульнага ўяўлення творчай задумы пісьменніка і абгрунтавання вышэй сказанага:

*«Я даўно спатыкаўся на неіснуючым сабе. Здагадваўся пра гэта са сноў. Мо адзінай, непапраўленай і непрыхарошанай праўды на гэтым свеце. Існай праўды пра нас у прасторы, часе і Сусвеце. Здагадваўся, падсвядома ведаў і зацята адвяргаў веданне. Па сваёй жа ахвоце і пад прымусам...*

*Я ж толькі пясчынка, бляклая кропелька ранішняй расы ці крыві ў стваральнай гліне, торфе задумлівага і не ачулага яшчэ Палесся, у які на імгненне праблісную і таксама імгнення знікну, патухну. А Зямля — несмяротнае ўлонне незнішчальнай жарсці апладнення сусветна карысной, хаця часам і непатрэбнай гідотнай існасці...»*

Лірычны песімізм вершаў Ан**атоля Зэкава** («Белае і чорнае») нагадвае грахоўную споведзь аўтара і замольванне ім уласнай віны перад Айчынай, народам і каханай жанчынай... Тэксты пра каханне не надта ўразілі. Астатняе трымае на нервовым узводзе. Асабліва ўрэзаліся ў памяць наступныя строфы:

*З вакна ты выйшаў на карніз*
*і, стаўшы на яго, смяешся.*
*Усё блазнуеш, Толік Сыс?*
*Ой, не блазнуй,*
*а то сарвешся!*
*Глядзіш на нас ты зверху ўніз*
*і там, высока, на карнізе,*
*ты адчуваеш, Толік Сыс,*
*што нам нашмат страшней унізе.*

Раман **Валерыя Казакова** «Чорны кот» (друкуецца заканчэнне) — адна з лепшых, на маё меркаванне, публікацый часопіса за 2016 год. Гэта сюжэтна інтрыгоўны, можна сказаць, прыгодніцкі расповед пра некалькі пакаленняў беларусаў (даваеннага, ваеннага і пасляваеннага часу ажно да нашых дзён), якіх лёс выпрабоўваў і працягвае экзаменаваць па годнасць *«людзьмі звацца»* — усведамляць сябе нацыяй. Нямала чытачоў ужо займелі інтрыгу і станоўчы ўражанні ад твора, прачытаўшы пачатак гісторыі ў папярэднім нумары «Дзеяслова». Не думаю, што яны расчаруюцца, дачытаўшы раман да канца яго першай кнігі. Ну і будзем чакаць ад пісьменніка працягу расповеду — ужо пра нас саміх.

Вось запамінальны і, на мой погляд, ключавы маналог рамана, укладзены аўтарам у вусны вучонага Яўгена Леанідавіча, які прайшоў савецкія турмы і гітлераўскія канцлагеры: *«Незалежнасці ў нас не было ні пры паляках, ні пры царах, ні пры бальшавіках, ні пры фашыстах, няма яе фактычна і сёння. Існавала ды існуе толькі барацьба за гэтую жаданую незалежнасць, і яна будзе існаваць нават пасля таго, як гэта незалежнасць будзе намі здабытая. Шмат каму свабода здаецца недастатковай, няпоўнай, і тады абавязкова знойдуцца людзі, якія кінуцца заклікаць іншых да сапраўднай незалежнасці, фактычна — да незалежнасці ад саміх сябе. Усё можа быць. І яшчэ запомні, дачка: большасці людзей ніякая незалежнасць не патрэбная, яны яе лічаць падманам, прыдуманым габрэямі, каб дурыць людзям галовы і рабіць свой гешэфт; магчыма, і яны маюць рацыю. Па-другое, незалежным можа быць толькі чалавек, але калі незалежныя людзі збіраюцца ў нейкае таварыства і ў ім застаюцца, яны дабраахвотна губляюць частку сваёй незалежнасці, і гэта свядомы выбар. Дык вось галоўная задача і твая, і мая, і ўсіх нашых аднадумцаў — выхоўваць, гадаваць незалежнага чалавека, а для гэтага патрэбен мір і толькі мір, патрэбна вера ў будучыню, барацьба за захаванне мовы, побыту, культуры, і яшчэ трэба тое, што старажытныя называлі гуманізмам».*

Паэтычная нізка **Віктара Слінкі** («Вымаўленае ўслых») — якраз той выпадак, калі над вершамі *пакутуюць,* як над філасофскімі трактатамі. Калі ў час чытання проста фізічна адчуваеш — узляцець паэзіі над гэтым гняздом, звітым з сплётаў суб'ектыўных філасофскіх развагі і метафарычных адхіленняў, неймаверна цяжка. Але я ўсё ж параіў бы вам заглыбіцца ў яе нерушныя нетры, каб адчуць нязведаную асалоду ад хаця б некаторых асобных яе праяў. Ну, вось як гэтай, да прыкладу:

*А я люблю шаптацца з цішынёй*
*Аб нечым не сваім, а толькі ейным.*
*Яна мяне накрыла даланёй,*
*Сярод пакліканых назваўшы верным;*
*Што саладзей за боль і горыч ран,*
*якія з горкім болем зарастаюць?*
*Руіны верша адбудуй, як храм;*
*Стань ворагам усім сваім сябрам*
*Ці новым стань — цябе такім не знаюць.*

Сентыментальна-рамантычнае апавяданне пра юначае каханне, напісанае ў традыцыйным стылі («Балбес, або Закаханы Колік»), друкуе **Анатоль Бутэвіч.**

Публікуецца нізка аголена-лірычных вершаў **Волі Чайкоўскай** («Зялёная тонкая вечнасць»). Мне асабіста верыцца, што, як піша паэтка:

*У гэтых драўляных сказах –*
*Уся сутнсць усіх маіх*
*Былых*
*Дасягненняў,*
*Позіркаў,*
*Вершаў,*
*Аргазмаў.*

**Анатоль Бароўскі** прапануе чытачам азнаёміцца з урыўкам з яго рамана пад назовам «Гетману адданы» (пра дзяржаўную і ратную славу князя Канстанціна Астрожскага). Праўда, пра сам будучы раман («Кузня») па невялікім фрагменце пакуль гаварыць цяжка. Але па архіўных і летапісных вытрымках ды спасылах нельга не заўважыць карпатлівую і плённую працу пісьменніка над гістарычным і літаратурным матэрыялам. Будзем спадзявацца на ўдачу твора ў цэлым.

Новыя вершы **Міколы Кандратава** («Галасы») сталыя і суперажытыя аўтарам. Нават там, дзе паэт церпіць паразу, адчуваецца ўпарты мастацкі пошук: чалавека — у натоўпе і гармоніі — у стыхіі.

Часопіс працягвае публікацыю «Віленскіх казак» **Адама Глобуса.** Неардынарныя, але дасціпыя, кароткія па аб'ёму тэксты вызначаюцца непрадказальнымі матывамі і высновамі, безумоўна, не без канчатковага волевыяўлення аўтара.

Асобныя думкі і пачуцці ў адносна маладога паэта з Нясвіжа **Андрэя Козела** даволі выверaныя і празрыстыя, а вось бальшыня вершаў яшчэ ў працэсе крышталізацыі і ўдасканалення. Аднак лакальныя ўдачы ёсць. І зважаючы на тое, як працуе аўтар са словам, абавязкова яшчэ будуць:

*Верш недапісаны лёг на стале...*
*Можа, мне мроіцца? Можа, і не?*
*Слоў не хапае — узяць — дапісаць.*
*Лёг я на ложак — не хочацца спаць.*
*Што мне падкажа апошні радок —*
*дым тытунёвы, гарбаты глыток?*

Ужо з дзясятак гадоў ведаю **Вольгу Гапееву** як арыгінальную і таленавітую паэтку. А тут — п'еса! Я, сказаць па шчырасці, не вялікі аматар драматургіі, таму адразу адклаў яе прачытанне напаследак. І, ведаеце, — не расчараваўся. П'еса «Там» (у чатырох дзеях) напісана ў гратэскавым стылі, з відавочным фемінісцкім ухілам. Спецыфічны, падчас іранічны, погляд на сацыяльнае становішча жанчын у нашым грамадстве. Можна беспамылкова сказаць, што гэтая п'еса, кажучы словамі Джавані, не што іншае, як *«выдумка маёй галавы»,* і ўсё ж... Няблага было б ёй патрапіць па вочы добраму рэжысёру беларускага тэатра.

Друкуюцца крытычныя артыкулы і рэцэнзіі **пераможцаў конкурсу маладых літаратараў «Экслібрыс»** (Антося Уласенкі, Алены Карп, Дар'і Латышавай і Паліны Піткевіч).

Наш чытач мае магчымасць з захапленнем (і падтэкставым намёкам) пазнаёміцца з нашумелай казкай «Пра Хвядоса-стралка, здатнага дзецюка» выдатнага актора **Леаніда Філатава.** Кожным беларускім словам фігуральна і адпаведна ўклаўся ў рускі арыгінал перакладчык **Макс Шчур.**

Працягвае знаёміць чытачоў з партрэтамі сваіх калег і сучаснікаў (М. Аўрамчык, В. Вітка, М. Танк) літаратар і выдавец *Кастусь Цвірка.* А ўвесь цыкл успамінаў павінен неўзабаве аб'яднацца пад адной вокладкай яго новай кніжкі «Човен майго часу».

Гісторык **Станіслаў Рудовіч** піша пра малавядомую публіцыстыку Змітрака Бядулі («Устань, пакрыўджаны народ!»), а таксама пра неабазнаны бакі яго грамадзянскіх і нацыянальных поглядаў. Тут жа змешчаны і некаторыя артыкулы **З. Бядулі,** пра якія вядзецца гаворка.

Вельмі цёплы, душэўны і глыбока-разважлівы літаратурны нарыс («Тры дні на радзіме паэта») пра жыццё і творчасць беларускага паэта Алеся Каско друкуе яго малодшы зямляк і калега **Васіль Дэбіш.**

Арыгінальны погляд на творчасць пісьменніка Барыса Сачанкі прапануе малады драматург **Васіль Дранько-Майсюк.** Аўтар ненавязліва звяжае на тыя прыхаваныя за мітрэнгамі мітуслівага часу адметнасці, якія робяць творцу самавітым і выбітным сярод шэрагу сваіх калег-суайчыннікаў.

Пра незвычайныя кампазіцыі лёсу на шахматнай чорна-белай дошцы Айчыны неардынарнага беларускага чалавека з правіцы (барысаўчаніна Міколу Бельчыка) піша ў сваім эсэ паэт **Васіль Жуковіч.**

**Аляксандр Тамковіч** гутарыць з **Аленай Пастэрнак,** кіраўніцай Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў у Вісбю, што на востраве Готланд у Швецыі, дзе маюць творчы адпачынак і беларускія літаратары. Следам публікуецца падарожная *справаздача* — эсэ «Шведскія канікулы» Веры Лойка, якая нядаўна вярнулася адтуль.

**Леанід Галубовіч** рэцэнзуе кнігу выбраных вершаў і перакладаў «Адвячорак» Хрысціны Лялько.

Завяршаюць публікацыі нумара рубрыка «Дзеяпіс» і змест часопіса за 2016 год.

Усім свежых літаратурных уражанняў у новым 2017 годзе!

**ЛеГал**

## Будзьма з «Дзеясловам»!

*Падпісацца на часопіс «Дзеяслоў» можна ў любым паштовым аддзяленні Беларусі і спраўна атрымліваць яго шэсць разоў на год.*

*Індэкс для індывідуальных падпісчыкаў — 74813,*

*Для ведамаснай падпіскі — 748132.*

*Будзьма разам!*

# Радзівілы — творцы і мецэнаты

Уладзімер АРЛОЎ

**Выйшла ў свет кніга пісьменніка Уладзімера Арлова і мастака Паўла Татарнікава «Айчына. Маляўнічая гісторыя». Яна найперш адрасаваная дзецям і падлеткам, але прачытаць кнігу будзе карысна і дарослым: бацькам, дзядулям і бабулям, настаўнікам. Перад чытачамі «навачаснай» «Літаратурнай Беларусі» — яшчэ некалькі яе раздзелаў.**

## Мушкецёр і сябар каралёў

Пра гэтага Радзівіла можна было б напісаць раман не менш цікавы, чым «Тры мушкецёры» Аляксандра Дзюма. Багуслаў не горш за мушкецёраў валодаў шпагаю, біўся на дуэлях і за гэта нават трапіў у французскую турму Бастылію. Праўда, неўзабаве выйшаў на волю. Дапамагло добрае знаёмства і сваяцтва з каралём Францыі, у войску якога наш зямляк займаў пасаду палкоўніка.

Жыццё Багуслава Радзівіла заўсёды было поўнае прыгодаў. Неяк ён выратаваў жыццё шведскаму каралю. Англійскі ж кароль з нагоды прыезду вяльможнага ліцьвіна наладзіў баль і вялікае паляванне. Аднойчы князь трапіў у палон да татараў, але выкупіўся за невялікія грошы, бо змог прыкінуцца бедным шляхціцам.

Князя ведалі і як чалавека, які захапляўся мастацтвам. Ён пісаў рэлігійныя песні, збіраў карціны айчынных і замежных мастакоў.

Багуслаў і сам даволі добра маляваў, меў здольнасці архітэктара. Ён зрабіў праект гарадскіх умацаванняў Слуцка, у якім уладарыў. Пасля іх пабудовы гэты горад пачалі называць «бастыёнам Літвы».

Валодаў Багуслаў і пяром. Князь пакінуў цікавае апісанне свайго жыцця — аўтабіяграфію. Нядаўна яна выйшла асобным выданнем па-беларуску.

У сабранай князем бібліятэцы захоўваліся вельмі рэдкія рукапісныя і друкаваныя кнігі на дзясятках моў. Асабліва падабаліся гаспадару выданні, прысвечаныя мастацтву, архітэктуры ды геаграфіі. У гэтым кнігазборы знаходзіўся і старажытны летапіс з мноствам каляровых малюнкаў-мініяцюр. Ён збярогся і вельмі цікавіць сучасных вучоных. На старонках летапісу шмат малюнкаў з гісторыі нашай зямлі. Там можна ўбачыць выявы Рагнеды і Рагвалода, будаўніцтва Сафійскага сабора ў Полацку, бітву на Нямізе, захоп у палон князя Усяслава Чарадзея.

Па імені былога ўладальніка летапіс так і называюць — Радзівілаўскі.




Трэба дадаць, што імя Багуслава Радзівіла добра ведаюць жыхары недалёкага ад беларускай сталіцы Жодзіна. Яны лічаць князя заснавальнікам свайго горада і плануюць усталяваць яму помнік.

## Пісьменніца Уршуля

Княгіня Уршуля Францішка паходзіла з даўняга роду князёў Вішнявецкіх. Стаўшы жонкаю гетмана Міхала Казіміра Радзівіла Рыбанькі, яна пераехала ў Нясвіж і зрабілася там сапраўднай гаспадыняй: з густам упрыгожвала замкавыя залы, клапацілася пра архіў і бібліятэку, папрасіла мужа зноў адчыніць друкарню.

Ёй не падабалася тое, што нясвіжская шляхта бавіць час у бясконцых паляваннях, балях і бяседах. Уршуля хацела зрабіць жыццё ў радзівілаўскай сталіцы больш цікавым і разнастайным. З дзяцінства княгіня больш за ўсё іншае любіла тэатральныя пастаноўкі і марыла, каб спектаклі ставіліся і ў Нясвіжы. Для будучага тэатра яна сама пачала пісаць творы.

Першую камедыю Уршулі Францішкі «Дасціпнае каханне» паказвалі ў дзень імянінаў князя Рыбанькі проста пад небам. Знатныя госці ды святары сядзелі на канапах і крэслах, а шляхціцы стаялі вакол сцэны.

Дзейнымі асобамі былі пастухі і пастушкі, лекар, Арлекін і старажытныя багі. Спектакль атрымаўся вельмі вясёлы. Гледачам спадабаліся і смешныя прыпеўкі, жарты ды віншавальныя вершы, якія са сцэны чытала князю-імянінніку багіня палявання Артэміда.

Таленавітая гаспадыня Нясвіжа напісала яшчэ пятнаццаць камедый і трагедый. Апрача іх яна пакінула ў сваёй спадчыне вершы і творы для дзяцей.

Многія, відаць, памятаюць казачную гісторыю пра зачараваную прынцэсу, якая надоўга заснула. Княгіня зрабіла з гэтай вядомай ва ўсёй Еўропе казкі вельмі цікавы тэатральны твор.

Уршуля Францішка пісала на польскай, італійскай, французскай і нямецкай мовах, але простыя людзі ў пастаноўках часта гаварылі на сцэне па-беларуску.

У 1746 годзе даўняя мара княгіні Уршулі здзейснілася, і ў Нясвіжы з'явіўся сапраўдны тэатр з некалькімі глядзельнымі заламі і сцэнамі.

## Радзівілаўскія тэатры

Напэўна, вы няраз хадзілі ў тэатр. А цяпер уявіце, што «машына часу» перанесла вас на два з паловаю стагоддзі назад і вы трапілі ў Нясвіжскі тэатр Радзівілаў.

**Жыццё Багуслава Радзівіла заўсёды было поўнае прыгодаў. Неяк ён выратаваў жыццё шведскаму каралю. Англійскі ж кароль з нагоды прыезду вяльможнага ліцьвіна наладзіў баль і вялікае паляванне**

Для яго ў прыгожай мясціне на беразе штучнага возера быў пабудаваны адмысловы будынак. Гледачоў сустракала вялікая ўтульная зала, якую асвятлялі пяцьдзясят ліхтароў. Сцэну адгароджвала залацістая тканая заслона з радзівілаўскім гербам.

У тэатры разам з камедыямі і трагедыямі Уршулі Францішкі паказвалі творы французскіх пісьменнікаў Вальтэра і Мальера, а таксама оперы і балеты тагачасных кампазітараў. Ролі выконвалі мясцовыя акторы, спевакі і танцоры — з сялян навакольных вёсак. Побач з імі ў спектаклях нярэдка ўдзельнічалі самі Радзівілы, мясцовая шляхта і афіцэры нясвіжскага княскага войска.

У зале граў аркестр з некалькіх дзясяткаў музыкаў. Гэта былі таленавітыя беларускія сяляне. Аднаго з іх, скрыпача Яна Цэнціловіча, Радзівілы паслалі вучыцца ў Італію, а па вяртанні прызначылі кіраўніком свайго аркестра.

Здольныя вясковыя хлопчыкі і дзяўчынкі часта разам з князевымі дзецьмі навучаліся пад кіраўніцтвам вядомых педагогаў у створаных пры Нясвіжскім тэатры музычнай і балетнай школах.

Хлопчыкаў вучылі граць на скрыпцы, флейце, валторне, фагоце… З юнымі талентамі займаліся спачатку настаўнікі, запрошаныя з Францыі і Італіі. Але на змену ім хутка прыходзілі беларусы.

Простага хлопца Антона Лойку, які быў здатным да балета, з Нясвіжа выправілі ўдасканальваць майстэрства ў тэатрах Вены, Рыма і Венецыі. Вярнуўшыся, ён сам удзельнічаў у пастаноўцы балетаў і заслужыў пахвалу самога вялікага князя і караля Станіслава Аўгуста, які прыязджаў у радзівілаўскую сталіцу.

Дакументы сведчаць, што пад кіраўніцтвам Антона Лойкі на нясвіжскай балетнай сцэне выступала болей за трыццаць танцораў. Да нас дайшлі некаторыя іхнія прозвішчы: Багдановіч, Багушэвіч, Віктаровіч, Вольская, Глябовіч, Зданкевіч, Казлоўская… Магчыма, хтосьці з гэтых таленавітых людзей быў вашым продкам.

Тым часам іншы Радзівіл — Геранім Фларыян — адчыніў яшчэ адзін тэатр у Слуцку. Князь любіў спектаклі, дзе адбываліся бітвы, штурмы фартэцый і дуэлі на шпагах. У такіх спектаклях маглі ўдзельнічаць сотні жаўнераў слуцкага гарнізона.

Тэатральная зала Слуцкага тэатра была не менш прыгожай, чым у Нясвіжы. Вялікімі люстэркамі, багатымі крышталёвымі свяцільнямі і размаляванай столлю, а таксама складанымі сцэнічнымі механізмамі яна нагадвала сучасныя тэатры.

## Мацей, Антон і «Фаўст» Гётэ

Сярод Радзівілаў нараджаліся таксама таленавітыя музыкі. Найбольшую вядомасць з іх набылі князі Мацей і Антон. Тады, дарэчы, Нясвіж лічыўся адной з еўрапейскіх сталіц музычнага мастацтва.

Мацей Радзівіл пісаў паланезы, серэнады ды іншыя музычныя творы, якія выконваюцца і сёння. Ён стаў аўтарам оперы «Агатка, або прыезд пана», якая пасля Нясвіжа ставілася на сцэнах Вільні, Львова, Варшавы і Любліна.

Князь Антон Генрык Радзівіл вельмі хораша спяваў ды цудоўна граў на дзясятку музычных інструментаў, а з усіх найбольш любіў віяланчэль.

Яшчэ ў маладосці ён пасябраваў з выдатным нямецкім паэтам Ёганам Вольфгангам фон Гётэ. У 1820 годзе Антон напісаў музыку для оперы паводле гётаўскай трагедыі ў вершах «Фаўст». Паэт вельмі ўпадабаў твор нашага суайчынніка, якога назваў магутным талентам.

Антон Радзівіл быў добра знаёмы з усімі знакамітымі кампазітарамі Еўропы. Да яго на гасціны прыязджаў юны Фрыдэрык Шапэн. Пазней ён прысвяціў Радзівілу адзін з сваіх твораў. Прысвячэнне князю Антону было напісанае і на творах Людвіга ван Бетховена («Шатландскія песні», «Імянінная ўверцюра»), Фелікса Мендэльсона (фартэпіянны канцэрт).

Мацей і Антон жылі тады, калі Расея і яе хаўруснікі Аўстрыя і Прусія дзялілі паміж сабой Рэч Паспалітую. Абодва Радзівілы ненавідзелі захопнікаў. Мацей даў волю сваім сялянам — удзельнікам вызвольнага паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Прыязна ставіўся да паўстанцкага правадыра і князь Антон.

Ужо ў наш час музычныя творы Радзівілаў былі пастаўленыя беларускімі тэатрамі і набылі другое жыццё.

## Смаргонская акадэмія

Па Еўропе грымела слава пра створаную князямі Радзівіламі Смаргонскую акадэмію. Такой школы свет яшчэ не бачыў. Студэнтамі там былі… мядзведзі.

Самі мішкі паступаць у акадэмію не надта хацелі і хаваліся ў лясах. Таму ўсё пачыналася з палявання на маладых мядзведзяў у беларускіх пушчах.

Для навучання «акадэмікаў» рабілі адмысловыя «класы». Спярша будавалі прасторную клетку-хаціну, а потым пад яе дном змуроўвалі печ. Часам такі «клас» рабілі проста ў глыбокай яме на вяршыні пагорка. У яму апускалі клетку з мядзяным дном, а збоку капалі ход, каб пад сподам можна было расклаці вогнішча.

На заднія лапы вучням абувалі плецёныя з лазы ці з вяровак лапці. Распальвалі агонь, які добра награваў дно клеткі. У пярэднія лапы прыпякала, і мядзведзь станавіўся на абутыя заднія. Але надыходзіла хвіліна, калі ад гарачыні не ратавалі і чаравікі.

Працяг на стар. 18 (12) »

# Радзівілы — творцы і мецэнаты

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 17(11).**

Тады звер пачынаў «танцаваць» — пераступаў з лапы на лапу. Настаўнік у такт «танцу» граў на дудцы або біў у бубен.

Такія заняткі доўжыліся некалькі месяцаў. Потым звяроў выводзілі з клеткі. Настаўнік зноў браў у рукі бубен. Але вучоны мядзведзь ужо не чакаў, пакуль пачне смаліць у пяты. Пад музыку ён адразу танцаваў і атрымліваў за гэта салодкі пачастунак — пернік або лусту хлеба з мёдам. Настаўнік пытаўся ў касалапага артыста: «Скажы, Міхалка, ці любіш пернікі?» Кемлівы «акадэмік» ківаў галавой і браў з рукі новы ласунак.

Разам з настаўнікамі-павадырамі гадаванцы Смаргонскай акадэміі вандравалі па еўрапейскіх дарогах. Вясёлыя мядзведжыя выступы збіралі шматлікіх гледачоў на кірмашах і народных святах у Польшчы, Нямеччыне, Францыі, Італіі ды нават Швецыі. Нашы чатырохногія суайчыннікі весялілі гледачоў, паказваючы, як цалуюцца закаханыя, як вяртаецца дадому з карчмы падпіты дзядзька, як сварацца кабеты. Вучоныя беларускія мядзведзі ўмелі калоць дровы, насіць ваду з студні, трэсці яблыні, частаваць гасцей.

Кажуць, што князі Радзівілы ездзілі на запрэжаных у карэту мядзведзях з Нясвіжа ў Мір, а то і ў Горадню. Але такія падарожжы не вельмі падабаліся свабодалюбным «акадэмікам».

У Смаргоні вам і сёння раскажуць, як адзін з мядзведзяў не захацеў станавіцца ў запрэжку і, занараўвіўшыся, накінуўся на князя Радзівіла. Касалапага артыста ледзь супакоілі пернікамі ды цукеркамі...

### Урэцкае шкло і слуцкія паясы

Многія Радзівілы былі добрымі гаспадарамі. У падарожжах па Еўропе яны цікавіліся не толькі баламі, турнірамі ды іншымі забавамі, але і гандлем, ураджаямі, майстэрствам рамеснікаў.

Радзівілы адны з першых адчынілі ў Беларусі мануфактуры.

Мануфактура — гэта прадпрыемства, падобнае да невялікай фабрыкі. На ёй працавалі рамеснікі, але яны ўжо не рабілі, як раней, усю працу ад пачатку да канца сваімі рукамі, а дзялілі яе паміж сабою на часткі. Кожны адказваў за тое, што ў яго атрымлівалася найлепей. Так справа ішла хутчэй. Апрача таго, і прылады працы ў мануфактуры былі лепшыя, чым у простай рамесніцкай майстэрні.

Першая радзівілаўская мануфактура з'явілася паблізу Стоўбцаў у мястэчку Налібакі. Там рабілі рэчы са шкла. Такія мануфактуры называліся гутамі.

Налібацкая гута выпускала больш за сто розных вырабаў: люстэркі, свечнікі, бутлікі і кварты, збанкі, сальнічкі і цукарніцы... Для дзяцей рабілі шкляныя цацкі ды забаўкі: котачак, лісічак, буслікаў, мудрагелістыя пацешны посуд.

Захапленне выклікалі налібацкія вырабы з каляровага шкла: рубінавага і смарагдавага, блакітнага і пурпуровага. Госці Радзівілаў са здзіўленнем аглядалі ў Нясвіжскім замку адлітую ў Налібаках вялікую шкляную ванну чысцюткага нябеснага колеру.

Не меншую славу мела яшчэ адна вялікая радзівілаўская гута ва Урэччы непадалёку ад Любані.

Напачатку ўзорам для нашых гутнікаў была прадукцыя Дрэздэнскай шкляной мануфактуры ў Нямеччыне. Але неўзабаве беларускія майстры сталі выпускаць свае непаўторныя рэчы. Іх з задавальненнем куплялі ў Вялікім Княстве Літоўскім і ў Польшчы, у Францыі ды ў Італіі.

Налібацкія і ўрэцкія гутнікі любілі аздабляць шкляныя вырабы выявамі гербаў, жывёл, птушак і кветак, а таксама вясёлых сцэнак з палявання і штодзённага жыцця. На кубках, келіхах і шклянках можна было прачытаць вершы, жарты і пажаданні. Нашыя майстры бліскуча валодалі ўмельствам разьбы па шкле, размалёўвання срэбрам і золатам.

Арыстакраты розных краін замаўлялі на беларускіх гутах сабе партрэты. Вялікі князь і кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі загадаў, каб у ягоным варшаўскім палацы ў Лазенках на стале стаяла толькі налібацкае шкло.

Шмат якія вырабы з Налібакаў і Урэчча былі выдатнымі мастацкімі творамі. Сёння яны захоўваюцца ў музеях розных краінаў свету.

Заснавала гуты княгіня Ганна Кацярына Радзівіл. Гэта працавітая і руплівая жанчына адчыніла і шмат іншых мануфактураў. Яна хацела, каб вырабы ліцьвінскіх майстроў перасягалі сваім характарам замежныя, і не шкадавала грошай на навучанне здольнай моладзі.

Аднойчы да княгіні прывялі сялянскага хлопчыка з суседняй вёскі, які размаляваў замкавую сцяну. Юны мастак баяўся, што яму за гэта дадуць дубца. Ды Ганна Кацярына засмяялася і сказала: «Добра малюеш. Але каб сцены ў маім замку былі чыстыя, пашлю цябе вучыцца за мяжу».

Вы, пэўна ж, чулі пра знакамітыя ва ўсім свеце слуцкія паясы, праслаўленыя ў вершах і песнях. Гэтыя дзівосныя паясы выпускала Слуцкая мануфактура. Іх ткалі з шоўку-ядвабу і аздаблялі арнаментамі з выявамі валошак, незабудак ды іншых беларускіх кветак. Апрача ядвабу ткачы выкарыстоўвалі залатыя і срэбныя ніткі. Часам пояс насамрэч здаваўся зробленым з чыстага золата.




**Канстанцін Радзівіл грунтоўна даследаваў беларускую мову, звычаі і побыт землякоў-наваградцаў. Ён склаў слоўнік адметных мясцовых слоў, сабраў шмат цікавых прыказак, прымавак і народных песняў**

Паясы мелі даўжыню ад двух да чатырох з паловаю метраў. Яны былі часткаю адзення магнатаў і шляхты. Падобныя паясы, называючы іх таксама слуцкімі, ткалі і ў Польшчы ды Францыі, аднак нашы заўсёды цаніліся непараўнальна вышэй.

### Пане Каханку

Княгіня Уршуля Радзівіл нарадзіла 36 дзяцей, але амаль усе яны паміралі маленькімі. Да сталага веку дажыў толькі адзін — Кароль Станіслаў. Дзякуючы свайму ўлюбёнаму выслоўю ў гісторыю ён увайшоў пад мянушкаю «Пане Каханку». Такімі словамі князь заўсёды звяртаўся да кожнага шляхціча.

Пане Каханку быў самым багатым арыстакратам Рэчы Паспалітай. Ягоная ўласная армія магла паспрачацца колькасцю і ўзбраеннем з войскамі некаторых дзяржаваў. Князь часам вёў сапраўдныя войны з іншымі магнатамі і кідаў выклік самому вялікаму князю і каралю. Аднак найперш ён застаўся ў кнігах і ў людской памяці не праз высокія пасады, а таму, што быў вялікім дзіваком і аматарам самых неверагодных учынкаў і баек.

Пане Каханку называлі ліцвінскім Мюнхгаўзенам. Ён любіў, да прыкладу, апавядаць, як штурмаваў іспанскі горад Сарагосу. Непрыяцельская артылерыя страляла надзвычай трапна, але князь усё ж здолеў ускочыць на абарончы вал. І толькі тады заўважыў, што ўжо даўно едзе на адной палове каня, бо другую адарвала ядром.

Госці Пане Каханку няраз чулі пра тое, як іхні гаспадар сам сябе выцягнуў за валасы з балота. Або пра тое, як ён злавіў у Налібацкай пушчы чорта і тры дні адмочваў яго ў святой вадзе.

Неяк князю захацелася ўлетку праехаць у санях. Ён загадаў густа пасыпаць ваколіцы Нясвіжскага замка соллю. Ездзіць на конях Пане Каханку было ўжо нецікава, і таму ў ягоныя сані запрэглі вучоных мядзведзяў. Нясвіжцы з гэтага не толькі дзівіліся, але і мелі немалую карысць, бо змаглі на некалькі гадоў назапасіць сабе солі.

Не ўсе князевы забавы былі такія бяскрыўдныя. Ён мог даць загад, каб ягоныя сяляне пазалазілі ў замкавым парку на дрэвы і кувалі, як зязюлі. Тым часам Пане Каханку браў стрэльбу і страляў па няшчасных «птушках» перцам.

Гаспадар Нясвіжа любіў велізарныя бяседы-застолі, на якіх частаваў сотні шляхцічаў. Падпіўшы, ён праз меру шчодра адорваў незаможных гасцей. Бывалі выпадкі, калі князь раздаваў бяседнікам усё адзенне, што было на сабе, і заставаўся ў адных нагавіцах.

Відаць, таму, што сам Пане Каханку любіў вандроўкі ды прыгоды, яму вельмі падабаліся цыганы. Мястэчка Мір ён абвясціў сталіцаю цыганскага «каралеўства», а мясцовага жыхара Яна Марцінкевіча адмысловым загадам зацвердзіў цыганскім каралём. Кароль Ян уладарыў у Міры дванаццаць гадоў. Ён збудаваў сабе палац і часта запрашаў князя на гасціны. Пра тое цыганскае каралеўства стварыў цікавую аповесць наш выдатны пісьменнік Уладзімір Караткевіч.

Шмат літаратурных твораў напісана і пра самога Караля Станіслава Радзівіла — Пане Каханку.

### «Як запяе наш князь песню...»

Сын кампазітара Мацея Радзівіла — Канстанцін — таксама быў прыхільнікам мастацтва і творчай асобаю. Ён з'явіўся на свет у Рыме, але заўсёды быў патрыётам Літвы-Беларусі. Яго ніколі не вабілі высокія пасады і жыццё ў Пецярбурзе, Варшаве або Парыжы. Князь Канстанцін прысвяціў жыццё культурнай і асветніцкай працы ў родным краі.

Свой маёнтак Паланечку з прыгожым палацам і паркам Радзівіл ператварыў у сапраўдную культурную сталіцу Наваградчыны. Ён сабраў бібліятэку з чатырох тысяч кніг, каштоўны архіў і багатую калекцыю карцін. У гасцінным князевым палацы часта выступалі музыкі і літаратары. Там любіў бываць знакаміты паэт Уладзіслаў Сыракомля.

Канстанцін Радзівіл грунтоўна даследаваў беларускую мову, звычаі і побыт землякоў-наваградцаў. Ён склаў слоўнік адметных мясцовых слоў, сабраў шмат цікавых прыказак, прымавак і народных песняў. Пяру князя належыць навуковае апісанне беларускіх абрадаў на Каляды, Купалле і Дзяды. Канстанцін захапляўся беларускімі вясельнымі песнямі, якія не толькі занатоўваў, але і сам любіў спяваць. «Як запяе наш князь песню, — казалі навакольныя сяляне, — ажно птушкі сціхаюць!»

На схіле дзён, у 1863 годзе, князь Канстанцін дзякуючы свайму вялікаму аўтарытэту здолеў выратаваць Зыгмунта Чаховіча — аднаго з кіраўнікоў вызвольнага паўстання нашых продкаў супроць расейскага панавання. Смяротны прысуд Чаховічу замянілі на дванаццаць гадоў сібірскай катаргі.

Пазней, калі змаганец вярнуўся на радзіму, з ім пазнаёміўся малады Янка Купала. Паэт браў чытаць кнігі з багатай бібліятэкі былога паўстанца і няраз чуў ад яго пра добрыя справы князя Радзівіла.

**Малюнкі Паўла Татарнікава**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by



**Ідэалагічная і праграмная дысгармонія мала цікавіць еўрапейскіх правых. Зараз яны дзейнічаюць, хутчэй, сітуацыйна. Ім трэба стварыць ілюзію наяўнасці агульнага і саліднага фронту, каб прапанаваць сябе Трампу**

# З'езд пераможцаў

Алег НОВІКАЎ

**Падчас сустрэчы ў Кобленцы лідары еўрапейскіх правапапулісцкіх партый абвясцілі пра смерць Старога свету і акрэслілі контуры новага светаўладкавання.**

Тое, што еўраправыя абралі месцам сустрэчы нямецкі гарадок Кобленц, выглядае вельмі сімвалічна. Як вядома, пасля французскай рэвалюцыі горад стаў прыстанкам манархісцкай эміграцыі, цэнтрам раялісцкіх змоў супраць рэвалюцыйнага Парыжу. Адсюль у Францыю выпраўляліся эмісары, якія арганізоўвалі контррэвалюцыйныя паўстанні, тут быў цэнтр вярбоўкі жаўнераў для контррэвалюцыйных армій, у Кобленцы абмяркоўваліся планы — як спыніць рэвалюцыйны рух у Еўропе.

Прыкладна праз 200 гадоў Кобленц зноў апынуўся лабараторыяй правай стратэгіі. Тут засвяціліся такія топавыя фігуры правай сцэны ЕС, як Марын Ле Пэн (французскі «Нацыянальны фронт»), Фраўке Петры — кіраўніца партыі «Альтэрнатыва для Германіі», Герт Вілдэрс з нідэрландскай Партыі свабоды і, нарэшце, адзін з правадыроў італьянскай «Лігі Поўначы» Матэа Сальвіні.

Саміт у Кобленцы прайшоў ва ўзнятай эмацыйнай атмасферы, чаму, безумоўна, спрыялі навіны звонку. Гаворка не толькі пра інаўгурацыю Дональда Трампа, якога ўсе лічаць сваім хлопцам. Напярэдадні Марын Ле Пэн выйшла ў лідары прэзідэнцкай гонкі ў Францыі з 27 працэнтамі падтрымкі (яе асноўны апанент Франсуа Фіён мае 26 працэнтаў).

У самой Германіі выклікаў вялікі рэзананс дэмарш Эрыкі Штэйнбах— патрыярха ўрадавага Хрысціянска-дэмакратычнага саюза. Эрыка кінула парбілет на стол у знак пратэсту супраць дыктату наменклатуры Ангелы Меркель, якая навязвае партыі ліберальную павестку, у тым ліку і ў пытанні міграцыі. Наўрад ці Эрыка пагодзіцца стаць сябрам «Альтэрнатывы для Германіі», аднак канфрантацыя ў лагеры Меркель спрыяе хаосу ў мазгах правага выбаршчыка, і, як следства, пазітыўнай дынаміцы для правапапулістаў.




**Саміт у Кобленцы прайшоў ва ўзнятай эмацыйнай атмасферы, чаму спрыялі навіны звонку. Марын Ле Пэн выйшла ў лідары прэзідэнцкай гонкі ў Францыі**

З улікам гэтых фактараў не дзіўна, што ўдзельнікаў саміту цягнула на прэтэнцыёзныя дэкларацыі. Так, Марын Ле Пэн канстатавала, што Стары свет памёр і ў гісторыі Еўропы пачалася новая эра. Герт Вілдэрс павіншаваў аўдыторыю з 2017 годам, які, на яго думку, будзе пазначаны ў календарах як «Год вызвалення Еўропы».

Якія абрысы ў палітычнага парадку, што ідзе на змену лібералізму? Аналізуючы змест выступаў у Кобленцы, можна казаць, што яго асноўная рыса — адмова ад праекту «Еўрасаюз». На месцы нябожчыка плануецца ўзвесці канструкцыю «Еўропа нацый», дзе будуць ужывацца як еўрапейскі патрыятызм, так і нацыянальная ідэнтычнасць. Перакладзячы на зразумелую лексіку, гаворка ідзе пра канфедэралізацыю Еўропы. Гэта, маўляў, дазволіць узмацніць дзяржаўныя інстытуты на месцах і даць годны адказ на самы маштабны сучасны выклік — праблему мусульманскай эміграцыі.

Усе іншыя аспекты анансаванай у Кобленцы мадэлі, у тым ліку адносіны з Усходняй Еўропай, застаюцца малазразумелымі. Нездарма падчас мерапрыемства паміж удзельнікамі часам выбухалі спрэчкі. Напрыклад, дыскусію справакавала заява аднаго з рэгіянальных лідараў «Альтэрнатывы для Германіі», які атакаваў палітыку культуры памяці ў ФРГ, а дакладней — прысутнасць там тэмы Халакосту. Антысеміцкія пасажы некаторых немцаў генеравалі пратэст галандцаў і французаў. Апошнія, наадварот, лічаць, што ў барацьбе з радыкальным ісламам неабходна вывучаць і развіваць вопыт Ізраіля. «Ізраіль — гэта імідж нашай будучыні», — заявіў Маркус Прэтцэль (Marcus Pretzel), адзін з кіраўнікоў «Альтэрнатывы для Германіі».

Абсалютна не зразумелай пакуль з'яўляецца і формула еўрапейскай постліберальнай эканомікі. Шэраг спікераў выступалі за адмову ад еўразоны, у той час як іншыя, наадварот, заклікалі рэфармаваць еўрапейскі фінансавы саюз. Прысутныя на канферэнцыі журналісты ахвотна «тролілі» ўдзельнікаў пытаннямі наконт нестыковак эканамічных праграм еўраправых партый. Напрыклад, «Нацыянальны фронт» напоўніцу эксплуатуе тэму сацыялкі і абяцае радыкальную ракіроўку эліты. А яго нямецкі партнёр — «Альтэрнатыва для Германіі», — агітуе за большую свабоду для бізнесу.

Відавочныя супярэчнасці ў эканамічнай праграме Ле Пэн і яе прыхільнікі намагаліся зняць за кошт тэзісу пра агульную тактычную задачу: не дапусціць запуску праграмы працаўладкавання арабскіх мігрантаў у Еўропе. Рэалізацыя такой праграмы, па іх словах, выракае цэлую генерацыю маладых еўрапейцаў на беспрацоўе.

Калі верыць экспертам, ідэалагічная і праграмная дысгармонія на самай справе мала цікавіць еўрапейскіх правых. Зараз яны дзейнічаюць, хутчэй, сітуацыйна. Еўраправым трэба імкліва стварыць ілюзію наяўнасці агульнага і саліднага фронту, каб прапанаваць сябе Трампу ў якасці яго будучых галоўных партнёраў на Старым кантыненце. Пасярэднікам тут можа выступіць Найджэл Фарадж, былы лідар брытанскіх нацыяналістаў, аўтар ідэі Brexit і першы еўрапейскі палітык, з якім Дональд Трамп размаўляў пасля перамогі на выбарах. Па сутнасці, ад пазіцыі Трампа шмат у чым і будзе залежаць, ці мае шанцы «новы свет», пра які так шмат казалі ў Кобленцы.

Што атрымаецца на выхадзе? Высветлілася, што 21 студзеня — у той жа дзень, калі ў Кобленцы збіраліся еўраправыя, — у 1793 годзе ўвайшоў на эшафот кароль Людовік XVI. Манарха пакаралі за змову супраць французскай нацыі, а сляды змоўнікаў вялі ў Кобленц.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Крэмль паспрабуе паставіць беларускае кіраўніцтва ў такія ўмовы, што яму проста давядзецца паводзіць сябе лаяльна. А вішанькай на торце магла б стаць расійская авіябаза, на якой настойвала Масква, і ад якой Мінск адмовіўся. Спосабы, з дапамогай якіх Расія можа прывязаць Беларусь? Па-першае, гэта мінімізацыя субсідавання — крэдытаў і льготных паставак энерганосьбітаў, без якіх беларуская палітычная сістэма існаваць не можа. Па-другое, патрабаванне прыватызацыі «фамільнага срэбра», да якога ў РФ яшчэ ёсць цікавасць. Па-трэцяе, стварэнне ўласных ваенных рэсурсаў і пазбаўленне Беларусі магчымасці гандляваць з Расіяй дэкларацыямі аб ваенна-палітычным супрацоўніцтве. Па-чацвёртае, стварэнне іміджу Беларусі як саюзніка ненадзейнага і які рыхтуецца змяніць фронт, з дапамогай расійскай прапаганды, што зробіць беларускую контргульню вельмі складанай.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Сённяшняя сітуацыя ўнутры Украіны можа стаць паказальным урокам для суседніх дзяржаў, і ў першую чаргу для Беларусі. Цывільнае насельніцтва цяпер усведамляе, што актыўны ўдзел у палітычным жыцці свайго грамадства не з'яўляецца нейкай забаўкай. Кожны свой крок і рашэнне неабходна старанна абдумваць. Жыхары той жа Беларусі павінны выразна разумець, што ў выніку магчымага сыходу Аляксандра Лукашэнкі іх жыццё адразу ж не наладзіцца. Для гэтага неабходна будзе правесці вялікую працу, на якую далёка не кожны палітык здольны.

**«Биржевой лидер» (Украіна)**

У колах, якія займаюцца польскай усходняй палітыкай, на працягу доўгага часу існуе меркаванне, што Лукашэнка сапраўды стратэгічна залежыць ад Расіі, але ў той жа час з'яўляецца «буферам» паміж ёю і Захадам, таму што для яго важна, каб гэтая падпарадкаванасць не надта паглыблялася. І таму з ім варта фліртаваць. (...) У той жа час, стратэгічна, з польскага пункту гледжання, значна больш важным было б узмацненне падтрымкі беларускага народа. На самай справе, у крытычнай сітуацыі дзяржавай лёгка завалодаць, а яе дзяржапарат нават палегчыць гэты працэс. Значна цяжэй завалодаць народам, які ўсведамляе ўласную ідэнтычнасць.

**«Do Rzeczy» (Польшча)**

У Мінску разумеюць, што ўзровень самасвядомасці значнай часткі беларускага насельніцтва саступае ўзроўню самасвядомасці ўкраінцаў, таму ў тым выпадку, калі ў Крамлі адважыліся б на авантуру, магчыма, усю Беларусь спасціг бы лёс Крыма. Знайшліся б людзі, знайшлася б пэўная падтрымка сярод мясцовага насельніцтва.

**«Русбалт» (Расія)**

Што б ён (Дональд Трамп) ні казаў пра надыходзячае зніжэнне актыўнасці Вашынгтона за межамі ЗША і пра канцэнтрацыю на вырашэнні ўнутраных пытанняў, уплыў супердзяржавы на любыя падзеі ў свеце, у тым ліку на постсавецкай прасторы, нікуды не падзенецца. (...) Больш прадказальнай, як ні дзіўна, уяўляецца сёння лінія Мінска. У чарговы раз пакрыўджаны на Маскву і шукаючы «новых сяброў», Аляксандр Лукашэнка паспрабуе прадэманстраваць Вашынгтону распасцёртыя абдымкі. Убачыць іх Трамп — адно, а ці паверыць — зусім іншае.

**«Независимая газета» (Расія)**

За няпоўны месяц Беларусь надзвычай моцна ўзняла стаўкі ў дыялогу з Крамлём. Для шматлікіх расійскіх палітыкаў такі тэмп відавочна стаў шокам — выразнай рэакцыі не агучана нават сёння. Стаўкі паднятыя, падзеі набіраюць дынаміку — студзень і люты ў беларуска-расійскіх адносінах абяцаюць быць вельмі «цёплымі» і напоўненымі яскравымі падзеямі. Абедзве краіны усімі спосабамі паспрабуюць паказаць, як трэба «любіць» саюзніка.

**«Обозреватель» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Апаненты Трампа перапісваюць падручнікі

Адзін з дэпутатаў-дэмакратаў парламенту ад штату Каліфорнія прапанаваў прыняць так званы «Акт праўды». Акт тычыцца падручнікаў гісторыі, па якіх вучацца ў мясцовых школах. На думку дэпутата, школьнікі павінны ведаць пра расійскіх хакераў, якія, як ён лічыць, выкралі і апублікавалі кампраметуючыя дакументы на дэмакратаў, што паўплывала на вынікі прэзідэнцкіх выбараў 2016 года. Аўтар законапраекту спадзяецца, што новыя падручнікі пабачаць свет ужо праз некалькі тыдняў. Ініцыятыва, безумоўна, з'яўляецца следствам шоку каліфарнійцаў, якія масава галасавалі за Хілары Клінтан, на сенсацыйную перамогу Трампа. Самае цікавае, што арыгінальная ідэя можа атрымаць працяг. Раней па просьбе дэпутатаў-дэмакратаў мясцовыя падручнікі перапісвалі ўжо два разы. Яны дамагліся, каб у школьнай праграме падкрэслівалася значная роля Абамы ў гісторыі ЗША як першага чарнаскурага прэзідэнта. Акрамя таго, каліфарнійскі школьнікі — адзіныя школьнікі ў Злучаных Штатах, якія вывучаюць «Акт супраць кітайскай іміграцыі» ад 1882 года, які на нейкі час забараніў кітайцам жыць у ЗША.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. Трыумф мясцовай дэмакратыі

У Туркменістане поўным ходам ідзе імітацыя празрыстых выбараў кіраўніка дзяржавы, якія прызначаныя на 12 лютага. Афіцыйную рэгістрацыю ўжо атрымалі дзевяць кандыдатаў, у тым ліку трое — ад палітычных партый. Шэсць кандыдатаў вылучаны ініцыятыўнымі групамі грамадзян. У асноўным гэта работнікі «вертыкалі» або дырэктары буйных прадпрыемстваў. Мяркуючы па ўсім, менавіта вялікая колькасць кандыдатаў павінна быць індыкатарам дэмакратызацыі электаральнага працэсу. Падчас выбарчай кампаніі 2007 года Бердымухамедаву былі прызначаныя пяць апанентаў, у 2012-м — сем. Зразумела, прэзідэнцкія выбары ў Туркменістане шмат у чым маюць рытуальны характар, і ўжо сёння можна беспамылкова прадказаць вынікі галасавання. Унутраная легітымнасць улады (адпаведна, і стабільнасць у краіне) залежыць не столькі ад электаральных працэдур, колькі ад стану сацыяльна-эканамічнай сферы. Між тым, тут дзеючая ўлада сутыкнулася з сур'ёзнымі праблемамі: дзяржава вымушана была скарацiць выдаткі на сацыяльную дапамогу. Таму, нягледзячы на тое, што перамога ў Бердымухамедава практычна ў кішэні, у сярэднетэрміновай перспектыве сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў Туркменістане застанецца складанай.

**Паводле туркменскай прэсы**

### УКРАІНА. Забойства Шарамета раскрытае?

Служба бяспекі Украіны інфармуе, што прадухіліла арганізаваны двума злачынцамі замах на жыццё дэпутата Вярхоўнай Рады і дарадчыка дырэктара МУС Антона Герашчанкі, якога замовілі ў Крамлі. Акрамя таго, праваахоўныя органы цяпер правяраюць магчымую сувязь гэтага злачынства з забойствам беларускага журналіста Паўла Шарамета ў ліпені 2016 года ў Кіеве, паколькі «абставіны ідэнтычныя». Калі гэтая версія будзе даказаная, то атрымліваецца наступная карціна: за забойствам Шарамета стаяла Масква, якая, паводле Герашчанкі, з дапамогай дробнага крыміналу вядзе кампанію палітычнага тэрору ва Украіне з мэтай дэстабілізацыі абстаноўкі. Версія Герашчанкі знайшла як прыхільнікаў, так і крытыкаў. Апошніх пакуль больш. Ніхто не мае сумневаў, што ФСБ мае сваю агентуру ва Украіне, аднак наўрад ці яна будзе рабіць стаўку на ненадзейных дробных злачынцаў — і тым больш даручаць ім сур'ёзныя аперацыі. Акрамя таго, Герашчанка — не такая значная фігура, каб яго забойства выклікала параліч сістэмы.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### КУБА. Канец бязвізавым візітам

Барак Абама перад тым, як пакінуць пасаду прэзідэнта ЗША, падпісаў сапраўды гістарычны закон. Ён тычыцца візавага рэжыму для грамадзян Кубы. Паколькі Куба да нядаўняга візіту Абамы ў Гавану лічылася камуністычнай дыктатурай, кубінец, што дасягаў тэрыторыі Злучаных Штатаў, мог аўтаматычна атрымаць права на палітычны прытулак. А калі ўцякач не парушаў закон, то на працягу года яму давалі яшчэ і права на працу. Аднак цяпер гэтаму прыходзіць канец. Кубінцам, як грамадзянам суседняй краіны, для візітаў у Злучаныя Штаты спатрэбіцца віза. Рашэнне Абамы выклікала пратэст з боку кубінскай дыяспары, дзе рэй вядуць антыкамуністы. На іх думку, Абама здрадзіў кубінцам, паколькі цяперашнюю Кубу цяжка назваць дэмакратычнай краінай. Дысідэнты, якія раней спрабавалі нелегальна збегчы ад палітычнага пераследу ў ЗША, цяпер губляюць такую магчымасць. Белы дом, у сваю чаргу, кажа, што Злучаныя Штаты не зачыняюць дзверы для грамадзян Кубы. Па-першае, уводзіцца штогадовая латарэя, у якой разыгрываецца 20 тысяч віз у ЗША. Акрамя таго, амерыканцы запускаюць праграму ўз'яднання сем'яў, што дазваляе шматлікім кубінцам лягчэй іміграваць да сваякоў у ЗША.

**Паводле брытанскай прэсы**




Фота www.cotidianul.ro

# Споведзь ЦРУ

*Алег НОВІКАЎ*

**Архіварыусы ЦРУ апублікавалі 930 тысяч дакументаў пра дзейнасць сваёй арганізацыі, змест якіх дазваляе па-іншаму паглядзець на гісторыю XX стагоддзя.**

Найбольшы рэзананс, як і трэба было чакаць, паведамленне пра публікацыю дакументаў на сайце разведкі выклікала ў асяроддзі аматараў тэорый пра візіты на зямлю іншапланецян. Гэтая публіка даўно культывуе міф, што прыкладна з 1946-га госці з космасу падтрымліваюць кантакты з чыноўнікамі Вашынгтону.

Змест выкладзеных на сайце ЦРУ дакументаў адначасова і натхніў, і расчараваў тых, хто верыць у лятаючыя талеркі. Натхніў, бо спецслужбы фактычна прызналі, што іншапланецяне існуюць. Пра гэта сведчыць цэлы камплект дакументаў, у тым ліку і раней не вядомыя грамадскасці.

Напрыклад, на мяжы СССР і Ірану ў жніўні 1966-га назіралася незвычайная белая сфера, якая на працягу пяці хвілінаў пашыралася і ледзь не ахапіла ўсё неба. Беларусам, напэўна, будзе цікавы іншы даклад ЦРУ, які быў прысвечаны з'яўленню «лятаючай сасіскі» ў небе пад Вільнюсам у 1994-м. Расчараваў уфолагаў даклад тым, што ў ім няма ніводнай інфармацыі пра непасрэдныя кантакты зямлян і эмісараў іншых галактык.

Другая катэгорыя, якая найбольш зацікавілася паперамі ЦРУ, — аматары іншых паранармальных з'яў. Іх перш за ўсё зацікавіла праграма пад назвай «Залатыя вароты», якую амерыканцы запусцілі ў пачатку 1970-х гадоў. Задача «варотаў» палягала ў тым, каб выкарыстаць незвычайныя таленты рознага кшталту ведзьмакоў і экстрасэнсаў. Быў складзены спіс людзей, якія маюць паранармальныя здольнасці (прычым, пад маніторынг трапілі і некаторыя грамадзяне тагачаснага СССР). За кошт экстрасэнсорных магчымасцяў спецслужбы ЗША марылі прымусіць савецкіх лідараў падпісваць патрэбныя Захаду дакументы. Праўда, у выніку праект з невядомых (ці, наадварот, з вядомых) прычынаў прыпынілі.

Менавіта тэмы іншапланецян і экстрасэнсаў больш за ўсё цікавяць СМІ, якія аналізуюць паперы. Але апублікаваныя архівы ЦРУ ўтрымліваюць шмат файлаў, кантэнт якіх вельмі важны для дакладнага разумення сучаснай гісторыі.

Перш за ўсё, трэба нагадаць, адкуль узяліся тыя паперы. Яшчэ ў 1995 годзе прэзідэнт Біл Клінтан загадаў ЦРУ рассакрэціць дакументацыю больш чым 25-гадовай даўніны, калі яна мае «гістарычную каштоўнасць», аднак ЦРУ затармазіла працэс. Толькі ў 2014-м некамерцыйная арганізацыя «Muck Rack» запатрабавала адкрыць архівы ў рамках Закона аб свабодзе інфармацыі, і праз тры гады дакументы сталі даступныя любому чалавеку з доступам у інтэрнэт.

Што яшчэ можна даведацца з тых дакументаў, акрамя гісторый пра «лятаючыя сасіскі» і «нябачаны атрамант» (такі сродак таксама актыўна шукалі ў лабараторыях амерыканскай разведкі)? Аказваецца, вельмі шмат цікавага. Напрыклад, пра план амерыканцаў па вырашэнні аргенцінска-брытанскага канфлікту з-за Фалклендаў у 1982 годзе. Паколькі і Аргенціна, і Вялікабрытанія былі партнёрамі Белага дому, яго чыноўнікам давялося ламаць галаву, як прымірыць канфліктуючых. Выйсце было прапанавана арыгінальнае: перасяліць усіх жыхароў выспаў у Англію, а сам архіпелаг перадаць Аргенціне.

Акрамя такога кшталту кур'ёзаў у архівах ёсць і тэксты, здольныя выклікаць вельмі буйныя дыскусіі гісторыкаў. Пачаць можна з рапарту амерыканскіх агентаў з Мадрыда ў 1975 годзе. У ім паведамляецца, што кіраўніцтва Іспаніі ведала, што кароль Марока Хасан II задумаў захапіць афрыканскія калоніі Мадрыда, і пасіўна пагадзілася на такі сцэнар. «Неабходна, каб наша армія засталася дзеля гонару ў сваіх казармах», — загадаў тады вайскоўцам малады манарх Хуан-Карлас. У выніку Хасан II лёгка «аджаў» іспанскую Сахару, хаця, паводле афіцыйнай гісторыі Іспаніі, тая акупацыя была вераломнай акцыяй.

У Чэхіі вельмі бурлівую рэакцыю выклікала справаздача разведчыкаў ЦРУ ў Празе ў 1968 годзе. Апошнія паведамлялі ў Вашынгтон, што Саветы рыхтуюцца ўвесці танкі ў Чэхаславакію. Пра гэта янкі даведаліся са сваіх крыніц у савецкіх дыпламатычных колах. Чаму адміністрацыя Белага дому тады не праінфармавала ўрад Дубчака і не сарвала інтэрвенцыю, пакуль не зразумела.

Трэба аддаць належнае ЦРУ, якое давяло да агульнага ведама і некаторыя супярэчлівыя эпізоды сваёй біяграфіі. Напрыклад, у 1980-я гады служба завербавала шэраг вядучых кантрабандыстаў, якія пастаўлялі зброю тэрарыстам Ірландскай Рэспубліканскай Арміі (IRA) з тэрыторыі Ірландыі. Вярбоўку ЦРУ тлумачаць патрэбай стрымліваць Ірландыю ад канфлікту з Лонданам. Кантралюючы партыі кантрабанднай зброі, можна было пазбегнуць эскалацыі тэрарыстычных акцый у Паўночнай Ірландыі.

У іншых файлах ЦРУ таксама прызнаецца, што ў пачатку 1980-х гадоў яно дэ-факта ўскосна кантралявала баявое камуністычнае падполле ў Бельгіі, актывісты якога рыхтавалі бомбавыя атакі на размешчаныя ў краіне амерыканскія вайсковыя базы. Гледзячы па ўсім, ведамства нават пагадзілася на тое, каб не перашкаджаць тэрарыстам кідаць тыя бомбы...

Кантэнт дакументаў дазваляе сцвярджаць, што шпіёнам таксама ўласцівыя самыя фантастычныя памылкі. Напрыклад, спецыялісты лёгка вылічылі, што адзін з рапартаў агентаў ЦРУ пра нейкую цуда-зброю, зробленую ў СССР, — не што іншае, як перадрукоўка з папулярнага тагачаснага часопіса «Техника молодежи».

Некаторыя адкрытыя матэрыялы ЦРУ відавочна будуць мець уплыў на будучыню. Так, у 1983-м амерыканцы арганізавалі кансультацыі паміж Мадрыдам і Лонданам з мэтай перадачы Гібралтара ў склад Іспаніі. Планавалася, што Гібралтар, будучы іспанскім, узамен атрымае шырокую палітычную аўтаномію. Праект заглух праз хвалю нацыяналізму, якая ахапіла Брытанію пасля перамогі ў вайне за Фалкленды. Сёння іспанскія патрыёты заклікаюць апублікаваць дэталі той дамовы і рэалізаваць іх у жыццё.

Аналіз файлаў ЦРУ толькі пачаўся і, думаецца, нас чакае яшчэ шмат сюрпрызаў.

# Сепаратысты ў законе

Алег НОВІКАЎ

**У Грузіі абмяркоўваюць праект новай Канстытуцыі, паводле якой Абхазія і Паўднёвая Асецыя могуць атрымаць «асаблівы статус». Ці стануць карэктывы ў Асноўны закон першым крокам для рэінтэграцыі грузінскай тэрыторыі?**




«Пазбавіцца ад спадчыны Саакашвілі» — так матывавала ўлетку група грузінскіх парламентароў неабходнасць падкарэктаваць Асноўны закон краіны. Па іх словах, папраўкі, якія ў свой час зрабіў у Канстытуцыю Міхаіл Саакашвілі, не адпавядаюць рэальнасці, і ў дадатак супярэчаць прынцыпам дэмакратыі. Напрыклад, норма, паводле якой Грузія стала парламенцка-прэзідэнцкай рэспублікай, узнікла праз тое, што Саакашвілі не меў права балатавацца на пасаду гаранта. Давялося аператыўна перапісаць Канстытуцыю так, каб краінай кіраваў не прэзідэнт, а прэм'ер, прычым, без абмежавання колькасці кадэнцый. На пасаду кіраўніка ўраду і прэтэндаваў Саакашвілі пасля змены Канстытуцыі.

Параграф пра перанос парламенту ў Кутаісі быў прапісаны ў Канстытуцыі таксама невыпадкова. Маючы падтрымку ў сталіцы, апазіцыя часта выводзіла людзей да будынку парламенту на акцыі пратэсту. А вось у Кутаісі на маніфестацыі пад парламент сабраць натоўп апанентам Саакашвілі тэхнічна было значна цяжэй. «Што гэта, як не замах на дэмакра-




тыю?» — пыталі аматары перагляду Канстытуцыі.

Такія аргументы сустрэлі падтрымку ў грамадскасці, і ў снежні дэпутаты прагаласавалі за стварэнне чатырох групаў, якім даручылі напісаць праект будучых паправак. Праца ішла павольна, пакуль на мінулым тыдні не выбухнула медыя-бомба: на пасяджэнні Канстытуцыйнай камісіі паставілі пытанне пра ўнясенне ў Канстытуцыю запісу аб прысваенні асаблівага статусу Абхазіі і Цхінвальскаму рэгіёну.

З адпаведнай ініцыятывай выступіў прадстаўнік партыі «Грузінская мара», якая зараз мае большасць у парламенце. «Паколькі важна аднаўленне тэрытарыяльнай цэласнасці краіны мірным шляхам, было б правільна і своечасова надаць асаблівы статус нашым братам абхазам і асецінам», — сказаў адзін з аўтараў ідэі.

З'яўленне падобнай папраўкі можна разглядаць як рашучы паварот у грузінскіх палітычных дэбатах наконт алгартыму вырашэння тэрытарыяльнай праблемы. У другім артыкуле Канстытуцыі Грузіі гаворыцца: «Дзяржаўна-тэрытарыяльны лад Грузіі будзе вызначаны канстытуцыйным законам на аснове прынцыпу размежавання паўнамоцтваў пасля поўнага аднаўлення юрысдыкцыі Грузіі на ўсёй тэрыторыі краіны». Такая фармулёўка вельмі абстрактная, не кажучы пра тое, што сярод грузін хапае аматараў прынцыпу ўнітарнай дзяржавы.

Цяпер сепаратысцкім рэспублікам — пасля вяртання ў склад Грузіі — могуць быць гарантаваныя асаблівыя правы. Хаця ступень будучай аўтаноміі незразумелая, само абяцанне выклікала негатыўную рэакцыю ў грамадстве. Шмат грузінаў сталі ахвярамі сепаратыстаў і былі вымушаны падацца ў бежанцы. Так, адзін з апазіцыйных лідараў заявіў пра тое, што ілюзіяй ёсць «спроба вырашэння праблемы тэрытарыяльнай цэласнасці Грузіі з дапамогай аднабаковых саступак і жэстаў на адрас злачынных сепаратыстаў».

Хапае і тых, хто ў прынцыпе не верыць, што «асаблівы статус» зменіць адносіны нефармальных рэспублік з Тбілісі. Раней грузінскі бок неаднаразова прапанаваў тым жа ўладам у Сухумі нейкія сумесныя гуманітарныя, адукацыйныя праграмы, аднак адказ быў, як правіла, адмоўны.

Асноўная прычына гэтага, як пішуць эксперты, палягае ў натуры сепаратысцкіх рэжымаў. Іх лідары, маўляў, настолькі звязаныя з крымінальнымі схемамі — складнікам дзейнасці мясцовых гаспадарак, што любыя спробы нармалізацыі сітуацыі ў перспектыве пагражаюць ім судовымі пазовамі.

Акцэнтуецца ўвага на тым, што такія рэчы, як перамовы і кантакты з Грузіяй, знаходзяцца ў сферы кантролю расійскіх пратэктараў, якія не дазваляць «марыянеткам» сядаць за стол перамоваў. Узгадваюць агаворку лідара Абхазіі Сяргея Багапша ў 2004-м. Каментуючы прапанову Грузіі наконт стратэгіі развіцця ўзаемных кантактаў, той заявіў, што ў яго ёсць жорсткія інструкцыі, «чаго не павінна рабіць Грузія».

У такіх выпадках, як кажуць крытыкі «асаблівага статусу», любыя міралюбівыя прапановы Грузіі будуць успрымацца сепаратыстамі абыякава. А ў вачах шараговага абхаза або асеціна бясконцыя гуманітарныя грузінскія ініцыятывы — адзнака слабасці Грузіі, гатоўнасці ісці на саступкі. Наяўнасць «асаблівага статусу» можа быць таксама выкарыстана сепаратыстамі як аргумент за тое, каб патрабаваць у міжнародных структурах афіцыйнага прызнання сваёй дзяржаўнасці.

Праўда, альтэрнатыва «асабліваму статусу» таксама выглядае вельмі слаба. На пытанне, як жа вярнуць Абхазію і Паўднёвую Асецыю, гучыць стары адказ: дачакацца спрыяльных геапалітычных умоваў, калі Расія — куратар сепаратыстаў, — стане больш слабай і санкцыянуе вяртанне Абхазіі і Паўднёвай Асецыі ў лона грузінскай дзяржавы.

Так ці інакш, пакуль большасць грузінскага грамадства выступае супраць «асаблівага статусу», што выразна ілюструюць настроі ў сацыяльных сетках.

Ці рызыкне ў такой атмасферы «Грузінская мара» прапанаваць сепаратыстам «асаблівы статус», стане канчаткова вядома 31 красавіка, калі праекты паправак у тэкст Канстытуцыі павінны быць апублікаваныя. Адказ на гэта пытанне таксама чакаюць у Кіеве, Кішыневе і іншых сталіцах краін СНД, якія таксама павінны вырашаць пытанне тэрытарыяльнага адзінства.

**Сепаратысцкім рэспублікам — пасля вяртання ў склад Грузіі — могуць быць гарантаваныя асаблівыя правы. Хаця ступень будучай аўтаноміі незразумелая, само абяцанне выклікала негатыўную рэакцыю ў грамадстве**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Мяа Вэй



Кіраўнік міністэрства прамысловасці і інфарматызацыі Кітаю — ведамства, адказнага ў тым ліку за рэгуляванне і развіццё ў краіне інтэрнэту, — анансаваў крыжовы паход супраць сэрвісаў VPN.

Ведамства Мяа Вэй адказвае за працу Great Firewall — комплексу праваых і тэхнічных захадаў для цэнзуры кантэнту кітайскага інтэрнэту. Аднак з гэтым не ўсё добра — з-за тэхналогіі VPN, якая «шыфруе» месцазнаходжанне абанента і, такім чынам, дазваляе абыходзіць блакіроўку. Кампанія, ініцыяваная Мяа Вэй, працягнецца некалькі месяцаў, пакуль дзяржаўныя хакеры КНР не ўзламаюць усе VPN. Канчатковай перамогі ў кібераспрасторы чыноўнік абяцаў дамагчыся да адкрыцця з'езду Камуністычнай Партыі Кітая, дэлегаты якога збяруцца разам напрыканцы гэтага года.

У сувязі з абвешчанай кампаніяй заходнія праваабаронцы кажуць, што яе ахвярамі могуць стаць простыя карыстальнікі, якіх паспрабуюць прыцягнуць да адказнасці. Аднак у цэлым, на іх думку, вайна ўладаў супраць VPN бесперспектыўная. Калі дзяржаўныя хакеры навучацца ўзломваць існуючыя VPN, незалежныя праграмісты аператыўна прыдумаюць новыя тэхналогіі.

### Вайра Віке-Фрэйберга



Былая прэзідэнт Латвіі трапіла ў незвычайны скандал. У яго цэнтры — могілкі. Журналісты высветлілі, што Вайра Віке-Фрэйберга нейкім чынам забяспечыла сабе месца на вельмі элітных могілках, прычым побач з магілай першага прэзідэнта Латвіі.

Як яна гэтага дамаглася, ніхто не разумее, паколькі па законе хаваць там могуць толькі родзічаў нябожчыка. Як следства, з'явіліся абвінавачванні ў карупцыі, якія падтрымалі сацыяльныя сеткі. Справай было вымушана заняцца Бюро па прадухіленні і барацьбе з карупцыяй (БПБК). Рэакцыя былога прэзідэнта была надзвычай эмацыйная. Яна заявіла, што хацела перавезці з Канады і пахаваць у Латвіі парэшткі сына, які жыў усяго дзень. Акрамя таго экс-прэзідэнт эмацыйна паскардзілася на «нянавісць, злосць і зайздрасць» латвійскага народа, заявіла аб сваім расчараванні ў латвійцах і заклікала пахаваць сябе ў Канадзе.

Між тым, урад пабачыў у гісторыі палітычны падтэкст. Скандал вакол Вайры Віке-Фрэйберга сапраўды адцягнуў інтарэс ад вельмі важнай падзеі — урачыстасцяў з нагоды барыкад у Рызе (абарона парламента ў студзені 1991-га). Крытыка экс-прэзідэнта Латвіі з'яўляецца недапушчальным выступам супраць сімвала дзяржавы, заявілі на пасяджэнні кіруючай у Латвіі кааліцыі.

### Адам Бароў



Тое, што Бароў стаў новым прэзідэнтам Гамбіі — сапраўдная гістарычная з'ява. Вельмі рэдка лідары афрыканскіх краінаў змяняюцца ў выніку выбараў. Прынамсі, за ўсю гісторыю Гамбіі — гэта першы выпадак. Нездарма папярэдні прэзідэнт Яйя Джаме не збіраўся пакідаць пасаду, хаця яшчэ 1 снежня мінулага года прайграў выбары. Толькі пад ціскам пагрозы інтэрвенцыі з суседняга Сенегалу, ён пагадзіўся перадаць уладу Бароў.

Аднак значна больш цікавая біяграфія новага гамбійскага гаранта. Ён — першы афрыканскі прэзідэнт, які раней жыў і вучыўся ў Еўропе, каб пасля вярнуцца на радзіму і зрабіць тут палітычную кар'еру. Перад тым, як стаць гамбійскім палітыкам, Адам вучыўся і працаваў у Лондане.

Больш таго, заняўшы пасаду прэзідэнта, ён ставіць на суайчыннікаў, якія выраслі і вучыліся за мяжой. Бароў жадае бачыць чыноўнікамі новага рэжыму менавіта іх. Калі дыяспара адгукнецца на яго заклік, то нас чакае цікавы эксперымент.

Застаецца адзначыць, што ў гісторыі перамогі Бароў ёсць загадкавы момант. Незразумела, чаму гамбійскі ЦВК, які складаўся з людзей прэзідэнта, прызнаў пераможцам на выбарах Бароў, а не свайго патрона. Падчас кампаніі Яйя Джаме арыштаваў каля 10 тысяч сваіх праціўнікаў, кінуў за краты галоўнага апанента. Трэба было мець вялікую мужнасць (або нейкую падтрымку), каб прызнаць, што кандыдат ад улады прайграў.



Шляхецкі тэатр у Гістарычным музеі ў Мінску





Захапленне эстэтыкай ВКЛ — верны шлях да «ліцвінства»

# «Яшчэ не позна вярнуць краіне

Алесь КІРКЕВІЧ

**За адказамі на пытанні, хто такія ліцвіны і навошта беларусам у XXI стагоддзі спатрэбілася ліцвінская ідэя, мы звярнуліся да даследчыка Яна Лялевіча.**

Здаецца, ліцвінства, як і тэма Вялікага Княства наогул, яшчэ нядаўна аб'ядноўвала беларускі патрыятычны сегмент грамадства. Зараз жа, з падачы расійскай прапаганды, з'явілася думка пра нібыта дзве нацыі, якія жывуць у Беларусі: ліцвінаў-нацыяналістаў і беларусаў-русафілаў. Зразумела, што даносіцца гэта ў якасці падставы для расколу грамадства, таму і рэплікі ў абарону ліцвінскай ідэі нават у патрыятычных колах усё часцей успрымаюцца як «правакацыя».

У разгар спрэчак на тэму «ліцвінства», якія звычайна адбываюцца без уліку меркавання яго прыхільнікаў, мы вырашылі паразмаўляць з гісторыкам, які спецыялізуецца на балцкай і ліцвінскай тэме — Янам Лялевічам, супрацоўнікам Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея. Цікава, што Лялевіч апынуўся акурат у складзе тых самых некалькіх дзясяткаў чалавек, якія падчас апошняга перапісу ў графе нацыянальнасць пазначылі: «ліцвін».




Ян Лялевіч

### Іншапланецяне, уніяты і «балцкі субстрат»...

***— Дык хто такія ліцвіны?***

— Ліцвіны — гэта протанацыя, якая існавала прыкладна з XIV да канца XIX стагоддзяў, калі зніклі яе парэшткі ў выглядзе збольшага каталіцкай шляхты ды інтэлігенцыі. Калі мы кажам пра нацыю, дык кажам пра людзей, якія сябе так акрэслівалі, пазіцыянавалі як міжсобку, так і перад суседзямі. Найперш мы кажам пра тых, хто ствараў палітыку і культуру, ведаў, хто ён і кім былі ягоныя продкі.

Цяжэй пра гэта казаць у датычнасці да сялянаў. Прычым гэта тычыцца любых сялянаў: які-небудзь мазаўшанін у тыя часы мог называць сябе падданым Кароны Польскай, але наўрад ці лічыў сябе палякам. Таму ліцвіны — протанацыя: неадбыўшаяся і нерэалізаваная ў сучасным свеце.

***— Як можна акрэсліць арэал пражывання ліцвінаў геаграфічна?***

— Істотным чыннікам быў дзяржаўны прынцып: гэта




Пагоня, якая паходзіць ад тых самых служылых «лейтаў» вялікага князя

арэал, заселены падданымі Вялікага Княства, якія жылі на яго тэрыторыі. У меншай ступені гэта тычыцца людзей, якія мелі выразна балцкае генетычнае паходжанне. Зрэшты, ніхто і не адмаўляе, што да славянскай каланізацыі балты жылі і на Смаленшчыне, і на Браншчыне, ажно да Арла і Маскоўскай вобласці. У гэтым сэнсе колішні балцкі арэал супадае з максімальным тэрытарыяльным выбухам ВКЛ.

Значна больш важнае пытанне: што ж такое гэты славуты «балцкі субстрат» у фармаванні беларускай нацыі, пра які так шмат казалі ў 1990-я гады. Часам здаецца, што гэта ўсяго толькі геаграфічны арэал, у якім жылі нейкія людзі, што пакінулі па сабе геаграфічныя назвы і нешта з археалогіі, і... зніклі!

Таксама, як мне некалі падчас экспедыцыі казала адна бабця з-пад Гродна: «Так, жылі тут некалі ўніякі...» А тое, што грэка-каталікамі, то бок уніятамі, былі яе прабабулі і прадзядулі, яна не разумее. Маўляў, былі нейкія іншапланецяне, якія пасля адляцелі альбо вымерлі. Прыкладна так жа мы разважаем пра «балцкі субстрат»: жылі балты, прыйшлі славяне, усіх разагналі ды паўстала «вялікая Русь»!

***— А як было насамрэч?***

— Я не лічу, што меў месца нейкі масавы сыход балтаў і славянскае засяленне. Большасць насельніцтва, якая і зараз засяляе наш край, — гэта нашчадкі балтаў. Зразумела, што ад балцкасці, апроч генетыкі, амаль нічога не засталося. Спытай зараз любога беларуса альбо жыхара Смаленшчыны: ці асацыюе ён сябе з балтамі? З цябе пасмяюцца. Адбылася ў першую чаргу лінгвістычная каланізацыя, замена мовы.

### Гарады зрабілі з балтаў — славянаў

***— Фактычна гэтак жа, як і шмат стагоддзяў пасля, — русіфікацыя?***

— Схема абсалютна тая ж самая. Калі ўздоўж вялікіх рэкаў — Дняпро, Бярэзіна, Сож — з боку Украіны ішло славянскае насельніцтва, то на шляху яны засноўвалі гарады. Гэта былі фарпосты і адначасна гандлёвыя цэнтры, якія і арганізацыйна, і культурна былі на парадак вышэйшыя за паселішчы балтаў. Туды мясцовыя балты так ці інакш траплялі ды, з часам, пераймалі і мову, і культуру больш «дарослага», развітага і заможнага этнасу.

Роўна тое ж самае адбывалася і 50–100 гадоў таму, калі беларусы з вёсак траплялі ў гарады і ўжо пераставалі адчуваць сябе беларусамі, атрымаўшы моцную «прышчэпку» расейшчыны ў выніку ўрбанізацыі.

***— Як наконт думкі, згодна якой беларусы — гэта нашчадкі славянаў, а літвіны — балтаў? Ці так можна казаць?***

— Калі казаць пра спадчыннасць культурную, а не генетычную, то ў пэўным сэнсе можна. Нашы апаненты — заходнерусісты ды славянафілы — да гэтага і схіляюць, бо для іх «Літва» — гэта супернік, абсалютнае зло, калі казаць вульгарна. А Беларусь і беларусы, з націскам на «русь», іх цалкам задавальняюць, не трэба нават змяняць нічога: славянская ідылія.

Зараз ліцвінства — гэта пэўны блок саматоеснасці, у які кожны ўкладае тое, што хоча, у залежнасці ад сваёй глыбіні ды адукаванасці. Памятаю, як на пачатку 1990-х, шукаючы пэўнага кампрамісу, гісторыкі пісалі, што Вітаўт — гэта відазмененае імя «Віталь», Альгерд — «Алег», Пагоня — славянскі сімвал і г.д. Гэта троху камічна, бо такім чынам мы нібы цягнем на сябе коўдру панславізму. Маўляў, мы — галоўныя славяне, а сучасная Літва крадзе нашу гісторыю. Гэта было патрэбна, каб вывесці гісторыю Беларусі з ВКЛ, але пакінуць Беларусь — Беларуссю.

### Кельты, германцы і... балты

***— Лічыш такі падыход няслушным?***

— Гэта не зусім дасведчана, усё нашмат глыбей. Калі дакопвацца да праўды, шмат хто будзе банальна расчараваны. Сапраўды, сумна пачуць, што тваё продкі — балты — стаялі на ніжэйшым узроўні развіцця за славянаў. Але навошта гэта адмаўляць, прыніжаючы сябе? Тая ж гісторыя была і з кельтамі, і з германцамі, што былі значна больш «забітыя» за рымлянаў, якія прынеслі ім культуру. Але англічане ці немцы праз гэта не кажуць, што яны — нашчадкі раманцаў, нягледзячы на велізарны ўплыў Рыму на сваю культуру і гісторыю.

Можна і больш сказаць: эканамічна і тэхнічна Германія з




Гулец каманды па амерыканскім футболе «Ліцвіны»







Выданні 1990–2000-х, якія прапагандавалі ліцвінскую ідэю

# сапраўднае імя — Літва»

Вялікабрытаніяй пасля выбіліся наперад, у параўнанні з Італіяй. Паўночная цывілізацыя зараз у трэндзе. А мы чамусьці саромеемся, мажліва, не такога атракцыйнага мінулага, у параўнанні з суседзямі, але свайго.

***— Дык як у наступным — у часы ВКЛ — балты перанеслі на вялізную славянізаваную тэрыторыю сваё бачанне дзяржавы і сваю назву?***

— Не хацелася б раскідвацца меркаваннямі, маўляў, насельніцтва той жа Віцебшчыны ды Магілёўшчыны памятала аб сваім балцкім паходжанні, таму прыняло ўладу літоўскіх князёў балцкага паходжання і культуры. Але паступова людзі ўсё адно дыстанцыявалі сябе ад рэшты ўсходніх славянаў, што мы бачым таксама на прыкладзе драбнення на княствы так званай Кіеўскай Русі.

Міндоўг быў запрошаны на праўленне ў Наваградак, гэта была норма для сярэднявечча. Роўна як і Рурык са сваёй камандай быў запрошаны ў Кіеў, а праз больш як 1000 год — Саакашвілі ў Адэскую вобласць. Гэта запрашэнне легіянера, адміністратара альбо спецыяліста ў пэўнай сферы. Запрашэнне Міндоўга — гэта ў тым ліку палітычны «мір» з балтамі поўначы і ўзмацненне перад пагрозамі з Поўдня і Усходу: Галіцка-Валынская княства і татараў. Такім чынам, назоў «Літва» ў наступным паспяхова пашырыўся на ўсю тэрыторыю ВКЛ, роўна як і лічыць сябе «ліцвінам» стала значная колькасць людзей.

## «Лейты» вялікага князя і герб «Пагоня»

***— Дык Літва — гэта ўсё ж такі этнонім ці палітонім?***

— Калі быць зусім дакладным, то спярша гэта быў сацыёнім. «Лейты» — служылыя людзі літоўскага князя, якія адказвалі за «лейцы» — за коняў. Нездарма і герб — вершнік на кані, «Пагоня». Далей — харонім: на XII–XIII стагоддзя назва няскораных славянскімі княствамі земляў сучасных паўночна-заходняй Беларусі і Літвы. Урэшце, цягам 500 гадоў існавання ВКЛ тэрмінператварыўся ў палітонім — даў назву палітычнай нацыі для эліты Літвы.

Са скасаваннем прыгону ў Еўропе з канца XVIII стагоддзя, г.зн. з наданнем сацыяльных, палітычных і культурных правоў шырокім слаям насельніцтва, прыналежнасць да нацыі паступова губляла сваю элітарнасць. Былыя сяляне паступова, самастойна альбо з падачы элітаў, атрымлівалі сваю нацыянальную тоеснасць у сучасным разуменні. Ва ўмовах жа скасавання прыгону ў Расійскай імперыі цягам другой паловы XIX стагоддзя славянскамоўныя сяляне былога ВКЛ свядома ці несвядома пазбыліся элітаў, якія былі б лакаматывам для будавання здаровай нацыянальнай самаідэнтычнасці.

Бо і самыя прадстаўнікі ліцвінскіх эліт сталіся закладнікамі, з аднаго боку, паланізацыі, з другога ж — узроўню развіцця гістарычных навук, дзе Літва накладалася выключна на актуальны балцкамоўны рэгіён. Рэй у самаідэнтыфікацыі нашага народу падхапілі заходнерусісты, якія хутка знайшлі не толькі цывілізацыйны і культурны выбар для гэтых людзей, але нават назву — «беларусы» ў лучнасці з братамі: вялікарусамі і маларусамі.

Атрымліваецца, на канец XIX стагоддзя з новых мясцовых элітаў аб сваім ліцвінстве мог узгадаць толькі вельмі абазнаны чалавек. Нашыя сяляне ж яшчэ доўгі час называлі сябе так, як іх называлі эліты: пан, чыноўнік, поп/ксёндз. І вось, у час нараджэння ва ўсім цывілізаваным свеце этнічных нацый (і значыць, этнонімаў), ліцвіны апынуліся падзеленыя на палякаў (каталікі — «польская вера») і на беларусаў (праваслаўныя — «руская вера»).

***— То бок пра «ліцвінаў» як этнонім казаць усё ж такі не выпадае?***

— З этнонімам — складаней. Але ёсць яскравыя прыклады, калі жыхары вёскі па адзін бок балота называлі сваіх суседзяў па іншы бок «литвинами», а тыя іх, у сваю чаргу, «палешукамі». Заўважце, і тыя, і іншыя ў свой час былі ў складзе ВКЛ. Як з гэтым быць? Цікава, што ў сучаснай Беларусі самая «не балцкая» тэрыторыя — гэта акурат Паўднёва-Заходняе Палессе. Там жа паўстала і адно з самых старажытных у Беларусі славянскіх гарадзішчаў — Хатамель. Таму падобныя рэчы, нават карыстаючыся сучаснымі археалагічнымі і этнаграфічнымі напрацоўкамі, дагэтуль прасачыць надзвычай цяжка.

## «Памылка Каліноўскага»

***— Калі ВКЛ разам з Рэччу Паспалітай спыніла сваё існаванне, ліцвіны засталіся? Як надоўга?***

— Ажно да другой паловы XIX стагоддзя гэта яшчэ было актуальным, асабліва ў колах шляхты ды інтэлігенцыі. Як вядома, нават Дунін-Марцінкевіч лічыў сябе ліцвінам, не кажучы ўжо пра хрэстаматыйныя прыклады Міцкевіча, Касцюшкі, усёй кагорты філаматў і філарэтаў. Нават Эліза Ажэшка, вядомая як польская пісьменніца, падкрэслівала сваё ліцвінскае паходжанне. Іншае пытанне, чым ліцвінства было для гэтых людзей: прыналежнасцю да зямлі, якая складала Вялікае Княства, альбо да ліцвінскай нацыі? У гэтым і ёсць асноўная дыскусія.

***— А як быць з Каліноўскім, які звярнуўся да свайго народу як да беларусаў?***

— Каліноўскі выкарыстаў тэрмін, якім дагэтуль карысталіся збольшага заходнерусісты. Так, Каліноўскі чытаў кніжкі, гістарычныя і этнаграфічныя ў тым ліку. Нават для тагачаснага польскага гісторыка, таго ж Тэадора Нарбута, Літва была менавіта сучаснай Літвой, безумоўна балцкай, дзе славянскага нічога не было. Беларусы — славяне, літоўцы ці ліцвіны — балты, ВКЛ — вынік заваёвы балтамі-ліцвінамі славянскіх тэрыторый. Гэта было вельмі звужанае і спрошчанае разуменне працэсаў, абумоўлена тагачасным узроўнем развіцця гістарычнай навукі.

Вяртаючыся да Каліноўскага, магчыма, гэта была яшчэ і ягоная спроба супрацьпаставіць сябе і польскаму, і літоўскаму нацыянальнаму руху, які ўжо нараджаўся, папалам з гульнёй у «народніцтва»: маўляў, ліцвіны — шляхта, а беларусы — працавітыя сяляне. Адсюль і назваў, якую падхапіў Багушэвіч, а за ім і ўсе астатнія. Я лічу, што такі зварот да свайго народу і такая назва былі памылковымі.

## У Маскoвіі нашу мову называлі «ліцвінскай»

***— Чаму праз 150 год «ліцвінства» зноў стрэліла ў 1990-я?***

— Гэта было вынікам пошукаў сваёй ідэнтычнасці ў мінулым на хвалі цікавасці да ВКЛ і яго спадчыны. Шмат хто з адукаваных людзей зразумеў неадпаведнасць назвы «Беларусь» і прэтэнзіяў на спадчыну Вялікага Княства. Але пераканаць народ цяжка, усе звыкліся. Таму для сучасных прыхільнікаў «ліцвінства» Літва — гэта журавель у небе, а Беларусь — усяго толькі сінічка ў руках. Для мяне тая ж «беларуская пагоня» — гэта трошку абсурд. Нават Багдановіч пісаў пра «літоўскую пагоню» — гэта лагічна і гістарычна. Пры чым тут «беларусы»?

***— Тады і мову трэба называць не беларуская, а…?***

— А чаму не? Расіяне ж называюць сваю мову «рускай», хоць нават Ламаносаў казаў пра «российский язык». Русі ж не існуе, ёсць Расія, чаму тады мова «руская»?.. Нават украінцы сваю мову маюць значна большае права так называць як прамыя спадкаемцы той старажытнай Русі.

Мы кажам пра старажытнабеларускую мову, як канцылярскую мову ВКЛ, якой, у тым ліку, карыстаўся і Скарына, друкуючы «Біблію рускую». Але цікава, што ў Маскоўіі, апісваючы свае стасункі з Вялікім Княствам, называлі нашу мову «ліцвінскай». Не ўсё так проста і адназначна.

***— А як быць з сучаснымі літоўцамі?***

— Я акурат хацеў сказаць, што кпіць з літоўцаў, маўляў, яны — жмудзіны і не маюць права так сябе называць, гэта як мінімум не прыгожа ў дачыненні да аўтэнтычных балтаў, якія захавалі і назву, і традыцыю. Жмудзь — гэта толькі частка сучаснай Літвы, не ўсе літоўцы — жмудзіны, як і не ўсе беларусы — палешукі. Яны таксама маюць права на назву, трэба з гэтым лічыцца.

## «Ліцвінства» — каштоўнасць, а не «правакацыя»

***— Ці не можа «ліцвінства» стаць падставай для інтрыг і спробы расколу грамадства з боку той жа Расіі?***

— Для Расіі такой падставай можа стаць усё, што заўгодна: нават захапленне этнаграфіяй і вышыванкамі. Беларуская ідэнтычнасць нібы збудаваная, і кожны на пытанне пра нацыянальнасць вам адкажа: «беларус». Але гэта ж не нацыя ў поўным сэнсе слова, а насельніцтва, якое так звыкла сябе называць. Тут і праблема мовы, і праблема сімволікі, і разуменне гісторыі… Захочуць расіяне, то ўдараць па нам і без канфлікту «ліцвін/беларус». Для мяне «ліцвінства» — гэта каштоўнасць, таму я не магу пагадзіцца з тым, што гэта «правакацыя», якая наносіць маёй краіне шкоду.

Асабіста я дагэтуль перакананы, што яшчэ не позна вярнуць нашай дзяржаве яе сапраўднае імя — Літва. Роўна, як мы верым, што можа быць вернутая і Пагоня ў якасці дзяржаўнага сімвалу, хоць большасць насельніцтва гэтае пытанне абсалютна не турбуе: «Какая разніца?» І з гербам, і са сцягам, і з мовай, і з назвай народу трэба шмат што тлумачыць, а як інакш? І тлумачыць неабходна не толькі нашаму народу, але і суседзям, блізкім і дальнім. І адна толькі назва «Літва» легалізуе нашае месца як нацыі ў гісторыі, а значыць, у сучаснасці і ў будучыні.

***— Ці можа наш суайчыннік быць адначасна і ліцвінам, і беларусам?***

— Сучасны чалавек у XXI стагоддзі мае шырокі дэмакратычны выбар адносна таго, кім сябе лічыць. Канешне, можа. Але я асабіста хацеў бы, каб нашы сугрмадзяне, называючы сябе беларусамі, як мінімум ведалі, што ліцвіны — гэта іхныя продкі. Адпаведна, і яны самыя маюць поўнае права так сябе называць. І я хацеў бы, каб гэтая назва паступова вярталася ва ўжытак.



«Ліцвіны» сёння – гэта яшчэ і вядомая каманда па амерыканскім футболе – гонар краіны

# Піт Андэрсан — «унутраны вораг дзяржавы»



Сяргей ШАПРАН

**Першым савецкім рок-гуртом быў «Рэвенджэрс» з Рыгі. Для іх лідара Валерыя Сайфудзінава Піт Андэрсан перакладаў з англійскай мовы тэксты. Год таму, 20 студзеня 2016 года, Піта не стала.**

У 1972 годзе Сайфудзінаў з-за пераследу КДБ вымушаны быў эміграваць у ЗША, Піта ж недвухсэнсоўна папярэдзілі: «Падумайце: вы можаце страціць сваё дзіця»... У рок-н-рол ён змог вярнуцца толькі на пачатку 1980-х. Год таму першы савецкі рок-музыка Піт Андэрсан назаўсёды развітаўся з гэтым доўгі час нялітасцівым да яго светам.

## Самы пачатак

З кнігі музычнага крытыка Арцёма Троіцкага «Рок у Саюзе: 60-я, 70-я, 80-я...»:

«Доўгія пошукі пераканалі мяне ў тым, што першы сапраўдны рок-гурт з'явіўся ў Рызе. Каля платформы Імanta мяне сустрэў чалавек і, пасадзіўшы ў белую спартовую машыну «ханса» 1937 г., прывёз у свой вясковага тыпу катэдж. Там пад навесам стаяў яшчэ гіганцкі «б'юік-8» 1940 г... Чалавек — гэта Піт Андэрсан (сапраўднае імя — Петэрыс Андэрсанс), год нараджэння — 1945-ы, вельмі сціплы «вечны хлопец», у вялікіх акулярах і з прычоскай «вожык». Ён ніколі не быў прафесійным музыкам, хоць ужо больш за дваццаць гадоў іграе на гітары і спявае рок-н-рол.

Самым першым гуртом былі «Рэвенджэрс», ад англійскага «рэвендж» — «помста», хоць яны самі не вельмі разумелі, каму і за што помсцілі... Лідар і вакаліст — Валерый па мянушцы Сэйскі, напалову татарын, напалову габрэй. Ён заўсёды хадзіў з акустычнай гітарай, спяваў у парках і падваротнях, і яго каронным нумарам была «Уэн зэ сэйнтс гоў маршын ін» («Калі святыя маршыруюць» — джазавы стандарт пачатку стагоддзя). Адсюль і мянушка. «Рэвенджэрс» пачалі іграць у канцы 1961 г... Выступалі ў школах на танцах. Рэпертуар складаўся з рок-н-рольных стандартаў і чорнага рытм-энд-блюзу».

## Настальгія

Нейкі час мы нават суседствавалі ў Рызе. Піт, колькі я яго ведаў, заўсёды вылучаўся — тым, як рок-н-рольна-модна і з выклікам апранаўся, як молада выглядаў. Вылучаўся прыгожымі старажытнымі аўто і жонкамі, што кожнага разу былі значна маладзейшыя за яго. А яшчэ — рок-н-рольнымі рарытэтамі кшталту ботаў з буйлавай скуры Карла Перкінса (падарунак самога Перкінса) і, канешне, багатай калекцыяй музыкі, мусіць, на ўсіх вядомых музычных носьбітах, пачынаючы з бабін і вініла на сорак пяць ці сем з паловай абаротаў.

Калі мы пазнаёміліся ў сярэдзіне 1990-х, Піт не надта хацеў распавядаць пра мінулае, тлумачыў: «Ужо тры гады, як я пачаў усміхацца. Раней жа лавіў сябе на думцы, што быў вельмі панурым чалавекам. Гэта было ў пачатку 1980-х, калі я ўжо пражыў свае страшныя 1970-я і зноў стаў займацца рок-н-ролам. Я адчуваў, што са мной прыходзіў велізарны цяжар, які міжволі распаўсюджваўся і на тых, хто быў побач. Але апошнім часам я стаў зусім іншым у зносінах — я папраўляюся».

Зрэшты, пра мінулае ён ніколі не забываўся, гаварыў, што памятае ўсё да драбнюткіх падрабязнасцяў. І чым больш мінала часу, тым часцей драматычнае мінулае ўсплывала ў памяці. «Нічога дзіўнага ў тым няма — элементарная настальгія», — знаходзіў ён тлумачэнне.

Па словах Піта, гэта быў амаль што падпольны антысавецкі гурток, яго ўдзельнікі падсвядома гэта разумелі. Антысавецкія погляды Андэрсана далі ведаць аб сабе задоўга да 1961 года. Так, да прыкладу, яго выключылі з піянерскай арганізацыі за тое, што ён разбіў бюст Леніна — нібыта выпадкова разбіў, але насамрэч наўмысна. Ён ніколі не быў камсамольцам. І ў школьным сшытку маляваў Мікіту Хрушчова: свіныя лычык і вушкі і пачатак кукурузы ў руцэ. Калі вучыўся ў тэхнікуме, напісаў фантасмагарычны твор пра жудасную катастрофу, што адбылася з камуністычным ладам. Гэты дзённік потым знайшлі, і Піта двойчы выключалі з тэхнікума...

Заканчваліся 1950-я гады. Па Рызе развязнай паходкай шпацыравалі стылягі, у кароткіх вузкіх штоніках і яркіх шкарпэтках. «Усё гэта было ўтрыраваным, знявечаным, нейкім асавечаным варыянтам амерыканскай моды, — распавядаў Піт. — Я ж адносіў сябе да групы маладых людзей, якія называлі сябе «штатнікамі»: гэта была



Забаронены канцэрт на прыступках Планетарыя, 1965 г.



Піт Андэрсан

бездакорна апранутая, вельмі акуратная моладзь. Часам нам трапляліся амерыканскія ілюстраваныя часопісы, у якіх былі фотаздымкі добрапрыстойных амерыканскіх сем'яў. На гэтых людзей мы і імкнуліся быць падобнымі».

Дакладнай даты нараджэння гурта «Рэвенджэрс» не існуе. Вядомы толькі год — 1961-ы. 15-гадовы Піт дапамагаў свайму сябру Валерыю Сайфудзінаву перакладаць тэксты амерыканскіх рок-крыніц — рабіў падрадкоўнікі. Ужо пазней, калі «Сэйскі» прызвалі ў шэрагі Савецкай Арміі, Піт (які восем гадоў правучыўся ў музычнай школе па класе фартэпіяна і тэорыі музыцы і з 11-ці гадоў слухаў заходнія радыё) сабраў уласны гурт. Ён атрымаў найменне паводле назвы брытанскага часопіса «The Melody Makers» і практычна адразу стаў папулярны. Першая ж песня, якую Андэрсан выканаў са сцэны, была «Long Tall Sally» Літл Рычарда. Дарэчы, ён рэгулярна наведваўся ў Талін, каб пагля- дзець поп-праграму па Фінскім тэлебачанні, якое прымалася тады ў савецкай Эстоніі.

Бас-гітар у продажы ў той час не было (яны з'явіліся ў крамах толькі ў 1967-м), таму іх рабілі самі, для чаго бралі струны ад раяля. І каб не параніцца, першы савецкі рок-н-рольны бас-гітарыст Зянон Янушка закручваў пальцы ізаляцыйнай стужкай.

«Што добрага было ў тым часе? — перапытваў Піт. — Бесклапотнасць, бясстрашнасць, надзеі і атаясненне сябе ў нейкай ступені з заходнімі рок-гуртамі і спевакамі. Немалаважна было і з'яўленне адданых фанаў ды наяўнасць аднадумцаў».

## «Свабоду гітары!»

Андэрсан не мог прыгадаць, каб, калі толькі закручвалася гэтая рок-н-рольная спружына, савецкая ўлада адвaчона нядобразычліва рэагавала на піянераў айчыннага рок-н-ролу. Негатыў з боку «афіцыёзу» пачаў нарастаць бліжэй да сярэдзіны 1960-х і дасягнуў апагею толькі ў 1965-м, калі быў забаронены канцэрт у рыжскім Планетарыі (цяпер гэты будынак вернуты Рускай праваслаўнай царкве), і ў выніку ўзнікла спантанная дэманстрацыя, якая доўжылася некалькі гадзін. І гэта яшчэ ў тыя гады!

Піт распавядаў: «Красавік 1965-га. Планетарый быў месцам, дзе ў былым праваслаўным саборы камуністы зрабілі музей атэізму і планетарый, а таксама кафэ і канцэртную (лекцыйную) залу. У кіраўніцтва ж самога Планетарыя погляды былі даволі смелыя і прагматычныя. Яно, гэтае кіраўніцтва, вырашыла, выцягнуўшы нас з-пад падполля, зладзіць канцэрт. Выступ быў прызначаны апоўдні адной красавіцкай нядзелі. Загадзя была вывешаная афіша з нашымі фотаздымкамі. У выніку квіткі былі распрададзеныя імгненна — да таго часу мы ўжо мелі даволі скандальную вядомасць. Мы — гэта гурт «The Melody Makers». У дзень канцэрта раптам стала вядома, што Міністэрства культуры і БЭА (Бюро эстрадных аркестраў) канцэрт забаранілі. Аднак публіка квіткі здаваць адмовілася, і я прапанаваў правесці канцэрт на вуліцы — на прыступках Планетарыя, што мы і зрабілі...

Ужо падчас нашага выступу спантанна з'явіліся самаробныя плакаты: «Далоў БЭА!», «Свабоду гітары!», «The Melody Makers» і г. д. Народу сабралася процьма. Мы ўжо праспявалі ўсю праграму, калі прыехалі кадэбэшнікі. Аднак у іх шэрагах панавала непаразуменне — яны не ведалі, што рабіць. Напэўна, таму нікога не чапалі і не арыштоўвалі, затое правялі кіна- і фотаздымку.

Такі вось атрымаўся «хэпенінг», абсалютна беспрэцэдэнтны ў гісторыі СССР. Мяне, як завадатара, уключылі ў спісы нелаяльных унутраных ворагаў дзяржавы».

**Працяг у наступным нумары**

**Фота з архіва аўтара і з афіцыйнага сайта Піта Андэрсана www.pitsandersons.lv.**

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але атрымаць «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо проста патэлефанаваць у рэдакцыю (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём).

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл., код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Таксама можна атрымаць газету ў нашым офісе і ў нашых прадстаўнікоў:**

**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась

**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда

**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

Кошт аднаго месяца — **3 рублі 20** капеек, **квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 86

Падпісана да друку 27.01.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.